Мінаўся дзень.
Шарэў марозны вечар.
Узор па стылай шыбе нарастаў.
І мімаволі прыгінала плечы
Тупая стома ад бяссонных спраў.

Ільіч падняўся з плеценага крэсла
І падышоў паволі да акна.
Сутонне воку яшчэ больш падкрэсліла
Зубчастая крамлёўская сцяна.

Маўчала заінелае бязмежжа.
Бязлюдна двор заменены бялеў.
І толькі ад зялёнай Спаскай вежы
Было, здаецца, небу весялей...

Канчаецца халодны, доўгі студзень,
Патроху набліжаецца вясна.
Спакутваліся, згаладнелі людзі,
А ўсё не адступаецца вайна.

Грабуцца на ўзбярэжжа акупанты.
Бандыты подла тояцца ў глушы.
Рукою распанелаю
Антанта
Расіі горла хоча раздушыць...

Ён абхапіў шырокі лоб гарачы
Халоднаю стамлёнаю рукой.
Памылкі.
Здрада.
Сабатаж.
Няўдачы...
Ці думаў ён аб барацьбе такой?

Так, думаў.
І чакаў.
І добра ведаў.
Але як трудна вопытам сваім
Ачысціць ад усіх хвароб і бедаў
Святую справу, на якой стаім!

Баі і страты.
Пошукі і праца.
Стукоча кроў разгневаная ў скронь.
Даводзіцца да мэты прадзірацца
Праз невядомасць, рызыку, агонь...

Зірнуў па карту.
Вусны сцяў упарта.
І погляд стаў нахмурана-цяжкі.
Як саранча, уселіся на карту
Франтоў варожых чорныя сцяжкі...

«Нічога. Перасілім. Перацерпім.
Падорым свету здзіўленаму ўзор.
Per aspera — ad astra![1]
З нашых церняў
Прарвёмся ў неба, даляцім да зор!»

---

[1] Праз церні — да зор! (лац.)

І весела ўсміхнуўся:
«Будзе, будзе
І росквіт,
і дастатак,
і спакой.
І будуць прыязджаць у госці людзі
Пакратаць рэвалюцыі рукой...»

Твар Ільіча праясніўся шчасліва,
Густая чырвань прыліла да шчок.
Але прыцішыў ён свой крок імклівы:
Кальнула востра ў левае плячо.

Перачакаў ён моўчкі боль знаёмы,
Паморшчыўся з трывогай:
«Ад чаго б?
Надвор'е пераменіцца?
Ад стомы?..»
Зноў абхапіў рукой шырокі лоб.

І спахапіўся —
на парозе з папкай
Таптаўся нерашуча сакратар.
— Праходзьце. Гэта я...
не адаспаўся...—
І даланёй пацёр збялелы твар.

Нібыта адганяючы замінку,
Махнуў рукой:
«Ну што вы там? Смялей!»
— Тут тэлеграма... З Беларусі. З Мінску...
— Пакіньце, калі ласка, на стале...

У памяць зноў вяртаючы турботы,
Паволі да стала пакрочыў ён.
І прыгадаўся год дзевяцісоты.
І Мінск.
І душны ліпеньскі перон...

*

**МІНСК, 15 ЛІПЕНЯ 1900 ГОДА**

Натужна прасіпеў гудок,
І бег свой сцішылі вагоны.
Правінцыяльны гарадок
Цікаўна пазіраў з перона.

Мільгнуў за агароджай сквер
З радамі лавак апусцелых.
Стаяў вусаты афіцэр
Сярод паненак пышнацелых.

Як веерам, капелюшом
Дзяцюк гнаў ветрык тоўстай цётцы.
Худы чыгуначнік прайшоў
У замусоленай спяцоўцы.

Схаваўся пад цяністы клён
Жандар ад ліпеньскай задухі.

Стары станцыйны медны звон
Абселі зморанья мухі...

Ён прагна да акна прынік,
Спяшыў разгледзець горад новы.
Гукнуў прывычна праваднік:
— Стаіць гадзіну наш паштовы.

А побач сон дзяржаўны муж,
Губу скрывіўшы:
— Нецікава.
Дрымотная, сляпая глуш,
Хоць блізка Прага і Варшава.

Падтакнуў нехта:
— Што й казаць!
Няма чым Мінску задавацца.
Якая Прага? І Казань
Тут будзе Лонданам здавацца.

А вы паслухайце як след
Гамонку моладзі мясцовай —
З расейскай, польскай вінегрэт,
Што клічуць беларускай мовай...

Да самабытнасці дайшло!..—
І ў згодзе дружна заіржалі.

«Вось вам нахабнае мурло
Расійскага самадзяржаўя.

Іх, бачце, не цікавіць глуш.
Ім нават хочацца Еўропы...
Турэмшчыкі народных душ!
Людской свабоды далакопы!»

Ён іх рашуча абмінуў,
Прабег вакзал двухпавярховы,
Гукнуў рамізніка,
і — ну! —
Аб брук зацокалі падковы.

Што горад мог яму адкрыць
Сваёй звычайнасцю залішняй? —
Над ратушай — варонін крык.
На ўскраіне — ля вокан вішні.

Цяжкое ўзорнае ліццё
Варот чыгунных і балконаў...
Глухое соннае жыццё
Паводле дзедаўскіх законаў...

Рыпела брычка спакваля.
Рамізнік лейцы падварушвау.
Сляпні віліся ля каня...
Ён усміхнуўся:
«Як у Шушы...»

З шынка,
з расчыненых дзвярэй,
Каціўся рогат п'янаваты.

Стары прыгорблены яўрэй
Драмаў на зэдліку ля хаты...

Ды над каравасцю халуп
Сабор узнёсся вастраверхі
І ўскінуўся купецкі клуб,
І дом ажно на тры паверхі.

Ён з горыччу ўздыхнуў:
 «І тут
Раскоша высіцца над ліхам.
Сярод галечы і пакут —
Свая губеранская пыха.

Свае жандары і шпікі.
Свае слухмяныя мяшчане...»
І па душу лёг сум такі,
Аж дзень памерк перад вачамі.

Але ён знаў:
 тут ёсць дамок,
Каля штыкетніка рабіна,
Дзе партыя свой першы крок,
Як сіла новая, зрабіла,

Дзе быў прыняты маніфест
(Пайсці б і дому пакланіцца!).
Ёсць партыя...
 Ёсць першы з'езд —
Як першы подых навальніцы.

Блядней, буржуйскае мурло!
Дрыжы, забітасць векавая!
Нас Рэвалюцыі кайло
Навекі хутка пахавае...

І жвава схамянуўся ён —
Хлапчук здалёк прасіў спыніцца
Бег, басаногі, наўздагон:
— Вазьміце, дзядзечка,
 суніцы!

Пыл на густым загары шчок.
Лоб абзялёнены травою.
Кулёк схаваны ў кулачок.
А вочы слепяць сінявою.

Ён заўсміхаўся хлапчуку,
На брук ступіў насустрач.
Першы,
Як сябруку,
Падаў руку:
— Ты хто?
— Я?.. Беларус. Тутэйшы.

— Тутэйшы беларус? Ды ну?! —
Падставіў прыгаршчы:
— Сыпні-ка! —
І водар радасна ўдыхнуў:
— Дык гэта ж, браце,

земляніка.

Сам назбіраў ты?
— Анягож!
Хачу рубель скапіць за лета
І кніжак накупіць пабольш.
Ну складна ж пішуць іх паэты!.

І сіні погляд палыхнуў
Такой цікаўнасцю хлапечай,
Што ёй расчулена ўздыхнуў
І хлапчука абняў за плечы:

— Ну вось.
А нехта кажа «глуш»,
Сляпая, цёмная, дурная...
Змяце народ цароў, чынуш —
І беларусаў свет прызнае.

І будзеш мець ты многа кніг,
Што склалі за вякі паэты.
І, можа, сам напішаш іх
Пра свой народ і горад гэты.

Адно запомні:
не рабей
І будзь гатоў за шчасце біцца...—
І ўклаў яму ў кулак рубель.—
Цудоўныя твае су-ні-цы...

І доўга-доўга,
як вагон
Ізноў паплыў па рэйках гулкіх,
Задумліва ўсміхаўся ён,
Прыпамінаючы прагулку

І незнаёмай мовы гук,
Як першародны ўсплёск крыніцы,
І з кволых хлапчуковых рук
Буйныя спелыя суніцы...

*

...Зноў сеў за стол Ільіч.
Прысунуў лямпу,
Святло ўключыў, блакнот свой адгарнуў.
І ўзяў нарэшце ў рукі тэлеграму:
«Якую ж ты прынесла навіну?»

Прабег вачамі.
І з усмешкай светлай
Убок адклаў паперу і пяро.
«Прыехаць просім... Першы з'езд Саветаў...
Часовы ўрад. Цэнтральнае бюро».

Адкінуўся расхвалявана ў крэсле:
«Ідзе сваёй дарогаю жыццё.
Як нас ні пракліналі, як ні трэслі,
А мы жывём, дужэем і расцём.

Яшчэ адна рэспубліка над сцягам —
Дзяржаўнасць аб'яўляе Беларусь.
Вось і адказ усім буржуйскім звягам...
Не затрымаць рэвалюцыйны рух!..

Што ведаў свет пра бедны край бяспраўны
Што там каўтун, пяскі ды камары?
А колькі пра яго раскажа праўнук
Ці нават сын кастрычніцкай пары!

Як ён сягне да новых далягляд!..
Здыміце-ка, панове, капялюш...
Народнай воляй, справядлівым ладам
Мы ўзнімем з небыцця мільёны душ...»

І Ленін захадзіў на кабінеце
З кароткай тэлеграмаю ў руцэ.
«Бляднейце, балаховічы, бляднейце!
Таго, што маем, не адбераце!

Не толькі волю — мы народам памяць
Вяртаем, каб са славаю жылі,
Каб годнасць, дратаваную вякамі,
Прынеслі на паказ усёй зямлі,
Каб бераглі гісторыі карэнне,
Былым не падуладнае гадам...»

І ўспомніў,
  як у Празе
  з захапленнем
Скарынінскія кнігі разглядаў...

*

## СКАРЫНА

Кожная птушка ў сваё гняздо вяртаецца з выраю,
Кожны бадзяга-звер знаходзіць сваю бярлогу.
Кожная рыба свайго трымаецца віру.
Дык ці ж магу я забыцца матчынага парогу?

Кожная краска ўсцілае сваю сцягу палявую.
Кожнае дрэва скідае ліст свайму долу.
Кожная пчолка прыносіць мёд у свой вулей.
Дык ці ж я мог сваіх кніг не прынесці дадому?

Шмат я па свеце прайшоў, шукаючы ўдачу,
Многа пабачыў.
Ды вочы былі сухія.
А тут
  мімаволі ўсцешана плачу,
Ледзьве здалёку ўгледжу купал Сафіі.

Мне віначэрпіі Падуі, Кракава, Прагі
З сонечным сокам кубкі падносілі залатыя,
Ды не маглі наталіць яны смагі

Так, як звычайны карэц,
калі чэрпну маёй Палаты я.

Мне саладзейшыя самыя
ветры з Дзвіны баравыя
І плытагонскіх кастроў паўночны куродым.
Калі ў далёкіх краях на мяне заяўлялі
правы,
Я
Паўтараў, што са слаўнага Полацку родам.

Ты мне, мой горад, даруй,
што ціхае імя Францішак
Я намяняў на нянаскае, гучнае імя Георгій.
Радзімы ж сваёй не мяняў, як нацельны
крыжык.
Ад мовы сваёй не адрокся ні ў шчасці, ні ў
горы.

Мэту маю і надзею, пакуту маю і трывогу,—
З літар, як з кропелек поту, збіраў я свае
першадрукі
Не для цароў венцаносных, абраннікаў бога,
А для цябе, светласэрцы мой люд чарнарукі.

Як я хацеў,
каб ты вольнасці здолеў напіцца,
Каб пасяліў назаўсёды ў хацінах асвету,
Вокладкі кніг расхінуў — як адчыніў
акяніцы
І падзівіўся бязмежжу і мудрасці свету.

Не дзеля гучнага імя і нейкай дзівацкай
фатыгі —
Дзеля дабра твайго выбраўся я ў шлях
далёкі.
І як на плошчах палілі ў кастрах мае кнігі,
Хіба табе, мой народ, не балелі апёкі?..

Я каралеўскі батанік і лекар. І знаю:
няма таго зелля,
Што хоць па міг ад тугі па Айчыне
вылечвае.
Ды і ў грудзях маіх, можа, не сэрца —
вузельчык
З роднай зямелькаю, цёплай і вечнаю...

*

...Ільыч на міг спыніўся каля печы,
Спіною прыхінуўся да яе,
Ды толькі кафля не сагрэла плечы —
Дроў і ў Крамлі сягоння не стае.

Тут быў нядаўна селянін далёкі.
Разважлівы, негаваркі хадок.
Дык здзіўлена пахукваў на далоні
І паціскаў плячамі: «Халадок».

Ад усяе вясковае арцелі

Даў тэлеграму Ільічу пасля,
Што дроў вагон яны прыслаць хацелі
І — каб зрабіў «буржуйку» — каваля...

Прыпомніў — і цяплей адразу стала.
Што дровы?
Дровы будуць — дайце час.
Каб толькі не звяла вайна на гала
Вось гэтай цеплыні людской запас.

Святы народ —
галодны і разуты,
Не падае перад бядою ніц.
Калі яму за слёзы і пакуты,
За ўсё
мы зможам шчасцем адплаціць?

Які дзівак назваў яго пакорным? —
Пра Пугачова прыгадаў бы хоць...
Гісторыі бязлітасныя жорны
Но здолелі яго перамалоць.

Ён вечна праўды і свабоды прагнуў,
А не раскошы сытых барышоў.
Таму з такой спакойнаю адвагай
Праз плёткі і шпіцрутэны ішоў.

І вісельні — слупамі верставымі.
І лепшыя сыны — на эшафот...
Ніводнае мы не забудзем імя.
Усіх герояў будзе знаць народ...

Ільіч прымружыў стомленае вока,
Нібы ізноў прайшоў дарогу страт...
І ўсплыў так ясна з памяці глыбокай
Бязвусы родны твар —
старэйшы брат.

«Мы барацьбе вучыліся няпроста —
Над хмарамі падполля і атак.
З няўмельства і наіўнасці выраствалі,
Пакуль сабралі сілы ўсе ў кулак...»

І прыгадаў:
учора, перад чаем,
Надзея бацьку ўспомніла, як той
Расказваў пра мужыцкі бунт адчайны,
Што палымнеў над Польшчай і Літвой,

Як з-пад застрэшша бралі косы
вёскі,
Пажарам грэлі панскую зямлю
І як ішоў бясстрашна Каліноўскі
Пад царскую пянькову пятлю...
*

## КАЛІНОЎСКІ.
## ВІЛЬНЯ, 22 САКАВІКА 1864 ГОДА

Ён ішоў між штыкоў і шабляў

І ўсміхаўся на поўны рот,
Што жандары на вуліцы зяблі
І чакаў пракурор ля варот.

Пасля камеры запляснелай
Піў марозную свежасць усмак.
І на сэрцы ў яго яснела.
Адпаўзаў
страху слізкі слімак.

Над турэмнаю чарапіцай,
Над густым частаколам крыжоў
Сонца грэлася,
каб напіцца
Заўтра мог верабей з капяжоў.

Ён на вуліцу выйшаў пакорна,
Удыхнуў
дыму хатняга пах
І падумаў зусім спакойна:
«Гэта вось мой апошні шлях».

Камяні, што масцілі шлях той,
Нагадалі яму акурат
Кашалькі ненавіснай шляхты
І падсумкі царскіх салдат.

Нібы выкінутыя, ляжалі.
Іней стыў на іх, быццам пыл.
І падумаў ён з горкім жалем:
«Эх, каб панскія чарапы!

Малавата я іх раструшчыў.
Мнагавата іх на зямлі...
Толькі б пушчы, цёмныя пушчы
Грознай помстай не адгулі!

Толькі б веры не пахіснулі
Ні нагайкі, ні недарод!
Толькі б порах збярог, і кулі,
І нянавісць спаю народ!..»

Сакавіцкі марозны ранак
На сумёты клаў цень касы.
Вытыркаліся з-за фіранак
Палахлівых паненак насы.

Праімчаў праз дарогу на брычцы
Нейкі важны віленскі туз,
Пагразіў кулаком па прывычцы.
А рамізнік прыўзняў картуз.

Тупа ўзвод паліцэйскіх пратопаў.
Афіцэр гаркнуў: «У-зяць нагу!..»
І ўжо блізка чуцён натоўпа
Несціханы, стрыманы гул.

Недзе там —
кажухі і абноскі.
Там браты яго — мужыкі.

Іх пабачыць хацеў Каліноўскі.
Хоць здалёк, хоць па момант які.

Толькі б стражнікі не адцёрлі,
Толькі б з плошчы не выгналі іх...
І ажно перасохла ў горле,
Як падумаў пра страшны міг.

Не было ў душы шкадавання,
Нават крыўды на лес не было,
Што вось гэта халоднае ранне
Назаўсёды натушыць святло.

А была палыновая горыч
І бяссільная злосць
ад таго,
Што не ён паноў аб'ягорыў,
А яны ўсё ж злавілі яго.

І вядуць па апошняй дарозе,
І нахабна ўзіраюцца ў твар,
Быццам гэта не ён —
той грозны
Яська, віленскі гаспадар...

Вось і плошча.
Марозны вецер
Пругка хіліць пятлю на ўсход.
Над людзьмі,
над усім на свеце
Узвышаецца эшафот.

Ён хаду запаволіў трошкі
І на сонца зірнуў з тугой.
У цішы звонка рыпнулі дошкі
Пад яго маладой нагой.

Стаў пад шыбеніцу рашуча,
Быццам пераступіў парог.
І, як дымка з надрэчнай кручы,
Над натоўпам паплыў спалох.

Хто — з нянавісцю,
хто — з адчаем
Пазіралі на эшафот.
І ад радасці надзвычайнай
Ззяў, як люстра, жандарскі бот.

Ад яго шырокага ранта
Не адводзіў пагляду шпік.
У збялелага фабрыканта
Торгаў вока нервовы цік.

Як нямая шэрая лава,
Разлілася чыноўная раць...
Усміхнуўся Кастусь:
«Вам цікава,
Як я буду тут паміраць?

Што ж, спектакль такі не рэдкі.

Дык чаго ж вочы хіліце ўніз
І забылі прынесці кветкі,
І не чуецца воклікаў «біс»?

Ні маленнем, ні здрадай новай
Я пацешыць вас так і не змог.
І зірніце:
не я, панове,—
Вы сягоння ў мяне каля ног».

Яшчэ вышай ускінуў голаў
І заўважыў ён:
там, дзе штыкі,
За ватоўкамі балаголаў
Калыхаліся армякі.

Там было неспакойна,
быццам
Людзі рваліся з ланцугоў,
Там хацелі наперад прабіцца,
Да яго бліжэй, да яго...

Віратлівай паводкай гулу
Падмывала там цішыню...
І душу яму ўскалыхнула
Цёплай хваляю ўпершыню.

«Вы са мною ў мой міг апошні,
Мае родныя мужыкі!
Я дзяліў з вамі дзень ваш посны,
Гарапашны ваш лёс цяжкі.

Я ў адчаі кляў разам з вамі
Ніву бедную і сенажаць.
Пот салёны вы засявалі,
Каб пасля слёзы горкія жаць.

Вам і рукі, і душы скруцілі,
Завязалі на сем вузлоў,
Каб маўчалі. вы, як скаціна,
Нават родных не помнячы слоў.

Абкрывянілі сэрца даволі
Здзекаў, крыўд і няпраўд асцюкі...
Я хацеў вас прывесці да волі.
Я вам шчасця хацеў, дзецюкі.

Не дасяг я жаданай мэты,
Ды не плачу ўсё ж ні аб чым:
Не памру я незразуметым,
Бо змагацца я вас вучыў.

Не чакайце ж здалёк падмогі
І не верце ў добрых цароў.
Колькі будзе жыцця і змогі,
Не пускайце з рук тапароў.

Шкода, што ўжо не ўведаю,
зноў з кім
Вы падымеце бунт святы.

Аб сваім Кастусю Каліноўскім
Прыгадайце тады, браты!..»

І хацеў ён вышэй прыўзняцца,
Зноў зірнуць па свой крэўны люд.
Толькі раптам,
нібы знянацку,
За спіной загучаў прысуд.

Даляцелі,
як адгалоскі,
Непрывычных слоў камяні
Пра яго:
«Дваранін... Каліноўскі...»
Кату крыкнуў ён:
— Не мані!

Я з народам навек з'яднаны.
Што вы глупстваў панаплялі?!
Ні халопаў няма, ні дваранаў —
Людзі роўныя на зямлі!..

І ні слёз у вачах, ні жаху,
Калі змоўкла плошча пасля
І няўмольна халоднай вужакай
Абвіла яго шыю пятля.

«Будзь здаровы, мужыцкі народзе!
Хай нядоля цябе абміне.
Гіну я за цябе.
Пры нагодзе
Спамяні добрым словам мяне.

Быў я сын для цябе, а не лёкай.
І калі адляціць мой дух,
Будзеш ты мне, зямелька, лёгкай,
Мяккай, як жаўруковы пух.

Без мяне прычакаеш радасць.
Станеш слаўнаю між людзьмі.
Даў табе я мужыцкую праўду,
А свабоду сама вазьмі...»

Закрычала жанчына нема.
Засланіла сонца імгла.
Пахіснулася рантам неба.
Пад нагамі зямля паплыла.

І калі
цела
цяжка
абмякла
І заціх гордай шыі хруст,
З губ сплыло развітальнае:
— Матка-а!
Бе-ла-ру-у-усь!..

*

...Ільіч любіў у карту паўглядацца.

І зараз засяродзіўся над ёй.
Дарог перапляценні,
кропкі станцый —
Тут свой парадак, сэнс глыбокі свой.

Нямая карта шмат чаго раскажа,
Ледзь толькі да яе знайдзі ключы:
Куды з нарабаванаю паклажай
Дзянікінцы збіраюцца ўцячы,

Дзе самыя вялікія заводы,
Дзе нафта, дзе няворaны аблог...
Ён з картай размаўляць умеў заўсёды,
Гадзінамі над картай думаць мог.

Цяпер на Беларусь ён кінуў вока.
Пражылкі рэчак.
Пацеркі азёр.
Густых лясоў зялёныя валокі.
Палесся неразведаны прастор...

Дарэчы,
быў цікавы ліст з Палесся:
Вядуць паўстанцы ўдалыя баі.
«А вось якія там спяваюць песні?
Якія там палеткі і гаі?

Якая там апратка і гаворка?
Хто дум і парыванняў валадар?..»
І ўспомніў, што яму расказваў Горкі
Пра двух паэтаў, іх выдатны дар:

«Так добра пішуць, проста і сардэчна.
Не чутае раней, а з першых рук.
З забытасці, з маўклівасці адвечнай
Выходзіць да народаў Беларусь...»

І прыгадаў:
Суніцы...
Нос кірпаты...
Зяленіва густое на ілбе...
«Спытацца пра выдаппо хрэстаматый»
Міжволі ён напомніў сам сабо.

І тут жа ў памяці ўсплыло:
«Купала...»
Паэтава імя гучала так!
«Каб вольная хвіліна перапала,
Абавязкова трэба пачытаць...»

## КУПАЛА

Сярод балот, лясоў і выспаў
Ёсць занядбаны богам кут.
Мне лес такі на долю выпаў —
На белы свет радзіцца тут.

Мяне з-пад сонца, як зазвычай,
Падкінуў бусел над страху
І ад калыскі мне пазычыў

Жалейку, пугу і саху.

І ўжо, куды ні сабяруся,
Куды дарога ні намкне,
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Маёй пакутнай старане.

* * *

Я пахадзіў па свеце белым,
Жыццё пабачыў без пакут,
А сэрца ўсё адно балела
За бедны мой забраны кут.

Як цуд чужы вачэй ні цешыў,
Душа шаптала мне сама:
Ёсць край цяплейшы, багацейшы,
Але раднейшага няма.

Ці абзавуцца ў небе гусі,
Ці дзяцел грукне па сасне,
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Лясной, азёрнай старане.

* * *

Я праг для бацькаўшчыны шчасця,
Гатовы быў хоць на вайну,
А змог ёй толькі песню скласці
І разбудзіць яе ад сну.

Я гаманіў у кожнай хатцы
Тым словам, што жыло з вякоў,
І клікаў я народам звацца
Забітых працай мужыкоў.

Заўсёды аб адным малюся:
Хай пошасць нас не закране.
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Шчаслівай, вольнай старане.

Я прычакаў агнёў свабоды,
Іх жыватворчага святла.
І свой пасад сярод народаў
Мая радзіма заняла.

Пазбыўся мой народ прымусу,
Сагрэўся чырванню сцягоў.
Кім быць на свеце беларусу,
Цяпер залежыць ад яго.

А я і ў радасці, і ў скрусе,
І калі сцішуся ў трупе,
Сніць буду сны аб Беларусі —

Маёй радзімай старане...

*

...Вярнуўся да стала Ільіч.
Стамлёна
Настольны каляндар перагартаў,
«Паехаць бы...»
А тут — турбот мільёны.
Нявыкрутка.
Стос неадкладных спраў.

У войсках тыфус...
Не хапае хлеба...
Адкуль узяць для конніцы авёс?..
У зброі надзвычайная патрэба...
І — дровы. Гарады скаваў мароз...

Зняў трубку тэлефонную:
— Свярдлова.—
Адклаў паперы, скрэсленыя спрэс.—
Міхайлавіч?
Прашу вас.
Тэрмінова.
У Беларусь. У Мінск... На Першы з'езд.

Віншуйце беларускіх камуністаў
З рэспублікаю, роўнай між сясцёр,
Ад партыі, Расіі.
Асабістае
Мае вітанне ім перадасцё.

Скажыце, што заняты я без меры,
Што з Беларуссю роздумы мае...
Скажыце, што мы ўсе бязмежна верым
У будучыню светлую яе...

*

*Можа, зморшчыцца строгі гісторык:*
*«Факты выбраў на свой капыл.*
*Гэтак нехта напіша скора —*
*Ленін думаў і... пра Капыль...»*

*Я, не крыўдзячы мудрай навукі,*
*На сябе адказнасць вазьму:*
*Ленін думаў*
*пра нас і ўнукаў,*
*Пра Капыль, і Лагойск, і Карму.*

*Бачыў ён і далёкую далеч,*
*Што на цэлы сусвет адна,*
*І маленькую вёсачку Малеч,*
*Што на карце і не відна.*
*І калі мы на стол гасцінны*
*Засцілаем белы абрус,*
*А на ім у нас —*
*мёд пчаліны,*
*Хлеб пшанічны і сала брус;*
*І калі ўжо няма пуцявіны,*

*Па якой бы вярнуўся прымус,*
*І на плечы нашы машыны*
*Двухсоттонны ўзвальваюць груз;*
*І калі звон цымбалаў былінны*
*Чуюць сёння Памір і Эльбрус,*
*А ў сівой вышыні жураўлінай*
*Аж да зор даляцеў беларус,—*
*Дык таму,*
*што штодня, штохвіліны*
*ЛЕНІН*
*ДУМАЕ*
*ПРА БЕЛАРУСЬ...*

# 1978 — 1985

# Вершы

* * *

«Што ты так прыкуты да радзімы? —
Часам чую хітранькі дакор.—
Свой лясны куток незамянімы
Памяняй на ўвесь зямны прастор.

Расхіні душу сваю шырока —
І не ціхі плёскат ручаёў,
А магутны акіянскі рокат
Хай яе напоўніць да краёў.

Кінь зацішак баравы, ажынны —
Пі самум пякельны, як пяршак.
Вырвіся з запыленых сцяжынак
На бетонам сцелены бальшак.

Паглядзі, як шмат над небам сінім
Неспазнаных прэрыяў і гор!..»
І каму не здасца нрагрэсіўным
Гэты палкі заклік і дакор?

Я ж і сам хачу пабачыць свету,
Памаўчаць ля вечных таямніц
І калі не іншыя планеты,
Дык хоць нашу ўведаць да драбніц.

Сам хачу ацэньваць не завочна
Па чужых славутасцях маршрут...
Толькі вось для гэтага навошта
Забываць або мяняць свой кут?

Чым такім ён горшы між астатніх,
Чым ён знаўцам мод не дагадзіў,
Што прыціх, някідкі ды заштатны,
У баку ад экзатычных дзіў?

Для мяне ён непаўторна любы.
Мне з яго відно на ўсе бакі.
Тут, каля гаёў зеленачубых,
Спяць мае дзяды, жывуць бацькі.

Тут мае прыстанішча і шчасце,
Тут мой лес, мой боль і запавет.
Тут я сэрца адчыняю насцеж
Для ўсяго, чым знакаміты свет.

І хай з тысяч рэк чужых нап'юся —
Толькі для апошняга глытка
Я прыйду сюды,
            да Беларусі,
Да свайго азёрнага кутка.

* * *

Часамі нахлыне сумненне:
Ці ты не ўпустую кіпеў,
Ці знойдзе ў каго разуменне
Твой клопат і праведны гнеў?

А што калі боль твой дарэмны
І ён не разбудзіць ані
Чужога сумлення,
        што дрэмле
У сытай тупой цішыні?

Трывожна, пакутна
        і горка
Агортвае роздум цяжкі.
Не цешыць душу адгаворка,
Што час наш і век наш такі.

Не веру,
        не веру,
        не веру,
Што служым выгодзе адной
І свет наш забіты даверху
Маной,
        Мітуснёй,
        Балбатнёй,

Што бытам нейлонным закрыты
Далёкі сівы небасхіл
І лыч адарваць ад карыта
Ужо не знаходзіцца сіл,

Шануецца чан і тапчан свой
І спрытна адхоплены куш
І подлай мараллю мяшчанскай
Так многа спустошана душ...

Ёсць хіжыя,
        злыя,
        дурныя,
Прайдохі,
Дзялкі,
Махляры.
Плявацъ ім на буры зямныя.
Іх вабіць зацішак нары.
Ды знаю:
        мяне зразумеюць
Не тыя, што гучна крычаць,
А тыя, што плакаць умеюць
І горка, самотна маўчаць,

Хто, з лютасцю сціснуўшы зубы,
Працуюць,
        глытаючы пот,
Ратуючы свет наш ад згубы,
Не просячы лішніх даброт.
Няхай нават гэткіх і меней —
На строгі іх суд аддаю
Усе свае сны і сумненні,
Любоў і надзею сваю.

* * *

Наш белы свет нанова кожны раз
Я ўранку пазнаю і адкрываю
І рады сонцу,
          быццам караваю,
Якога хопіць мне на доўгі час.

Мне з кожным годам родны край мілей
Ці не таму, што меней засталося
На долю мне і зорак, і калосся
І ўсё бліжэй ссівелы юбілей?

Ах, як душа цяпер мая шчыміць,
Што гэтулькі мінула беззваротна,
Што ўжо ніякім зеллем прываротным
Не адбяліць сцяжынак шэрых ніць!

Нічога ўжо не вернецца назад.
Жыццё ідзе сваім няспынным ладам —
Курлычуць глуха журавы над садам
І вецер лісце гоніць між прысад...

Як шчасце, я лаўлю свой кожны міг,
Што ён зусім не вечны, не шкадую.
Хачу зямлю такую ж маладую,
Як і была, пакінуць для другіх...

**НАША ПЕСНЯ**

Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала,
Не прасілася слёзна «Прызнайце»
Проста з людам тутэйшым жыла.

Лес ягоны цярпліва дзяліла,
Не падсмейвалася з-за вугла,
Галасіла на ранніх магілах,
Гулкі рэй на вяселлях вяла.

Не прымала маны і прынукі,
Не сцірала загару са шчок
І хавала сялянскія рукі
Над сатканы самой хвартушок.

Засталася спагаднай і годнай,
Разбудзіла маўклівы абшар,
Некрыклівая споведзь народа,
Васількова края душа.

* * *

У звышсучаснай каламуці,
Нібыта «іжыцу» і «яць»,
Старый правілы чамусьці
Мы пачынаем забываць.

Не прадпісанні-аднадзёнкі,
Што напяклі пісарчукі,
А нашых продкаў завядзёнкі,
Якіх трымаліся вякі.

Хіба іх помніць больш не трэба?..
Здавалася б, чаго прасцей:
«Не папракай кавалкам хлеба
Бацькоў, нашчадкаў і гасцей».

Чаго ясней:
«У беднай хаце,
Дзе на цвіку вісіць сума,
Не заікайся пра багацце,
Бо тут яго даўно няма».

І ўжо зусім ніякавата
Не знацца з ісцінай такой:
«Пажар тушыць і ставіць хату
Найлепш суседскай талакой...»

Усё праверана вякамі
І над бяздумнаю травой
Прыбіта вопыту цвікамі
На браме памяці жывой.

І хоць на мудрасць не скупая
Зямля, дзе сёння мы стаім,
Нам так часамі не хапае
Служэння правілам старым!

## ВЕЧАР У ВЁСЦЫ

Калі кладзецца між барознамі
Запылены апошні цень,
Цяжкою стомаю і роздумам
Развітваецца з намі дзень.

І перш чым выбрацца дахаты,
Так цягне,
збоку да людзей,
У тумане халаднаватым
Хаця б хвілінку пасядзець.
Адчуць цяпло спатнелай робы
І зразумець у соты раз:
Не толькі мы работу робім,
А і работа робіць нас.

Хоць ньюць жылы, ломіць косці,
Але ў душы зусім няма
Ніякай зайздрасці. і злосці,
Бо дзень пражыты нездарма.
Чакае блізка двор зацішны,
Дзе водар мяты і смалы.
І жонка ужо да весніц выйшла.
І мчыць насустрач сын малы.

І нам, знясіленым і грубым,
Супакаенне дорыць час:
Не толькі мы работу любім,
А і работа любіць нас...

* * *

Маг-цырульнік, хітры дабрадзей,
Не вастры старанна так нажніцы.
Я не з тых разгубленых людзей,
Што бягуць к табе прычапурыцца.

І не з тых, хто росціць бараду,
Каб смялей ісці на пагулянку.
Я ўжо так як-небудзь дабрыду
Да свайго апошняга паўстанку.

Толькі крыўда горкая адна
Не дае ніяк душы спачыну:
Уплялася чэпка сівізна
І ў маю нямодную чупрыну.

Жалудоў цяжкія капяжы
Шчодра сыпле восень залатая.
Я прашу, цырульнік,— састрыжы
Сівізну, што лета замятае.

Што ж прымоўкнуў, дабрадзей стары,
І ўздыхаеш сумна і трывожна?
Доўга так нажніцы не вастры —
Усё роўна памагчы няможна...

## ПІСЬМО ПЯТРУ КЛІМУКУ З ЗАСНЕЖАНАЙ КАМАРОЎКІ

Панасыпала сёння сумётаў,
Аж схаваліся яблынь камлі —
Быццам сотня тваіх самалётаў
Пракаціла віхор па зямлі,
Быццам хмарай пранесліся гусі —
Кожны скінуў на вёску пяро...
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.
Гэта можна ўявіць толькі дома —
Як заснулі ў палях маразы,
Як звіняць заінелыя бомы
І над сонцам блішчаць пал азы,
Як на белым бяскрайнім абрусе
Зіхаціць завірух серабро...
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.

Хай дымы рассцілае сталіца
Неадмытай старой прасцінай.
Я з табою хачу падзяліцца
Першабытнай зямной чысцінёй,
На прасторы, расчыненым насцеж,
Цёплым промням падставіць шчаку
І рыпучую сцежку праклаcці
Па сляпучым глухім цаліку,
Каб сіберныя ветры атрэслі
Сум настылы з кашлатых хваін
І касмічныя трасы і стрэсы
Ты забыў хоць на дзесяць хвілін...
Но паддайся сумненню і скрусе,
Не прыхоўвай у сэрцы дабро —
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро!

## БАЦЬКОЎСКІЯ ГАІ

Бліндажы дагаралі, што паўмесяца бралі,
І мой бацька бярозкі —
так дазволіў камдзіў —
На грудку камяністым над сваімі сябрамі
І на брацкай магіле штыком пасадзіў.
Гарады і вышыні,
скрыжаванні і вёскі
Параскіданы густа, зруйнаваны вайной.
І бярозкі,
бярозкі,
бярозкі,
бярозкі
Узнімаліся ў неба за спатнелай спіной,

Азіралася з дымнай дарогі пяхота.
Ёй бярозка махала наўздагон, як сястра,—
Плашч-палаткаю новай зелянела лістота
І, нібы пахаванка, бялела кара.
Радавыя салдаты з-пад Масквы і з Палесся
Паў-Еўропы прайшлі ў парадзелым страі
І накінулі намяць —
свабоду і песні —
І яшчэ — па пагорках — маладыя гаі.

Пыл, куродым вайны змылі мірныя росы
Каля родных аселіц і ў далёкіх краях.
Дык чаму ўсё часцей пад вятрамі бярозы
Так трывожна шумяць у бацькоўскіх гаях?..

* * *

*Апошнім часам у ФРГ актывізаваліся рэфашысцкія*
*групоўкі былых гітлераўскіх ваяк.*
*З газет*

Каля Бона зноў затворам клацае
Недабіты гітлераўскі ас.
Бока крыважэрнае хіжацкае
Зноў глядзіць з нянавісцю на нас.

Векавы запал і шал тэўтонаў
У душы ваяцкай не ачах —
«Дранг нах Остэн» з бомбаю нейтроннай
Неадчэпна сніцца па начах.

Зноў яму свой край здаецца вузкім
І не вартым літасці — сусед.
З «Вессэлем» ці з маршам галівудскім
Ён ірвеццаператрэсці свет.

Аж дасюль нічому не навучаны,
Зноў гатоў ісці па чарапах,
Хоць няўсцерп бінтамі і анучамі
Да касцей дваццаты век прапах,
Хоць палкі, што каля Тулы тупалі,
Рагаталі, гікалі, пілі,
Сінімі знявечанымі трупамі
Паўмярзалі ў чорныя палі,
Хоць «трыццацьчацвёркі» пратаранілі
Ганарыстай Эльбы берагі

І па ўсёй спалоханай Германіі
Шалясцелі белыя сцягі...

Нам, на жаль, не прывыкаць да бітваў.
Гром вайны трывожыць памяць нам,
Ну няўжо бацькамі недабітых
Давядзецца давучыць сынам?..

**ДЭВАЛЬВАЦЫЯ**

Спекуляцыя, прафанацыя,
Як іржа, раз'ядаюць свет.
« Дэвальвацыя!», «Дэвальвацыя!»
Чорна ўзмахваюць крылы газет.

Не адбіцца, не адплявацца
Ад спакус, што расставіла зло.
Метастазамі дэвальвацый
Навакол усё апляло.

Глухне радыё ад дэкламацый
Генералаў, паэтаў, паслоў.
Найшырэйшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя гучных слоў.

З путаў ледзь пачалі вырывацца,
А ўжо ў новых аковах рабы.
Найпадлейшая з дэвальвацый —
Дэвальвацыя барацьбы.

Не баяцца чыны надарвацца:
У метале — да пасталоў.
Найпадлейшая з дэвальвацый
Дэвальвацыя медалёў...

На каго, на што спадзявацца?
Мама, ты хоць абарані!
Найстрашнейшая з дэвальвацый

Дэвальвацыя дабрыні.

Зачыняюцца душы і дзверы.
І па мужнасці вісне замок...
Дэвальвацыя праўды і веры —
Як трывогі апошні званок...

* * *

Не думаючы надта пра вякі,
Спяшаючы трыбух пабіць уволю,
Не самародкі-дзеячы — дзялкі
Наперад прадзіраюцца ўсё болей.

Вала гісторыі даймаюць — «цоб-цабе!»
(А ён цярплівы, чорны вол рабочы).
Панаставўлялі помнікаў сабе,
З якіх пасля нашчадак парагоча.

Адданасць, талент, пот і мазалі
Змяніла падхалімскае стараннe.
Да забавак старэчых давялі
Узнагароды, лозунгі і званні.

Заснулі ў цёплай засені пасад,
Не ведаюць, што пасярод дарогі
Аднойчы азірнецца вол назад
Т ўсіх узніме на крутыя рогі.

## ЗАПІСКА
## З ПАЛАТАЧНАГА ГАРАДКА
## ГРЫНЕМ-КОМАН

«Каму гэта трэба?
Скажыце,
Каму гэта трэба,
Каб раптам упала
І з пылам змяшалася неба,
Каб чорнымі сталі
І дрэвы,
І долы,
І горы,
Каб сажай набухлі
Да самага донца азёры,
Каб сонца пагасла,
І месяц не змог нарадзіцца,
І шклом заплылі
Гарадоў закапцелых вачніцы,
Каб воблачкам шэрым
Растала дыханне каханай
І люлька пустая
Рыпела ўначы несціхана?..
Каму гэта трэба?
Скажыце,
Няўжо гэта будзе?!
О, бог!
О, часы!
О, планета!
О, людзі!..»

* * *

...Духавыя аркестры.
Пявучыя трубы.
Пары кружацца ў вальсе
Па траве маладой.
Ціха падаюць зоркі
Светлячкамі на клумбы.
Месяц высцеліў сцежкі
Бліщчастай слюдой...

Духавыя аркестры.
Самадзейнае рэтра.
Задуменныя ўсмешкі.
Несучасны спакой.
Роўна дыхае
Даўнім блакітам паветра.
Халаднее каса
Пад хлапечай рукой...

Закусіла матуля
Пабялелыя губы —
Успаміны ўсяму нечаканай віной:
Духавыя аркестры,
Паходныя трубы
Папулярнымі робяцца
Перад вайной.

* * *

Мы будзённа гаворым пра космас.
Ён не слепіць ужо навізной.
След ракеты здаецца пракосам
Ці запыленаю баразной.

На арбіце, салёнай ад поту,
І цяпер не лягчэй, не прасцей,
Ды спакойнае слова «работа»
Паўтараем часцей і часцей.
Звыклым светам, знаёмым занадта,
Дзе каліны,
Крыніцы,
Стрыжы,
Вучаць нас,
          як дзяцей,
          касманаўты
З новай сілаю даражыць.

Ім над зорнаю цішай і ціскам
Так карціць удыхнуць хоць здаля
Водар сена —
          ці, можа, дзяцінства
Ці асенняй планеты Зямля.

І не дзіўна, што хочацца дужа
Да галактык узняць пад крылом
Не касмічную цемру і сцюжу,
А зямное святло і цяпло…

* * *

Люблю бары, бярэзнікі і пушчы я
Яшчэ з ваеннай бежанскай пары.
Цярплівыя,
Маўклівыя,
Відушчыя,
Яны мае надзейныя сябры.

Ашчадныя,
Запаслівыя,
Шчодрыя,
Яны і мне прадоўжылі гады,
Калі дарылі кошыкамі, вёдрамі
Баравікі,
Чарніцы,
Жалуды.

Я помню іх гарэлымі і роснымі,
У пекле дыму,
          холадзе дажджоў.
Я плакаў іх рабінамі і соснамі
Ля мінамі разбітых бліндажоў.

На ўзлесках і пад кронамі высокімі
Яны вучылі мудрасці без слоў —
Як сябраваць
          з зязюлямі і сойкамі,
Як разумець
          вавёрак і ласёў…

Стаю сярод паляны незадымленай,
Любуюся раскошаю зямной —
Як быццам зноў
            чытаю вершы Пімена
І рэха паўтарае іх за мной.

А можа,
            ён здалёк мне абзываецца,
Вясёлы,
            заклапочаны лясун...
Я з пушчы і яму
            капусту зайцаву
І сплюшчаную гільзу прынясу...

* * *

Сябры, не адключайце тэлефон!
Калі ўтрапёны свет вірыць наўкола,
Праз свіст і грукат, музыку і звон
Так хочацца пачуць знаёмы голас!

Як погляду, як пацiску рукі,
Чакаеш доўга водгуку-адказу,
Але назад вяртаюцца гудкі,
Праз цішу не прабіўшыся ні разу.

Праклясці б свой будзённы марафон,
Спыніцца,
Паспрачацца,
Павініцца...
На тым канцы адключан тэлефон —
Не дакрычацца і не дазваніцца.

Зямлю наўсцяж абблыталі драты.
Радары скарацілі далячыні.
А ты — нібы ў пустэльні нематы:
Сябе сябры сягоння адключылі
Ад анекдотаў, ад чужой журбы,
Ад плётак, што сабраў сусед-назола,
І ад цябе,
            каму б іх голас быў,
Як знак надзеі, як глыток азону.

І я,

хоць, можа, патрывожу сон
І дружна дактары мяне асудзяць,
Прашу:
Сябры, не адключайце тэлефон,
Хай ні на міг не рвецца з вамі су вязь

* * *

*Памяці Уладзіміра Караткевіча*

Зноў жалобных званоў ускалых,
Як пятлёю, сціскае горла.
Усё меней сяброў жывых.
Усё болей сяброў памёрлых.

Асядае ўспамінаў дым.
Не сустрэнемся, не пагаворым...
Давярайце ж сябрам жывым.
А тым болей — сябрам памёрлым.

Беражыце іх кожны міг,
Разумейце, маўклівых і гордых...
Не мяняйце сяброў жывых.
А тым болей — сяброў памёрлых.

І калі на шляхах крыжавых
Раптам вочы засцеле морак,
Успамінайце сяброў жывых,
Памінайце сяброў памёрлых...

* * *

Нідзе не здраджваў матчынаму краю,
Не набіваўся іншаму ў сыны.
А ўсё часцей
дадому прыязджаю
Я з адчуваннем даўнішняй віны.

Усё вакол нязводнае і роднае —
Сцяжынкі,
валуны і сасннякі.
Гарлае хрыпла певень за гародамі.
Вуркоча глуха трактар ля ракі.

Званкамі з неба жаваранкі падаюць.
Маўчаць буслянкі над дварамі ўдоў.
І не відно пакуль што за прысадамі
Ні аўтастрад,
ні аграгарадоў...

Па вуліцы іду —
і заўважаю:
Старэюць і суседзі, і тыны.
І сэрца зноў
сціскаецца ад жалю
І адчування ўласнае віны.

Як быццам я таксама вінаваты,
Што на замку прасторны новы клуб,
І пачарнелі сцены роднай хаты,
І пакасіўся пашай студні зруб.

Шапчу сабе дакорліва:
«Дажыўся!»,
Калі пачую ад суседа зноў,
Як рослыя бамбізы
ў модных джынсах
Пасмейваюцца з матчыных размоў,

Пакепліваюць з «некультурнай» вёскі,
Звысоку лаюць
свой «адсталы» кут,
Хаця напакаваныя авоські
Па выхадных у горад валакуць.

Як з госцем,
і бацькі са мной гавораць
Пра сенакос,
пра дровы,
пра ўраджай.
— У нас тут зараз рознай працы горы.
Як справімся,
тады вось прыязджай...

...І песня зноў выходзіць не такая —
Ёй не хапае згубленай струны.
І еду з вёскі —
быццам уцякаю
Ад даўняй і нясплочанай віны...

* * *

Бяздумных вершаў чараду
Чытаю,
зборнікі гартаю —
Нібыта вуліцай іду
Бязлюднай,
без канца і краю.

Усё тут лёгка пазнаю:
Несамавітай рэчкі ўсхліпы,
Кватэру ціхую сваю,
Каля акна старыя ліпы,
Трамвая ранішняга звон,
Туман — хусцінаю вялізнай,
Суседаў цесненькі балкон
З нядаўна вымытай бялізнай,

І ветру лёгкага ўскалых,
І ля аблокаў — кран цыбаты...
Шчаслівым пазнаваннем слых
І зрок, і нават шох заняты.

Лісток, расінка, матылёк
Размаляваны дасканала,
Апеты зблізку і здалёк.
А сэрцу ўсё. ж чагосьці мала.

Навокал гулкі свет цячэ,
І ўсё ў ім — праўда і мастацтва.
А толькі хочацца яшчэ
Паплакаць і паспавядацца,
І сціснуць злосна кулакі,
І ў шчасці ўпасці на калені...

Дзе ж заблудзіўся верш такі
У правадоў і дрэў спляценні?..

* * *

Я славы не малю,
Пашаны не вымольваю.
Люблю сваю зямлю,
Найлепшую, па-мойму.
Ёй аддаю спаўна
Змярканні і дасвецці,
Каб шчаснаю яна
Была на гэтым свеце.

Ніколі без патрэб
Ёй клятвы не мусолю.
Не пасыпаю хлеб
Заморскай ёлкай соллю.
Мне сон і сэнс —
            яна,
Маўклівая, звычайная,
На ўсё жыццё адна,
Нідзе не пазычаная.

Яе абцалаваў
Я песнямі і вершамі.
Хай пасля нашых спраў
Яна паўстане лепшаю.

Няхай наперад мкне,
Імя сваё ўзвышае...
І гэта будзе мне
І слава, і пашана...

* * *

Люблю зіму за сонца і марозы,
За снег,
            сыпучы і рыпучы ўвесь.
Адначасова хмельны і цвярозы,
Іду ў наудзённы заінелы лес.

У ім прасторна, выстыла і звонка.
Не ўскрыкне птах, не трэсне сук нідзе.
Адно струной басоваю сасонка
На ўзгорку над вятрыскаю гудзе.

Лес клопатнаю думкаю заняты —
Як да вясновых красак дажыве.
На лапах хвой, нібыта зайчаняты,
Прыселі ўзвівы ранішніх завей.

У гушчары густым сінеюць цені.
У кронах — зыркіх промняў мітусня...
І на душу сыходзіць прасвятленне.
І на зямлі пануе цішыня...

## НАЧНАЯ ВОСЕНЬСКАЯ ДАРОГА

Адзінока. Вусцішна. І пуста.
Хоць бы дым начлежнага кастра.
Сум мой сеў каля дарогі кустам.
Шэрая сава— яму сястра.

За спіной разбойна вецер свішча.
Дуб галіны ўзняў наперавес.
Колецца халоднае іржышча.
І глухую цемру тоіць лес.

Зорку ўгледзець сілюся зняможана,
Сам-насам з жудохо і журбой.
Дзе ты, выпадковы падарожны? —
Хоць бы ты забраў мяне з сабой...

* * *

Слова наша роднае, хапала
На стагоддзі доўгія цябе.
Багдановіч, Колас і Купала
Прыпадалі да цябе ў журбе,
Адкідалі кпіны і абразу,
З дзён былых цягнулі ў заўтра ніць
І хаця не ўсіх і не адразу,—
Навучылі ўсё ж цябе цаніць,
Вымытае ў гулкіх навальніцах,
Нам як запавет перадалі,
Каб пілі і не маглі напіцца
І ўзнялі на ўздзіў усёй зямлі.

Матчына нявыцвілае слова,
Даўжнікі мы вечныя твае...
Так нам не хапае Куляшова.
Мележа так горка не стае.
Нам цяпер цябе на раздарожжах
Берагчы за іх і за сябе,
Даражыць пявучым гукам кожным,
Як зярняткам чыстым на сяўбе,
Каб не адляцела, як салоўка,
Не аглухла ў гуле бальшакоў...
Строга з нас вачэй не зводзіць Броўка.
Стоена ўзіраецца Лынькоў...

Мова продкаў нашых і нашчадкаў —
Шэпт дубровы і пчаліны звон —

Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён.
Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе па забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё.

## ЗАЎВАГІ НА СТАРОНКАХ АДНОЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЫСКУСІІ

Ці не замнога трацім сноў святых?
Ці не залішне пафаснага енку?
І закліканні— як гарох аб сценку.
Мы столькі ўжо наслухаліся іх!

Каторы год ужо, каторы раз
Адно і тое зноў таўчэцца тупа —
Усенародна ўзнята напаказ
Вадою перапоўненая ступа.

Балбатуноў узрушаная раць
Размахвае кадзілам адмыслова...
Ці прыйдзе час, калі пачнуць караць
За справай не пацверджанае слова?

Куды прасцей не думаць ні аб чым.
Ды што, як раптам грукне гора ў дзверы
І мы аб ім адчайна закрычым,
А нам ніхто прывычна не паверыць?..

* * *

З былых гадоў, з далёкіх станцый
Я зноў і зноў вяртацца рад
У наша даўняе юнацтва,
У наш студэнцкі інтэрнат.
Там нашу вольніцу і волю
Не нахавала цішыня.
Скарынкай чэрстваю і соллю
І я дзяліўся там штодня.
Не ныў, наперад не высоўваўся,
Жыў з неўгамоннай грамадой.
І часцік, што ў таматным соусе,
Быў найсмачнейшаю ядой.
На іншых мы не напіралі,
Чакалі свой законны час.
І маладое раўнапраўе
Мірыла і яднала нас.
Пасля машыны і вагоны
Развезлі нас па ўсёй зямлі.
Ды інтэрнацкія законы
Мы ў нашых сэрцах зберaглі.
Як узнясецца хто не ў меру
Ці ачмурэе ад папер,
Мы на прыватную кватэру
Яго адселім і цяпер.
І завяшчалі мы такое
Вусатай сённяшняй братве,
Што ў нашым сонечным пакоі
Камунай новаю жыве.

А я з надзеяй і даверам
Зноў інтэрнату гавару:
Ты адчыняй спакойна дзверы
Свайму старому жыхару...

## ДА ПЫТАННЯ АБ СУЧАСНЫХ МУЖЧЫНАХ

Ізноў жаночая інтрыга
Ці новаспечаны пачын? —
За фільмам фільм,
за кнігай кніга
Ганьбуюць здзекліва мужчын.
Ні спачування, ні сімпатый.
На сцэне — не сучаснік наш,
А горкі плён эмансіпацый —
Лайдак бязвольны і алкаш.

Хватаюць, беднага, са здзекам,
Са смакам і не без падстаў.
Нібыта ён і чалавекам
Ужо лічыцца перастаў.
А ці ж даўно наш друк айчынны
Яго паляпваў па плячы
І міласэрныя жанчыны
Яго прасілі берагчы?

Быў ён гаспадаром цвярозым
І кавалерам неблагім.
За мужнасць, рыцарства і розум
Яму не раз складалі гімн.
Чаго ж змяніўся так нябога?
І што ўсіх так трывожыць тут —
Заўчасная перасцярога
Ці часам сцверджаны прысуд?..

* * *

Па́даюць яблыкі —
Тупае восень па садзе.
Жоўтае лісце
Мяце па кляновайградзе.
А надвячоркам
На прызбе нячутна прысядзе
І залацісты праменьчык
Ля ног пакладзе.

Будзе пра лета мінулае
Думаць паціху.
Гляне спакойна
На позні кветкі ў акне.
Здыме нязлосна
Са смуглай шчакі павуцінку,
І гаркаваты начлежны дымок
Пракаўтне.

А як да цёплых сцяжынак
Падступяцца росы
І пахаваюцца
Змоўклыя птушкі ў гаях,
Пойдзе
Насустрач змяркканню халоднаму
Восень —
Можа, яшчэ не мая,
Хай бы яшчэ не мая...

**ВЕРАСНЁВАЯ ПАРА**

*Валянціну Блакіту*

Павуцінка залятае
Да вясковага двара.
І заве нас залатая
Вераснёвая пара.

Верасовая сцяжына.
Па баках — беразнякі...
Мы з табою не чужыя.
Мы з табою дружбакі...

Мухамор на вочы лезе.
Над нагой пружыніць сук.
У маўклівым цёплым лесе
Толькі дзятла перастук.

Сала скрыль у нашай сумцы.
У кашах — баравікі...
Мы з табою аднадумцы.
Мы з табою сябрукі...

Нам за дзень не нахадзіцца
Між нізінак і палян,
Дзе рабіны, і брусніцы,
І пахучы дурнап'ян.

Ні хмурыначкі — уверсе.
Цішыня — на ўсе бакі...
Мы з табою аднаверцы.
Мы з табою грыбнікі...

Завядзёнкі не парушым —
Адшукаем касагор.
І сагрээ нашы душы
Непаспешлівы касцёр...

* * *

Калі хто скажа,
          што ў каханні ён
Усё спазнаў і вышарпаў дазвання,
Не верце.
          Ён не знаў яшчэ кахання.
Ён яшчэ трапіць да яго ў палон,
І будзе плакаць над сабой былым,
І пракляне ўчарашняе бяссонне,
І здзівіцца,
          што, можа, толькі сёння
Узнік кахання воблік перад ім.
Калі хто скажа,
          што даўно
          ані
Ужо няма ў каханьі таямніцы,
Не верце,
          і яму яшчэ прысніцца
Яно, як цуд нязнанай чысціні.
І ён,
          як невядомыя дары,
Адшукваць будзе для прызнання словы
Каб спаконвечнае адкрыць нанова
І тайну тайнаў зноўку паўтарыць,
І зразумець аднойчы,
          што жыццё
Пустым было б і вартым спачування,
Калі б на свеце не было кахання,
Дзе ўсё спрадвек — сакрэт і адкрыццё..

* * *

Я ўсіх вас, закаханыя зямлі,
Назваць братамі роднымі. гатовы,
Калі вы ў гэтым свеце бесталковым
Сустрэцца з нарачонымі змаглі.

Я падзяляю вашу весялосць,
Я разумею добра вашу ўдачу
І сам ад шчасця часам ледзь не плачу,
Бо і ў мяне цяпер каханне ёсць.

І я жыву ва ўладзе пекнаты,
Забыўшыся на скаргі і на страты...
І ўсё я« я перад вамі вінаваты,
Вы мне даруйце, родныя браты.
Я самую прыгожую з дзяўчат
Схаваў ад вас, забраў ад вас навекі.
Яе радзімкі, локаны і вейкі
Пяшчотна лашчыць толькі мой пагляд.

Адну яе стварыў натхнёны бог.
Другой такой ніхто ўжо больш не знойдзе.
Я абакраў вас, як нахабны злодзей.
Даруйце мне.
          Іначай я не мог.
Я не ўпусціў міг вашай слепаты,
Але і вы ўсе можаце, на шчасце,
Мяне падобным чынам абакрасці... к
Дык будзем квіты, родныя браты...

* * *

Бег да цябе праз буран і імжу,
Поўз да цябе з летуценнем і скрухай.
Болей маўчаць не магу.
        Я скажу.
Ты мяне ўважліва толькі паслухай.

Вуснамі смелыя словы ляплю,
Цяжка і горача іх выдыхаю:
Чуеш, каханая? — верна люблю,
Чуеш, любімая? — шчыра кахаю.

Можаш пасля адмахнуцца —
        «Бывай»
Можаш пасля адвярнуцца сурова.
Толькі даслухай, не перабівай.
Як мне баліць мае кожнае слова!

Вуснамі смяглыя вусны лаўлю
І перад вечнаю тайнай сціхаю...
Чуеш, каханая,— верна люблю,
Чуеш, любімая,— шчыра кахаю...

* * *

Я за тваім плячом не разглядзеў
У доўгую хвіліну развітання,
Што за акном —
        змяркание ці світанне
Ці поўневая ноч ці хмарны дзень.

Было адно імгненне на дваіх.
Было адно спякотнае дыханне
І вусны —
        як кругі выратавання,
Калі ў бяссіллі мы шукалі іх.

Быў шэпт твой непрытомны:
        «Дарагі..
І неслухмяных рук перапляценне —
Як крылы птушак,
        што не даляцелі
Да выраю
        і ўпалі на лугі.
І захлынуўся і спыніўся час,
І ты прынікла да мяне адчайна...

Я добра помню ўсё, што нас злучае.
І ўсё забыў, што разлучыла нас.

**ЛІСТОК АЛЬБОМА З XIX СТАГОДДЗЯ**

«У шляхетным палацы,
У аздобленай мармурам зале,
Дзе грымела мазурка
І свечкі гарэлі ледзь-ледзь,
Перад дамамі сэрца
Паэты калені схілялі —
І жанчыны шчасліва
Пачыналі ўміг маладзець.

Гнеўны верш, як пальчатку,
Кідалі збялелым тыранам,
Ад сябе лёгкім жэстам
Адвёўшы знямелую смерць,
На світанні паэты
Прыносілі кветкі каханым —
І жанчыны шчасліва
Абяцалі ім век не старэць.

З-пад чужых небасхілаў,
Дзе крыж свой пакутніцкі неслі,
Дзе ў душы дагаралі
Летуценні былыя і злосць,
Прысылалі паэты сяброўкам
Лебядзіныя песні —
І жанчыны шчасліва
Берaглі праз гады маладосць.

І няхай у высокіх палацах
Пацямнеюць паркеты
І прыглухне мазуркі
Шляхетная медзь —
Пакуль будуць жанчыны,
Не замоўкнуць паэты,
Пакуль будуць паэты,
Жанчыны не будуць старэць...»

* * *

Я не думаў пра вершы.
Толькі што ты паробіш з душой,
Калі ў ёй,
Як вясновыя кветкі,
Прабіліся вершы.
І я з цэлым бярэмам
Да цябе
Без дазволу прыйшоў,
Свае тайны, і страхі,
І надзеі ўсе
Словам даверыўшы.
Я паклаў іх табе на калені —
Бяры, рассыпай, варушы
І раскладвай —
Адчай і прызнанні,
Папрокі і лёсткі.
А захочаш — па кожным
Задумліва паваражы,
Перабраўшы радкі,
Як вясёлых рамонкаў пялёсткі.
Я аддаў іх табе,
Самай гордай
З сучасных багінь.
Ты скажы —
І яшчэ
Прынясу я ахвотна.
Можаш іх раздарыць.
Ды адзін
Літасціва
Пакінь —
Той,
Што, як васілёк,
Непрыкметны,
Блакітна-самотны...

* * *

«Вяршыня самазабыцця —
Каханне.
Зарука вечнасці жыцця —
Каханне.
Калі абвал сэрцабіцця
Не ўстане
Стрымаць пяўцямнае,
Як сон,
Прызнанне.

Натхнення сакаліны ўзмах —
Каханне.
Каліны прысмак на губах —
Каханне.
Калі заледзянелы жах
Расстання
Ад промня ў дарагіх вачах
Растане...»
Калі ўжо ўблыталася ў чуб
Мне лета,
Ці то адчуў, ці то пачуў
Я гэта,
Ці песню з тых,
        што не стае,
Склаў не такую...
Но можа быць,
        што без яе
Звякую...

* * *

Бязглуздая спрэчка.
Паспешлівы поціск рукі.
Глухое маўчанне.
Падкрэслены холад расстання.
І крокі заціхлі.
І выплыў туман з-за ракі.
І сэрца балела ў адчаі
Ажно да світання...

А ты хіба спала спакойна? —
Прызнайся сама.
І сэрца табе не кальнула
Туга шкадавання?
Калі не кальнула,
Дык, можа, яго і няма —
Маленькага сэрца,
Якое баліць ад кахапння...

* * *

Мне не забудзецца ніколі,
Як у азёрнай старане
Гуло сяброўскае застолле
І ты глядзела на мяне.

І сэнс, і тайна, і надзея
Былі ў бязладнай гамане,
Бо за сталом вясна сядзела
І ты глядзела на мяне.

Усё тады было дарэчы:
І драч, і юшка ў чыгуне.
І плыў туман над соннай рэчкай.
І ты глядзела на мяне...

Яшчэ не раз мне па-юнацку
Твой позірк знічкаю мільгне.
Хаця б на міг, хаця б знянацку
Зірні здалёку на мяне!

**НАПАМІН ХАЛАСЦЯКУ**

Так спрадвеку павялося,
Што знайсці мы ўсё павінны
Свайго шчасця, свайго лёсу,
Свайго сэрца палавіну.
І пакуль ты адзінокі
Пасярод жыццёвай прозы,
Ты як быццам аднабокі,
Несалідны, несур'ёзны.
Хоць дасведчаны і знаны
І жывеш на ўзроўні. века,
Ты ўсё роўна
без каханай —
Палавіна чалавека.
Як людзей ні судзіш строга,
Ды без жончынага вока
Ты яшчэ сябе самога
Разумееш неглыбока.

Так што вер наіўным вершам
І навек адно запомні:
Толькі любую сустрэўшы,
Станеш ты нарэшце поўным.

Ды глядзі
(і так бывае),
Каб цябе не падлавіла
Дарагая, дзелавая,
Ды чужая палавіна...

* * *

Хто мудрэйшы быў — Адам ці Ева,—
Мы не будзем усчыняць садом.
Дзякуй ім,
            што адшукалі дрэва
З грэшным і спакуслівым пладом,
Што спалох пераступілі смела,
Нецярпліва зглЕдзелі ў галлі
І сарвалі яблык недаспелы,
Надкусілі, нам перадалі...
Пэўна, мудра ўсё зрабілі продкі,
Калі столькі часу
            ўсім наўздзіў
Яблык той,
            і горкі, і салодкі,
Нам яшчэ аскомы не набіў...

* * *

Любая,
            ты засланіла свет
Шэры, аднастайны і будзённы —
Электрычак цесныя вагоны,
Мокрыя, цяжкія парасоны,
Душны, непрыбраны кабінет,
Гуд аўтамабіляў манатонны
Быццам бы расталі неўпрыкмет.

Любая,
            ты расчыніла свет
Рознакаляровы і ўрачысты —
Раскідае срэбра дождж кроплісты,
Сінява застыла ў шыбах чыстых,
Ловіць жвавых «зайчыкаў» паркет,
Электрычка кліча галасіста
На лясны прастор — за ёю ўслед.

Свет запаланілі перамены.
Матылёк успырхнуў на акне...
Гэта ты прыветна і праменна
Раніцой зірнула на мяне.

* * *

Атруці мяне
        вясновым хмелем,
Апляці мяне
        рукамі цёплымі.
На дваіх з табою мы падзелім
Ноч, што льецца залатымі кроплямі.
Ап'яні мяне
        дыханнем чыстым,
Ахіні мяне
        прызнаннем ціхім.
Мы ў далоні з неба зор маністы
Ссыплем рук суладным ускалыхам.
Прытулі мацней,
        мая абранніца.
Наталі
        мае сухія вусны...
О, як хутка прыплывае раніца —
Сну і явы сонечнае вусце!..

* * *

Імклівы час — мудрэц вялікі.
Як паяднаў чароўна ён
Каханых незямныя лікі,
Зямныя воблікі мадон!

Як звёў іх проста і прарочa,
Злучыў развагу і парыў,
На прыгажосць жывую вочы
Велікадушна нам адкрыў!

І абнавілася каханне,
І ў разняволенай душы
Зямлі і неба паяднанне
Даспела, нібы спарышы.

І ў снах пакутлівых узніклі,
Неразгаданыя спакон,
Каханых незямныя лікі,
Зямныя воблікі мадон...

* * *

...У прыцемку халодным прыскам тлеючы,
Твая сукенка упала каля ног,
І ты рукамі засланіла плечы,
Бо я ад іх святла аслепнуць мог.

Ты смеласці сваёй сама здзівілася.
А у мяне ў збянтэжаных вачах
Нібыта поўня белая дваілася.
І сэрца ашаломленае білася,
Як выпушчаны з цеснай клеткі птах.

Ты не ішла —
          асыпаная зорамі,
Хмурынкай лёгкай да мяне плыла —
Уся з адчаю, чысціні і сораму,
З даверлівасці, страху і святла.

Цьмянелі,
          аддаляліся
          і чэзнулі
Зямныя і нябесныя агні.
І я ступіў насустрач цёплай бездані
Здзіўлення,
          шчасця,
          тайны,
          цішыні...

**РЭЧАЧКА-ПЯТЛЯНКА**

З вечарынкі-пагулянкі
Я сваю красуню вёў
Каля рэчачкі-пятлянкі,
Ля чаромхавых гаёў.
І вада вірыла смела
І дражнілася са мной:
То наперадзе шумела,
То звінела за спіной.

Ну адкуль такая сіла? —
Адцягнула ад сяла,
Закружыла, закруціла
І да лесу прывяла.
Дзе там сцежка, дзе палянка,
Дзе туману сіні дым,
Нават рэчачка-пятлянка
Не дазнаецца аб тым.

Да пары без дай прычыны
Не прызнаемся мы ёй,
Колькі зорак налічылі,
Колькі ўчулі салаўёў,
Дзе праседзелі да ранку
І шапталіся аб чым.
Разам з рэчачкай-пятлянкай
Мы пакуль што памаўчым.

Хоць няпрошанаю сведкай

Неадступна — вось бяда —
Не драмала, як суседка,
Булькатлівая вада.
Ды не дай бог — нечаканка,
І ў каханкі ля варот
Наша рэчачка пятлянка
Зробіць рэзкі паварот...

* * *

Шкадую жанчын,
          што пасля пацалунку мужчыны
Не зведалі асалоды пацалунку дзіцця,
Што навек ад сваіх грудзей адлучылі
Ненасытную, бессмяротную завязь жыцця.

Шкадую жанчын,
          што пасля мужчынскіх абдымкаў
Не зведалі пяшчоты абдымкаў дзіцця,
Калі, каля вуха даверліва дыхае
Безабаронны працяг твайго зямнога быцця.

Шкадую жанчын,
          што пасля ночы бяссоннай
На плячы сваім чулі
          толькі холад няголеных шчок
І не песцілі цёплы і круглы, як сонца,
Плод кахання — няўцямны жывы камячок...

Аблысеюць паклоннікі.
Перамруць палюбоўнікі.
Супакоіцца ўрэшце шалу майскага
каламуць.
І ці будзе каму
          ўспаміны аднолькавыя, як апалонікі,
Чыстай плоткаю ўскалыхнуць?..

* * *

Сотні раздарожжаў паміж намі.,
Прывакзальны тлум і шум травы.
Ды ўсё роўна над тваімі снамі
Я стаю — нязменны вартавы.

Месяцаву срэбраную сцежку
У руцэ трымаю, як прашчу.
Нават прынца казачнага ўсмешку
Да твайго акна не падпушчу.

А калі світанне ценем белым
Ляжа на прыціхлую ваду,
У расстанні доўгім асмялелы,
Да цябе нясмела надыду.

Адхіну ўспамінаў грэшных дымку,
Дзе схаваў я ад чужых людзей
Сонейка заспанае — радзімку —
У лагчынцы белай між грудзей...

**СУСЕДКА**

Калі раніцай вёдрамі ляскала
І да рэчкі спяшала босая,—
Я цябе цалаваў краскамі,
Я цябе цалаваў росамі.

Калі ў поўдзень ішла палеткамі,
Маладога спакою поўная,—
Я цябе цалаваў кветкамі,
Я цябе цалаваў промнямі.

Калі ўвечар да весніц выйшла
І стаяла пад вішнямі колкімі,—
Я цябе цалаваў цішаю,
Я цябе цалаваў зоркамі.

Што, як ноччу ў акно пагрукаю,
Недасяжная і спакусная?..
Я цябе цалаваў думкамі,
А хачу цалаваць вуснамі.

* * *

Ты стала ля дзвярэй
У гулкая цішыні.
Шаптала мне: «Скарэй...»
Прасіла: «Зачыні».

Адвага і адчай
Маўчаннем сцялі рот.
І паварот ключа —
Як лесу паварот.

Ніхто не адамкне
Зачыненых дзвярэй.
Цяпер ніхто ў мяне
Цябе не адбярэ.

Шалёны сэрца ўдар
Каля маіх грудзей —
Як шчасця шчодры дар,
Як бурны ўсплёск надзей.

Ноч выблескам пляча
Працята навылет...
І паварот ключа...
І лёсу паварот...

* * *

Не выхваляйся маладосцю,
Чужыя лічачы гады.
Яна ў цябе вясёлай госцяй
Не застанецца назаўжды.

Ты і жаданы ёй і любы,
І спадарожнік і радня,
Пакуль мажны і пышначубы
І поўны заўтрашняга дня.

А толькі сціхне пагулянка,
Маршчынкі лягуць ля вачэй —
Глядзіш, як юная каханка,
Яна да іншага ўцячэ...

* * *

Жанчын прыгожых трэба берагчы
Ад пошласці, каварства і знявагі,
І ад мяшчанскай зайздрасці і звягі,
І ад залішняй ветласці і ўвагі,
І ад рукі нахабнай на плячы.

Яны прыйшлі на грэшную зямлю,
Як сны і летуценні залатыя,
Жаданыя і трошачкі святыя,
Нязнанага суладдзя панятыя,—
Святлом напоўніць вечнае «люблю».

Не дайце іх зняславіць і заплявіць,
Не рвіцеся ўчыняць над імі суд.
Хай горда па жыцці яны нясуць
Вяспы юначай радасную памяць,
Зачаравання невыказны цуд...

* * *

Сябе да адзіноты прывучаю,
А шэпт твой горкі ўсё па сэрцы б'е,
Як жураўліны кліч,
Як крык адчаю:
«Я так засумавала без цябе!»

Навошта — зноў?
Усё даўно забыта,
Закрэслена маршчынкай на ілбе.
Я нашых сцежак болей не разблытваў
Рассек
і за сябе, і за цябе.

Ды толькі над разлівам іван-чаю,
Над палыном ссівелым
у журбе,
Як жураўліны кліч,
Як крык адчаю,
Плыве:
«Я так сумую без цябе!»

* * *

Кагосьці безнадзейна кліча ка́ня.
Зязюля шчодра дзеліцца гадамі...
А можа быць, яны маё каханне
Сваёй душой птушынай разгадалі?

Не заціхае салавей да рання.
Жаўрук неўтаймавана будзіць далі...
А можа быць, яны маё каханне
На свой птушыны лад пераказалі?

Ці не таму мне спеў іх зразумелы,
Такі трывожны і такі прыгожы?..
А я перад табой стаю, нясмелы,
Душа пяе,
          а слоў знайсці не можа...

* * *

Я не сквапны — вы паверце.
Не прыслужваю рублю.
Лепшы яблык на талерцы
Не шкадуючы ўступлю.

Сувеніры, кветкі, рэчы
Нават тыя, што люблю,—
Забірайце. Не пярэчу.
Пашкадую — і ўступлю.

Сцежку лепшую ў прысадах,
Поля лепшага раллю
І высокую пасаду —
Не крыўдуючы ўступлю.

А тваіх вачэй смяшынкі,
Як нябесны дар, каплю.
Ні адной тваёй маршчынкі
І слязінкі не ўступлю.

Праз пагрозы, пасміханне —
Праз усё пераступлю.
А цябе, мае каханне,
Нізавошта не ўступлю.

* * *

Зайздрошчу шчасцю юных закаханых,
Што так баяцца дотыку рукі,—
І ад яго грудзей адмежаваны
Яе грудзей тугія астраўкі.

Зайздрошчу іх святому аняменню,
Калі без слоў усё адчуць лягчэй,
І смешнаму, дзіцячаму няўменню
Хаваць пачуцці ад чужых вачэй.

Зайздрошчу іх наіўнаму спалоху,
Яшчэ незразумеламу агню,
Калі ўвесь свет змяняецца патроху
І дорыць азарэнне ўпершыню
І паміж кожным позіркам і словам,
Ужо зусім бяссільная,
звініць
Напятая, як песня жаўрукова,
Збліжэння недазволенага ніць...

* * *

Хай душа над былым не рыдае.
Плечы нам не прыгнулі гады.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

Не бяда, што сняжок ападае
На юначыя нашы сляды.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

І ніхто яшчэ не разгадае
Нашы хованкі, нашы брады.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

Толькі сэрца вясну прыгадае —
І акрыюцца белым сады...
Па-ранейшаму ты — маладая?
Па-ранейшаму я — малады?..

* * *

Каму б я верыў,
Каб не ты?
Мне б дзень быў шэры,
Каб не ты.
І цуд дзявочай
Пекнаты
Не грэў бы вочы,
Каб не ты.

Пра што б я дума у,
Каб не ты?
Памёр бы з суму,
Каб не ты.
У свеце,
          поўным
Нематы,
Я б стаў бязмоўным,
Каб не ты.

Няшчасны быў бы,
Каб не ты —
Без дабраты,
Без праваты.
І ўсё ў душы маёй дачасна
Даўно б пагасла,
Каб не ты...

* * *

Мільгаюць гады.
Я цяпер гэта ведаю добра —
Мільгаюць.
Не ўхопіш,
Не спыніш,
Назад не павернеш ніяк.
Пад ветрам бярозка
Дрыжыць сіратліва ля гаю.
Бярозка, а можа,
Забытая песня мая.

Плыве аблачынка
Па небе прасторным і сінім.
Мы ўслед ёй тужліва
З бярозкаю разам глядзім.
Не толькі гадоў —
Нават той аблачынкі
Не спынім
Ні песняй,
Ні просьбай,
Ні крыкам,
Ні шэптам сваім.

Сплыла аблачына.
Вясёлка палае над Пінай.
Глядзіцца ў Дзвіну
Сінявокая ніва ільну...
Быць можа,

Вось гэтак —
Бясследна,
Імкліва,
Няспынна —
З маімі гадамі
І я ля цябе прамільгну...

* * *

Калі з начнога плёса
Праз трысцё
Ты бегла
Да мяне на рукі ўпасці,
Я думаў,
Што каханне —
Гэта шчасце,
Якога хопіць мне на ўсё жыццё.

Калі ў расчаравання на мяжы
Мне вечнасцю здаваліся мінуты,
Каханне —
Думаў я тады —
Пакуты,
Якія немагчыма перажыць.

Калі ж суцішыў час мой гнеў пусты
І мудра ўраўнаважыў
сум і радасць,
Давер і рэўнасць,
жорсткасць і спагаднасць,
Я зразумеў:
Каханне —
Гэта ты.

* * *

Ты спытала,
що возьму я
У дарогу ў снег і слоту,
Калі вельмі засумую.
Адказаў:
— Тваю пяшчоту.

Ты пытала ў задуменні,
Што важней за ўсё —
Работа,
Шчасце,
Поспехі,
Натхненне?
Я шаптаў:
— Твая пяшчота.

Без падказкі і прымусу
У адчаі і самоце
Давяраю і малюся
Толькі ёй —
Тваёй пяшчоце.

І калі б ты запытала
У дзесяты раз і ў соты,
А чаго ў жыцці мне мала,
Я б сказаў:
— Тваёй пяшчоты...

* * *

Нечакана шчымліва-адчайна
За туманамі, за асакой
Ці то кнігаўка, ці то чайка
Пракрычала над соннай ракой.

Так трывожна, тужліва кугіча,
Быццам просіць прачнуцца сяло.
Ці то ў новыя далечы кліча,
Ці то плача над тым, што прайшло.

Спіць зямля. Небасхіл залачае.
І плыве над чародамі ліп
Для каго — крык здарожанай чайкі,
Для мяне — роднай кнігаўкі ўсхліп...

* * *

Я збіраўся на чоўне
Па Дунаі ўначы
Ад вачэй тваіх чорных
На край свету ўцячы.

Я хаваўся ў сябрыну
Ад цыганскіх навек.
Думаў — кіну ўсё, рыну
І забуду навек.

Ды праз пушчы і гала,
Праз Карпаты і Крым
Ты мяне даганяла
Ціхім шэптам сваім.

Маю роспач і горыч
Запаўняла сабой —
І смяялася поруч,
І блукала са мной...

Таямніца такая
Д'ябла з тропу саб'е:
Чым далей уцякаю,
Тым бліжэй да цябе...

* * *

Лес для таго і вырас на зямлі,
Каб птушкі і звяры у ім жылі,
Каб таямніцы варажылі ўночы,
А ўранні разлягаўся трэск сарочы,
Каб я паклаў пад елку ці сасну
Сваю апошнюю вясну...

## ПЕСЕНЬКА
## АНГЛІЙСКАГА САЛДАТА

Ці прыпадак вар'яцтва,
Ці проста дзівацтва —
А куды толькі беламу свету дзявацца? —
Пачынаюць палітыкі зноў задзірацца,
Значыць, хутка салдату ў дарогу збірацца.

Сверб старога ваяцтва
Ці прыступ пірацтва —
Толькі дзе яго ў свеце зусім не збаяцца? —
Пачалі ў сваіх планах генералы ўпірацца,
Значыць, хутка салдату ў дарогу збірацца.

Душ і лёсаў сваяцтва —
Салдацкае брацтва.
Ці паспееш з сябрамі навек развітацца?..
У дарогу салдату нядоўга збірацца.
Толькі вось ці пашчасціць дадому
вяртацца?

* * *

Я не га́ню землі чужыя —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе за морам ні жыў я,
Беларусь мая снілася мне.

Так карцела — сляза закінала,—
Каб да сэрца хаця б здалёк
Прыплывалі жалейка Купалы,
Багдановічаў васілёк...

Гэта ўсё, безумоўна, не нова.
А ці трэба, каб новым было
Поле бацькава, матчына мова
І над хатай буслова жытло?

Хіба душы свае не лечым
Ад бяздомных бядот і згрызот
Самым простым і самым вечным,
Што пранёс праз вякі народ?

І якія б шляхі не схадзіў я,
Кліча полацкая сенажаць...
А калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

* * *

Ад матулінай пачосткі
І ад бацькавых папруг
Я ўцякаў далей за вёску,
На шырокі летні луг.

Бег расхрыстаны і босы
Над зялёныя дубы.
«А куды ж ты?» — «На нябёсы,
Дзе ні крыку, ні журбы».

Па раскідзістых галінах
Узбіраўся ўсё вышэй —
Ад папрокаў, напамінаў,
Ад усмешлівых вачэй.

Лез туды, дзе ззялі далі,
Дзе, як богавы паслы,
На адной назе стаялі
Задуменныя буслы.

З небам там перапляліся
Цёплы цень і цішыня.
Я і сам быў сярод лісця,
Як малое птушаня.

Адплывалі штохвіліны
Пад зялёны роўны шум
Крыўды ўсе і ўсе правіны,
Прасвятляючы душу…

І цяпер, як сум атуліць,
Я туды ж імчу хутчэй…
«А куды ж ты?» — «Да матулі,
Да матуліных вачэй…»

* * *

Мой родны край,
          за што цябе, скажы,
Гісторыя так люта шкуматала —
Разворвала ўсіх войнаў рубяжы,
Каціла вал грымотнага метала?

Нібыта ёй карцела дапячы
Тваёй спрадвечнай стойкасці вясковай.
Як пяліся чужацкія ключы
Тваю душу замкнуць абавязкова!

І колькі сквапных прыхапняў паўзло
З агнём, з атрутай, з богам і без бога!
Свінцом і здрадай рассявалі зло,
Каб зарасла нянавісцю аблога.

Не шкадавалі толу і брані
На ціхія палеткі і прысады.
Але тваёй славянскай дабрыні
Не затапталі танкі і снарады.

Ты ў свайго лесу нават не спытаў,
За што прыблуды на табе кішэлі.
І маладой нястрымнасцю атаў
Пазараслі акопы і траншэі.

Узрушанаму людству напаказ
Ты ўзняў не крыўдай звугленыя раны,
А жыццялюбства вечнага запас,
На дне тваіх крынічак захаваны.

## АМАЛЬ СУР'ЁЗНАЕ ПАСЛАННЕ МАЛАДЗЕЙШЫМ КАЛЕГАМ

Не славы і шматтомнасці,
Не цыркавой умеласці —
Жадаю вам нястомнасці,
Сумленнасці і смеласці.
Хай страх ківае пальчыкам,
Палохае гразьбой —
Ідзіце ўслед за Панчанкам
На рызыку і бой.

Ну што, як крытык сыкае,
Глядзіць сівой савой?
Пакуль што не-«вялікія»,
Вы рэй вядзіце свой.
Да цішы не прычалены
Ваш юны карабель.
Вясёлыя, адчайныя,
Не ўзбіцеся па мель.

Залішне не падбрыквайце,
Шануйце сіл запас.
Не надта верце прыказцы,
Што час заўжды за вас.

А ўзрушыць свет шматструннасцю
І ваша маладосць,
Дык класікі пасунуцца:
Між імі месца ёсць...

* * *

Свет мой родны,
Свет мой мілы,
Поўны шчэбету і траў!
Колькі ты маіх памылак
Літасціва дараваў!

Як цярпеў велікадушна
Мой запозненны паіў,
Калі я ў цяпле падушак
Твой бясхмарны поўдзень сніў!

Я за ўдачаю ганяўся,
На блакітны вецер бег —
І пустых спакус гайня ўся
Адганяла ад цябе.

Свет мой грозны,
Свет складаны,
Ты не слаў папрокаў злых,
Ручаямі і садамі
Прасвятляў мне зрок і слых.

Пасталелы,
Я іначай
На цябе гляджу цяпер...
Ці паспею я аддзячыць
За цярплівасць і давер?..

* * *

Я за жыццё сваё спасціг,
Што злосць —
            сястра зларадиасці,
А сэрца,
            што ў грудзях маіх,—
Гняздо для птушкі радасці.

Ды толькі вось адно бяда,
Якую не агораю,—
Не прылятае да гнязда
Пяюння яснапёрая.

Затое ў дождж
            і ў халады
Ляцяць,
            прытулку просячы,
Другія птушкі —
            з чарады
Сумнення,
Смутку,
Роспачы.

Як найбліжэйшая з прынад
Так вабіць
            іх гняздо мае.
Хіба ж я мог
            іх не прыняць,
Калі яны бяздомныя?

Яны ў мяне
            ў гасцях жылі
У зацішку спагаднасці,
Каб гнёзды іншыя былі
Сагрэты птушкай радасці.

Я і цяпер
            іх галасы
Лаўлю душою шчыраю
І веру:
            блізяцца часы,
Што клікнуць іх да выраю.

І будзе свет —
            як светлы дом,
Без подласці і зайздрасці.
І я аддам яму гняздо
Для звонкай птушкі радасці.

Няхай яна
            усім пяе,
Шчабеча,
            не змаўкае ўсё.
Я дачакаюся яе,
Дачакаюся...

# ТРЫ КАЗКІ ПРА ЗАЯ

## ЗАЙ І ЯБЛЫНЬКА

Адзвінелі каласы,
Адгулі дажынкі.
На самотныя лясы
Падаюць сняжынкі.

Сад ільдзінкамі прапах.
У гародзе пуста.
Адхрумсцела на зубах
Крохкая капуста.

Сівер джгне —
вастрэй ляза,
Нібы сто іголак...
Невясёлы скача Зай
Ля асінак голых.

Каля кожнае сасны
Ліска точыць зубы.
А ў яго яшчэ з вясны
Шэранькая шуба.

Як ні глянь —
з усіх бакоў
Ён відзён адразу.
Ад сабак ды ад ваўкоў
Лапы, знай, падмазвай.

І мяцеліцы вось-вось

Зашумець павінны.
На знаёмых сцежках ёсць
Толькі журавіны.

Стала Заю холадна,
Стала Заю голадна.

Ён хаваўся ў верасах
Ад вятроў і згубы.
І на колкіх маразах
Паліняла шуба.

Пасвятлеў пушысты хвост,
Пасвятлелі вушы.
Зай ужо на поўны рост
Да паляны рушыў.

Адляжаўся у цішы —
І начной парою
Ласаваўся ад душы
Вербавай карою.

Пакруціўся там і тут —
Ля слядоў ласіных
Маладзенькія растуць
Сосны і асіны.

І рашыў шчаслівы Зай:
Добры лёс удаўся,
Днём ляжы, не выбягай,
Ноччу — наядайся,
Слухай ціхі шум лясны,
Добра ведай сховы —
І дабудзеш да вясны
Ты жывы-здаровы.

Дзе там лепшае шукаць!
Трэба тут вясну чакаць...

Ды сарокі на хвасце
Чутку раз прынеслі,
Што салодкі сад расце
Блізенька, ля ўзлесся.

І пра гэта ж неўпапад
Цінькнулі сініцы...
І яму салодкі сад
Стаў упарта сніцца.
Толькі сцішыцца ля пня
І заплюшчыць вочы —
Як галінкамі вішняк
Смачна залапоча.

Толькі скруціцца ў клубок
І прыцісне вушы —
Як пачнуць калоць у бок
Яблыні і грушы.

«Кажуць, блізенька зусім
Сад той, за прыгоркам».

А яму кара асін,
Як палын, агоркла.

Небагатая зіма
Заю на прысмакі.
«Аніводнага няма,
Кажуць, там сабакі».

І хаця шаптаў, як смоўж,
Страх:
«Там пасткі, мусіць»,
Ды не выцерпеў усё ж,
Здаўся Зай спакусе.

Выбраўся са сховы,
Збег у сад вясковы.

Ля дамашняга цяпла
Лапы грэў азяблыя.
Ажно слінка пацякла,
Як убачыў яблыні.

Ён зусім забыў на страх,
Скочыў што ёсць сілы,
Зубы навастрыў і —
ах!
Яблыня...
ўкусіла.

Зай агледзеўся, прыціх:
Ствол увесь абкручаны
Ад ялінак баравых
Лапкамі калючымі.

І не проста так,
абы,
А ў чатыры столкі.
Тут адступіцца любы —
Колюцца ж іголкі.

Рушыў Зай далей,
да груш
І да вішань тонкіх.
Ды калючкі зноў:
— Не руш
Пашкадуеш толькі.
Лепш бяжы сабе назад,
Покуль ноч над полем.
І зусім забудзь на сад,
А не то паколем...

Зай збянтэжаны прысеў
І не плача ледзьве.
Але раптам паміж дрэў
Яблыньку угледзеў.

Каля ўскраечку,
адна,
З тонкімі галінкамі.

І не ўхутана яна
Колкімі ялінкамі...

Вочы лапамі працёр —
Можа, сон-прынада?
Не.
    І месяц, як касцёр,
Паміж хмар,
    над садам.

Сэрца ў шчасці скача:
Ну, нарэшце ўдача.

Зай да яблынькі падбег,
Аглядае вещце.
А яна атрэсла снег,
Кажа:
    — Добры вечар.

Як у лесе, раскажы.
Шмат на елках шышак?..
Я тут змерзла на мяжы,
Хочацца ў зацішак.

Зай бурчыць:
    —Няма калі
Сёння байкі баяць.
Лепш,
    чым мёрзлыя камлі,
Яблынька любая.

Зай аббег яе наўкол,
Паглядзеў — якая.
Змераў хітрым вокам ствол
Дзе пачаць, шукае.

Узмалілася тады
Яблынька:
—Паслухай!
Не рабі ты мне бяды,
Зайка даўгавухі.

Ну чаму, Зай,
    не прыбег
Да мяне раней ты?
Я б натрэсла цэлы мех
Сакаўных ранетаў...

—Што тут доўга гаварыць!
Заяц падступае. —
Мне звычайнае кары
Сёння не хапае.

А ласункаў і на зуб
Я не браў ніколі.
То сасонку пагрызу,
То таполю ў полі...

— Дык я тонкая зусім.
Што ж ты точыш зубы?..

Ты ані не пад'ясі,
А мяне загубіш.

Слухай, зайка,
слухай, Зай,
Ты мяне не абгрызай...

Як ні сніўся смачны сад,
Але Зай тут здаўся,
Сплюнуў злосна
і назад
Паміж дрэў падаўся.

Уздыхнуў сабе:
«Няхай
Вырастае дужай».
І пачуў здалёку:
— Зай!
Дзякуй табе, дружа!..

І гукнула ціха ўслед
Яблыня старая:
— Пачакай, пастой, сусед.
Слухай, што параю.
Як бы цяжка ні было,
Ведай, шчасце прыйдзе.
Не рабі ніколі зло
І слабых не крыўдзі.

Стрэсла з кроны серабро
Інею
над Заем.
— Тых, хто робіць нам дабро
Мы не забываем.
Ты нам добрым сябрам стаў..

І да ног ягоных
Яблык з яблыні упаў,
Круглы і чырвоны.

— Гэта самы дарагі,
Самы смачны з яблыкаў.
Мы яго убераглі
Ад сарок і зяблікаў.

Мы яго хавалі ўсе
На вяршыні самай,
Абмывалі у расе,
Хуталі лістамі.

Не знайшла яго зіма,
Не заўважыў вецер.
Саладзейшага няма
Анідзе на свеце.

Яблык Зай шчаслівы ўзяў
Лапамі азяблымі,
Пакланіўся нізка Зай:
— Дзякую вам, яблыні.

Як бы цяжка ні было,
Знаю, шчасце прыйдзе.
Не зраблю нікому зло,
Вас не буду крыўдзіць.

А сяброўка ваша хай
Вырастае дужай...
І пайшоў.
І чуе:
— Зай!
Будзь здаровы, дружа!

А як прыйдзе восень —
Зноў у госці просім!
Прыбягай, не забывай,
Добры Зай!

## ЯК ЗАЮ ХВОСТ РАТАВАЛІ

Добра ўсім жывецца ўлетку:
З неба сеецца цяпло,
На палянах і на ўзлеску
Столькі красак расцвіло.

Ад суніц прапахлі травы
Смачным водарам густым.
Вецер лёгкі і ласкавы
Ледзьве кратае лісты.

Звонка конікі стракочуць,
Ходзіць лесам цішыня.
Прытаіўся пасля ночы
Зай стамлёны каля пня.

Спяць яго сябры спаважна,
А яго не морыць сон.
З-за травы цікуе ўважна
За жыццём паўдзённым ён.

Вось яму над вухам смела
Затрымцела, загула
І на вус ягоны села
Залацістая пчала.

Каля лап бесперапынку,

Як машыны на шашы,
За травінкаю травінку
Цягнуць дружна мурашы.

Лёгка кружацца стракозы,
У чмялёў — цяжкі палёт...
Пазірае заяц скоса
На ўвесь гэты карагод.

І яму карціць таксама
Выбегчы на сенажаць,
Хоць яго вучыла мама
Аж да вечара ляжаць.

— Ой, глядзі, — казала, —
Зай,
На спакусы не зважай...

Толькі Заю ўсё ж не спіцца.
Стома з ветрыкам сплыла.
Пахнуць спелыя суніцы,
Пахне цёплая смала.

І, забыўшы ўсе парады,
Што нашэптвала радня,
Лету рады, сонцу рады,
Зай наш выскачыў з-за пня.

Стаў падскокваць на паляне,
Як няўцямны ветрагон,
За чмялямі, матылямі
Бег па лесе наўздагон.

Перакульваўся па ўзлессі
У густым разліве траў
І прыдуманую песню
Гучна, весела спяваў:

— Лета, лета —
Добра гэта.
Ветру золкага няма.
Хай ніколі
К нам на поле
Не вяртаецца зіма.
Тра-та-та, тра-та-та,
Летам проста любата!..

Зай куляўся і галёкаў,
Не здагадваўся зусім,
Што лісіца хітрым вокам
Цікавала ўжо за ім.

Вось яна ўсё бліжай,
бліжай,
Прагна выгнула спіну.
За кустом
маланкай рыжай

Хвост пушысты мільгануў.

Вось яна ўжо за пагоркам
Напружынілася ўся.
— Зай! —
зацокала вавёрка. —
Сцеражыся, Зай! Ліса!..

«Дзякуй!» не паспеў прамовіць
Побач трэснулі сучкі.
І спалохана ў ядловец
Зай рвануўся напрасткі.

На хаду прыпомніў маці,
Што казала: — Калясі!
Толькі так ўратавацца
Можна ў лесе ад лісы...

Сігануў управа, ўлева,
Калясіў каля асін
І пад елкаю самлела
Грымнуў Зай зусім без сіл.

Аж ля горла б'ецца сэрца,
Пот пячэ мацней расы.
Але рады Зай: «Здаецца,
Убярогся ад лісы.

Недзе рыжая ў лагчыне
Пераблытала сляды...
Вось вавёрка малайчына —
Захавала ад бяды».

Ну, цяпер ужо ніколі
Ён не будзе ўдзень гуляць.
Хай бягуць другія ў поле,
На паляны, сенажаць.

Заяц лапамі пакратаў,
Адпачыў крыху, прыўстаў
І тады пабачыў раптам,
Што застаўся без хваста.

Там, дзе быў такі пушысты,
Круглы, мяккі камячок,
Не было нічога чыста —
Хоць бы поўсці касмычок.

А сарока-белабока
Тут як тут, трасе хвастом,
Пазірае круглым вокам
І цікуе з-за кустоў.

У яе душы сарочай
Спачування не шукай —
Так стракоча, так сакоча,
Аж шуміць паўдзённы гай.

Над палянаю высока
Падняла свой тарарам:

— Гэй вы, слонкі!
Гэй вы, сойкі!
Што скажу я зараз вам!..
Гэй вы, дзятлы і сініцы!
Прылятайце падзівіцца.
Гэта ж дзіва дзіўнае,
На ўвесь лес адзінае,
Проста жах-сарамата:
Даўгавухі без хваста!..

І вароны закрычалі:
— Вось штукар!
— Ну штукар!
— Надзвычайна!
— Незвычайна!..
— Кар-р!..
— Кар-р!..

У зацішак пад ядловец
Зай зняважаны залез,
Чуйным вухам прагна ловіць,
Як гудзе ад рэха лес.

— Вось штукар!
— Сарамата!
— Заяц...
— Кар-р...
— Без хваста!..

Бедны Зай усхліпваў горка,
Зашываўся ў цень лясны
І не бачыў, як вавёрка
Ціха скочыла з сасны.

Падышла яна да Зая:
— Ты не вешай галавы.
У жыцці ўсяляк бывае,
Дзякуй лесу, што жывы.

І пацвердзіў дзяцел зычна:
— Тук-тук-тук...
Так-так-так...
На мяне заўжды разлічвай,
Я лячыць другіх мастак.
Чым змагу,
Памагу.
Выкінь з сэрца тугу...

Ад рабінніку густога
Прыляцеў стракаты дрозд:
— Вам патрэбна дапамога?
Можа, мой падыдзе хвост?

І прытупаў добры вожык:
— Ты на кпіны не зважай.
Мы ў бядзе табе паможам,
І твой хвост мы знойдзем,
Зай.
У мяне іголак шмат.
Я яго прышыю, брат...

І тады загрукаў дзяцел
Па кары:
— Прыбягайце,
Прылятайце,
Сябры!
Сабірайся ў паход,
Лясная рац,
У лісіцы Заяў хвост адбіраць!..

І зляцеліся ўраз
З усіх бакоў
Дзесяць соек,
Пяць цецерукоў,
Сем сініц,
Восем слонак
І адна
У сваёй чырвонай шапачцы
Жаўна.

Ад птушыных крылаў
Лес пачаў шумець
Так, што вочы адкрыў
І ўстаў мядзведзь.
Зарыкаў ён:
— Гнаць лісу з лесу вон!
З-за яе
Недаглядзеў я свой сон...
Дабяруся я нарэшце да яе.
Хай сама лепш Заю хвост аддае!..

Толькі змоўк мядзведзь,
лісіца
Ціха выпаўзла з нары:
— Ну навошта так сварыцца?
Я ж не вораг вам, звяры.

Вас усіх я паважаю,
Запрашаю да стала.
Ну, а хвост сягоння Заю
І сама б я аддала...

— Вось дык маеш!.. —
фыркнуў вожык. —
Падабрэла ўсім наўздзіў
І гаворыць так прыгожа,
Хоць да раны прыкладзі...

— Мы прыйшлі сюды не ў госці.
Я зладзейкам —
не сябрук! —
Ускіпеў ажно ад злосці
Паважаны цецярук.

Азірнулася лісіца,
Бачыць —
выкруткі няма.
Пачала яна прасіцца:
— Я ўжо каюся сама.
Атрымалася пагана.

Забірайце Заяў хвост...
І маланкаю з паляны
Ірванулася наўпрост.

Дзе было шукаць дарогу,
Калі следам гнаўся страх,
А птушыны свіст і рогат
Не суцішваўся ў вушах.

Бегла рэха наўздагон:
— Лісу — вон!
— З лесу вон!..

А тым часам вёрткі дрозд
Падхапіў заечы хвост
І да Зая —
напрасткі.
А за ім
Цецерукі,
Сойкі,
Слонкі
І адна
Чарнахвостая
Жаўна.

Акружылі Зая дружна,
Віншавалі ад душы.
І вясёлы вожык тут жа
Адарваны хвост прышыў.
Так прыладзіў адмыслова —
Ажно глянуць любата.
Быццам заяц, адным словам,
І не бегаў без хваста.

Зай шчаслівы скочыў жвава,
З сэрца ўміг бяда сплыла.
А вавёрка:
— Брава!
Брава!
Майстру-вожыку —
хвала!

Тут жа вожыка дзве сойкі
Падхапілі ўраз з зямлі
І...
падкінулі б высока,
Ды калючкі не далі.

А сарока-белабока
Моўчкі лятала між хвой,
Пазірала круглым вокам
І круціла галавой.

З ёю лыпалі вачыма
І вароны:
— Кар-р!
— Кар-р!
— Кар-р!
— Зноў з хвастом ён?
— Немагчыма!

— Вось штукар!
— Ну штукар!..

Як пачуў мядзведзь навіны,
Дык спакойна ўлёгся ён
Пра даспелыя маліны
Даглядаць салодкі сон.

А ўкруг Зая на паляне
Весяліўся карагод.
Дзяцел біў па барабане.
У дуду дудзеў удод.

І па лесе небывалы
Разлягаўся звон і грук.
Гралі слонкі на цымбалах,
На валторне — цецярук.

Пайшлі ўпрысядкі вавёркі
І сініцы — як адна.
Танцавала «Бульбу» вёртка
Разам з сойкаю жаўна.

Не шкадуючы ножак,
Сыпаў польку братка-вожык..

Зай глядзеў замілавана
На лясных сяброў сям'ю
І спяваў на ўсю паляну
Песню новую сваю:

— Лета, лета —
Добра гэта.
Звоняць птушак галасы.
Льюцца песні,
Калі ў лесе
Не відаць зусім лісы.

Добра ў полі
І ў бары,
Калі ўсюды ёсць сябры,
Што ніколі
І нідзе
Не пакінуць у бядзе.

Тра-та-та, тра-та-та,
Жыць з сябрамі —
Любата!

## ЗАЙ І ПЕЦЯ

Непрыкметна пад вятрамі
Дрэвы скінулі убор.
З неба зноў зляцелі самі
Мухі белыя на бор.

Пакружылі ціхім роем
І паселі на галлі,
За гарою, пад гарою
Гурбы снегу намялі.

У зацішку верасовым,
Дзе сям'я старых бяроз,
Зай сабе прыгледзеў сховы,
Каб адлежвацца ў мароз.

Моўчкі слухаў,
          як над вухам
Ціша інеем трасе,
Як яліны-векавухі
Уздыхаюць пакрысе.

Не здзівіўся, як аднойчы
Расхадзіліся вятры,
І кракталі сосны ўночы,
І зваліўся дуб стары...

Паміж хвой стагнала
          глуха
У вяршалінах гула,
Лютавала завіруха
Аж да самага святла.

Гэта снежная навала
Зноў прынесла халады,
Норы ўсе замуравала,
Пазакрыла ўсе хады.

Прахапіўся Зай уранні —
І ў яго засыпан ход.
Лапамі пабарабаніў,
Ды не зрушыўся сумёт.

Свіснуў Зай ніякавата:
— Вось свавольніца-зіма.
Рыхтаваў сабе я хату,
Атрымалася —
          турма.

Мне такі спакой нямілы.
Так і з голаду памру...
І, напружваючы сілы,
Зай пачаў капаць нару.

Пот з яго каціўся градам,
Лапы млелі,
          а праз снег
Так спагадна і прынадна
Заінелы дзень яснеў.

Як лісой загнаны, дыхаў
Ды,
            забыўшы на спачын,
Прадзіраўся Зай паціху,
Гурбу снежную тачыў...

І нарэшце ўцёк з палону,
Выпаўз Зай на белы свет,
З вусаў пот злізаў салёны
І аддыхаўся як след.

Паглядзеў,
            як бела-бела
Леглі гурбы з краю ў край,
І зажмурыўся самлела
І прылёг стамлёны Зай.

Ці то праўда,
            ці то сніцца —
Цішыні не чуў такой...
Ды спалохана сініцы
Праляцелі талакой.

Зазвінелі таямніча:
— Цінь-цінь-цінь...
— Дзінь-дзінь-дзінь...
— Ходзіць лесам паляўнічы.
Сцеражыся, Зай,
            глядзі...

І сарока — вось праныра! —
Затрашчала на ўвесь лес.
Заяц вушы натапырыў,
Напружыніўся ўвесь.

І здалёк пачуў прывычна
Брэх, і смех, і грук, і звон.
Значыць,
            ходзіць паляўнічы,
Не міне паляны ён.

Трэба зноў у сховы лезці
І да вечара чакаць,
Бо бяжыць бяда па лесе
З мокрай пысай ганчака.

Зай схаваўся неахвотна,
Ход сабраўся зачыняць
І пабачыў ля сумёта
Трох маленькіх зайчанят.

— Ой, у нас замёрзлі лапкі! —
Ціха плакалі яны. —
Даганяюць нас сабакі,
Засталіся мы адны...

Зай да іх падскочыў хутка:
— Марш за мною, гавару!
Калі ўседзіце ціхутка,

Дык пушчу ў сваю нару.

Зайчанят загнаў у сховы,
Рассадзіў —
　　　　і зразумеў,
Што шукаць прытулак новы
Трэба недзе каля дрэў.

Хоць малыя зайчаняты,
А паселі —
　　　　і нара
Аказалася занятай
Без яе гаспадара...

Заяц ход прысыпаў снегам
І барзджэй убок пабег.
А за ім імчаўся следам
І званчэў сабачы брэх.

І здавалася —
　　　　аглухне
Ад яго зімовы лес.
Дзе ні скочыш
　　　　снегам пульхным
Ён ляціць наперарэз.

Вось сабакам
　　　　крокаў дзвесце
Засталося акурат...
Зай стараўся, каб адвесці
Іх далей ад зайчанят.

Ён заманьваў іх памалу
Ад старых бяроз убок,
Да выжарын і завалаў
Бег, каціўся, як клубок.

Прадзіраўся да імшарын,
Прыгінаўся каля дрэў.
А сабакі ўслед імчалі,
Ажно снежны пыл курэў.

Дзе ты іх цяпер абдурыш —
Занялі з усіх бакоў.
Зай ужо на ўласнай шкуры
Чуў дыханне ганчакоў.

Ратаваць ніхто не стане —
Ці ты плач,
　　　　ці ты крычы...
І апошнім намаганнем
Зай зашыўся пад карчы.

Да спіны прыціснуў вушы,
Да зямлі нібы прырос.
Хай бы іней зацярушыў,
Хай бы ўсё скаваў мароз!..

А сабакі зноў скавычуць,
Вужам лезуць пад карчы.

І спяшае паляўнічы —
Пад нагой галлё трашчыць.

Ён высочвае па следзе
Заяў шлях ад хмызнякоў.
Вось ужо ён побач недзе
Адганяе ганчакоў.

Праз карчы прабрацца хоча,
Цягне прагную руку...
Зай расплюшчыў вочы —
хлопчык
У вясковым кажушку.

Нахіліўся над карчамі —
Грознай стрэльбы не відаць, —
Стаў блакітнымі вачамі
Моўчкі Зая разглядаць.

І было ў яго паглядзе
Столькі светлай дабрыні,
Што даў Зай сябе пагладзіць,
Не пярэчачы ані.

Толькі сэрца стала грукаць
То часцей, а то радзей,
Як ён браў яго на рукі
І прытульваў да грудзей.

Зай заціх
не прыкмеціў,
Як прывык да цёплых рук.
— Гэта ж я,
твой сябра Пеця,
Гаварыў яму хлапчук.

Мы табе і морквы многа
І капусты прынясём...
І ад холаду ляснога
Захінуў яго крысом.

Зай залез ажно пад паху
І здзівіўся,
што кажух
Быў не порахам прапахлы,
А травой,
як летні луг.

Ён зусім і не заўважыў,
Як наўпрост праз нейкі час
З палахліваю паклажай
Петрусёк дамоў прымчаў.

Скочыў Зай на ложак мяккі,
Глянуў скоса на акно.
Аніводнага сабакі
Не відно і не чутно.

За вугламі ходзіць вецер,
Тут жа —

цёпла, як наўздзіў.
Зай у кут залез,
што Пеця
Для яго адгарадзіў.

Азіраецца з апаскай,
Натапырыў вушы ён.
А быць можа, гэта — казка?
Можа, гэта — дзіўны сон?

Ды нясе Пятрусь на сподку
Моркву параную ў кут.
Слінкі ў Зая так салодка,
Так нястрымана цякуць...

Надакучыў голад горкі.
І, забыўшыся пра жах,
Зай накінуўся на моркву,
Аж пішчэла у вушах.

Ну а Пеця без упынку
Падкладаў яму, што мог, —
То капусту,
то скарынку,
То з брусніцамі пірог.

Час ішоў.
Стаў Зай вясёлы,
Памажнеў і падабрэў,
Петруся чакаў са школы,
Да змяркання з ім дурэў.

Быў шчаслівы...
Толькі сніцца
Неадступна пачалі
І вавёрка, і сініцы,
І высокіх хвой камлі.

Ледзьве Зай заплюшчыць вочы,
Як здаецца —
ля акна
То сарока засакоча,
То загрукае жаўна.

І не мелі ўжо значэння
Ні капуста,
ні тварог,
Ні салодкае пячэнне,
Ні з брусніцамі пірог.

Памяняў Зай інтарэсы,
Стаў прасіцца ў Петруся:
— Не магу пражыць без лесу,
Там мая сямейка ўся.

Хоць там ходзіць воўк пракляты,
Хоць там колецца зіма,
Толькі лепей роднай хаты
Анідзе, відаць, няма...

Перастаў Зай піць і есці,
Занудзіўся аж да слёз...
І нарэшце здаўся Пеця,
Зая ў зімні лес ад нёс.

Зай саскочыў на паляну:
— Дзякуй, дзякуй, Петрусёк.
У цябе пажыў я слаўна,
Ды ўсё роўна ў лес бы ўцёк.

Тут жа ўсё мае дарэшты —
І ажыннік, і карчы,
І асіннік, і арэшнік,
І мяцеліца ўначы.

Хоць і ходзіць воўк праклятьі,
Хоць і колецца зіма,
Толькі лепей роднай хаты
Анідзе, браток, няма...

Петрусёк пагладзіў Зая:
— Будзе цяжка, прыбягай.
Сцежку знаеш?
— Добра знаю.
— Ну, бывай здаровы, Зай..

І дамоў пакрочыў Пеця.
А на ўзмежку Зай лавіў
Чуйным нюхам золкі вецер,
Родны вецер баравы.

Слухаў звычна, як трывожна
Елка стройная рыпіць,
Як варочаецца вожык
І стары мядзведзь не спіць.

І ў душы цяплела шчасце,
І прыйшоў канец нудзе...
Добра жыць у роднай хаце.
Лепш не можа быць нідзе...

# ПЕСНІ

## ПАКЛЯНЁМСЯ, ТАВАРЫШ

Азірніся, таварыш,
на пройдзены партыяй шлях
І глыні хоць на міг Рэвалюцыі чыстага
ветру.
Пакланіся, таварыш,
героям, што ў грозных баях
Новы дзень падарылі працоўнаму свету,
Падарылі надзею сусвету.
Часам праверана,
Славай авеяна,
Нас правяла праз агонь штурмавы
Родная партыя,
Партыя Леніна —
Наша сумленне
І наш рулявы.

Прыхініся, таварыш,
надзейным плячом да пляча —
І адчуеш яднання братэрскага сілу і шчасце.
Пакляніся, таварыш,
што з нашых сцягоў кумача
Ні крупінцы святла не дадзім мы упасці,
Не дадзім ні крупінцы упасці.
Часам праверана,
Славай авеяна,
Нас правяла праз агонь штурмавы
Родная партыя,
Партыя Леніна —

Наша сумленне
І наш рулявы.

Не спыніся, таварыш,
у мірнай стваральнай хадзе.
Клічуць новыя ясныя далі прасторам
вячыстым.
Паклянёмся, таварыш,
не збочыць з дарогі нідзе.
Паклянёмся навекі бацькам-камуністам,
Паклянёмся бацькам-камуністам.
Часам праверана,
Славай авеяна,
Нас правяла праз агонь штурмавы
Родная партыя,
Партыя Леніна —
Наша сумленне
І наш рулявы.

**ЛЕНІНСКАЯ ДАРОГА**

Скінуць няволю, найсці да святла
З цемрадзі свету старога
Нас навучыла і нас узняла
Ленінская дарога.

Нашы калыскі гайдала вайна,
Спаць не давала трывога.
Толькі была ў нас да мэты адна —
Ленінская дарога.

Часта пажарам палаў небасхіл,
Вораг стаяў ля парога.
Нам прыбаўляла і веры і сіл
Ленінская дарога.

Сцягу свайму мы не здрадзім нідзе.
Прама да шчасця людскога
Нашу зямлю маладую вядзе
Ленінская дарога.

## ТАБЕ, БЕЛАРУСЬ

Ёсць на свеце нямала прыгожых узлессяў,
Ёсць на свеце нямала чароўных дарог,
Толькі самыя лепшыя словы і песні
Для цябе я навекі збярог.

У маўчанні стаю ля тваіх абеліскаў,
Бачу новага дня маладую зару,
Маёй песні калыска,
Майго шчасця калыска,
Непагаснае сонца маё, Беларусь!

Як гаючы бальзам, п'ю твой вецер ласкавы
І шапчу табе словы адданай любві.
І не трэба ў жыцці мне пашаны і славы,—
Толькі сынам сваім назаві.

Да цябе я прыйду і здалёку і зблізку,
Васількоў і рамонак табе сабяру.
Маёй песні калыска,
Майго шчасця калыска,
Непагаснае сонца маё, Беларусь!

Ёсць па свеце нямала прыгожых узлессяў,
Ёсць па свеце нямала чароўных дарог,
Толькі самыя лепшыя словы і песні
Для цябе я, Радзіма, збярог.

## ПЕСНЯ ПРА МІНСК

Над зялёнай тваёй галавой
Нетаропка плывуць аблокі.
Ля паўдзённага сонца б'юць
Жаўрукі трапяткім крылом.
Я шчаслівую песню нясу
Па праспектах тваіх шырокіх,
Мой любімы, мой родны Мінск,
Мой прасторны і светлы дом.

Мой родны Мінск,
Чароўны Мінск,
Мая сталіца.
Табой заўсёды
Мне ганарыцца.
Мой родны Мінск —
Натхнёнасці крыніца.
Жыві, і слаўся,
І красуйся,
Горад мой!

Поўняць ціхія паркі твае
Закаханых нясмелыя крокі.
Задуменныя плошчы ад сну
Будзіць мірны ласкавы гром.
Не змаўкае дзіцячы смех
На праспектах тваіх шырокіх,
Мой любімы, мой родны Мінск,
Мой прасторны і светлы дом.

Мой родны Мінск,
Чароўны Мінск,
Мая сталіца.
Табой заўсёды
Мне ганарыцца.
Мой родны Мінск —
Натхнёнасці крыніца.
Жыві, і слаўся,
І красуйся,
Горад мой!
Хай вечна свеціць
Сонца над табой!

**СЛАВА ТВАЯ, БЕЛАРУСЬ**

З далёкай дарогі і з доўгай разлукі
Нас дома чакаюць
гасцінны абрус,
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І шчодрае сэрца тваё, Беларусь.
Бацькоўскія рукі
І шчодрае сэрца тваё, Беларусь.

Пачуем цымбалаў чароўныя гукі —
І светла прысняцца,
дзе б мы ні былі,
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І вецер жытнёвы любімай зямлі.
Матуліны вочы
І вецер жытнёвы любімай зямлі.

Пранеслі святло праз нягоды і мукі,
Высока ўзнялі нашай долі зару
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І гордая слава твая, Беларусь.
Матуліны вочы
І гордая слава твая, Беларусь...

## ЛЯСНЫЯ САЛДАТЫ

Прапахлі мы дымам ад спаленай хаты,
І попел сыноўнія сэрцы пячэ.
Народныя мсціўцы, лясныя салдаты,
І ў сне не здымалі вінтоўкі з плячэй.
Нам сталі сябрамі слата і залева,
У снег і мароз саграюць буданы
Зялёнае полымя лесу,
Барвовае полымя гневу —
Балючая памяць вайны.

Мы помстай сваёй начынялі гранаты,
І слёзы, як кулі, паклалі ў набой.
Народныя мсціўды, лясныя салдаты,
За волю і шчасце мы выйшлі на бой.
Па ворагу ўдарым з-за кожнага дрэва,
Насцігне чужынца ля кожнай сасны
Зялёнае полымя лесу,
Барвовае полымя гневу,
Суровая кара вайны.

На брацкіх магілах рамонкі і мята,
Жыты каласяцца на мірнай зямлі.
Народныя мсціўцы, лясныя салдаты,
Радзіме мы ўсё, што маглі, аддалі.
Бярозы і сосны гамоняць ласкава.
У сэрцы навек зберагаюць сыны
Зялёнае полымя шчасця,
Барвовае полымя славы,
Свяшчэнную памяць вайны.

## СВЕТ МОЙ АДЗІНЫ...

Заўсёды мне вочы слязою замглёны,
Калі зажурацца і глянуць услед
Высокія клёны,
Шумлівыя кроны
І свет наш зялёны,
Зялёны мой свет.

Зязюлямі кліча мой край незабыты.
Здаўна берагуць ад нягодаў і бед
Густыя ракіты,
Гасцінец разбіты
І свет наш блакітны,
Блакітны мой свет.

Па даўніх сцяжынках вядуць успаміны.
І ў сэрцы нясу я, нібы запавет,
Старыя рабіны,
І клін жураўліны,
І свет наш адзіны,
Адзіны мой свет...

**БАЛАДА ПАМЯЦІ**

Ты быў адзіны —
Мой лёс непаўторны,
Незаручоны мой,
Мой нарачоны.
Я цябе моўчкі праводзіла ў бой,
Аж да дарогі ішла за табой,
Мой дарагі, ненаглядны ты мой.

Ты ад мяне аддаляўся паволі.
Вецер прагорклы імчаўся па полі.
Боты табе разрывалі драты.
Дымам цябе закрывалі франты.
Не азірнуўся,
Не адгукнуўся
І не вярнуўся
З той далечы ты.

Стаў ля дарогі ты,
З бронзы адліты,
Недацалованы мой,
Незабыты.
Каска.
Шынель.
Аўтамат.
Патранташ.
Болей не мой.
Ты цяпер ужо — наш.
Наш пераможца.
І наш абаронца.
Вечна на варце ў радзімай старонцы.
Мужны салдат.
І бясстрашны герой…
Мілы ты мой!..

## ФРАНТАВЫЯ ДАРОГІ

Франтавыя дарогі —
Як рубцы на пакутнай зямлі.
Нам бai і трывогі
Вочы стомай цяжкой абвялі.

Зноў шляхі ветравыя,
І на іх — між палёў і дуброў —
Не слупы верставыя,
А магілы найлепшых сяброў.

За туманам, за дымам
Свеціць неба рачной сінявой.
Застанецца Радзіма,
Застанецца Радзіма жывой.

Калі суджана ўпасці,
Мы спакойна ўпадзём між бяроз
За высокае шчасце
Шыць Радзіме без гора і слёз.

На вясновыя поймы
Ляжа крык жураўліны глухі.
Мы навекі запомнім
Да сваёй перамогі шляхі.
За туманам, за дымам
Свеціць неба рачной сінявой.
Застаецца Радзіма,
Застаецца Радзіма жывой...

## БАЛАДА ПРА ПОЛЕ МІШЫ МАРОЗА

Не сціхаюць над зямлёй песень перазвоны.
Клічуць тысяч дарог на прастор зялёны.
І нясе мне родны край жаўранка ў прыполе.
І ляжыць перада мной майго лесу поле.

Тры гады яго вайна дымам спавівала.
Тры гады яго вайна смерцю засявала.
Бомбы нішчылі яго, разрывалі міны.
І ўзышлі на ім навек горкія ўспаміны.
Прарастае у душы прыхаваным болем
Поле памяці маёй, бацькі майго поле.

А за вокнамі лясы нахіляюць голле.
І калыша каласы шчасця майго поле.

Толькі зноў паўстала смерць, як на полі
бою,—
І таварышаў юнак засланіў сабою...

Мне мой родны край нясе жаўранка ў
прыполе.
І жыццё свае пражыць — як прайсці праз
поле...

**БЕЛЫЯ КРЫЛЫ**

Толькі зноў на дзяцінства сваё азірнуся —
І ўзляціш ты, мой бусел, вястун дарагі.
У задымленым небе над зямлёй Беларусі,
Над маёй галавою ты робіш кругі.
Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце плешча ціхая Друць,
Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць.

Наша доля на радасць была небагатай.
Мы раслі сярод горкіх ваенных атаў.
Ды з высокай буслянкі над бацькоўскаю
хатай
Аб надзеі на свята ты мне клекатаў.
Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце плешча ціхая Друць.
Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць.

Колькі я ў родны кут свой цяпер ні вярнуся
—
Мірным ветрам абдымуць палі і лугі,
Над маёй галавою, над зямлёй Беларусі
Каля самага сонца ты робіш кругі.

Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце плешча ціхая Друць,
Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць...

## ПЕСНЯ ПРА МАЦІ

Помню кожную рыску
І маршчынку тваю.
Над маёю калыскай
Помню усмешку тваю.
Ад няшчасця ўратуе,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

Праз гады і разлукі
Помню песні твае.
Помню цёплыя рукі,
Помню косы твае.
Скажа праўду святую,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

Толькі ўдачу прарочаць
Пажаданні твае.
Помню родныя вочы,
Помню вусны твае.
Шчыра ласкай атуліць,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

## ПЛЕШЧА У СЭРЦА ДЗВІНА...

Дарога ў далёкія далі заводзіць.
Ды помніцца вечна і ў дальняй далі
Аб горадзе родным, аб родным заводзе,
Аб мілай зялёнай бацькоўскай зямлі.

Дадому вяртае нас памяць жывая.
Радзіма, як маці, заўсёды адна.
І сэрца аб Віцебску песню спявае.
І ў сэрца мне хваляю плешча Дзвіна.

Хапае нам сонца, хапае блакіту.
Аб шчасці ў зеніце звіняць жаўрукі.
А што не забыта і хто не забыты,—
Маўкліва напомняць над плошчай штыкі.

Не старыцца слава бацькоў баявая.
Сыноўнюю памяць трывожыць вайна.
І сэрца аб Віцебску песню спявае.
І ў сэрца мне хваляю плешча Дзвіна.

Разбудзяць куранты блакітнае ранне,
Я выйду насустрач працоўнаму дню
І зноў прашапчу ціха словы прызнання
Табе, родны горад, нібы ўпершыню.

Сплываюць хмурынкі з высокага неба.
Па вуліцах светлых плыве гамана.
І вецер, прапахлы барамі і хлебам,

Пяшчотна калыша на хвалях Дзвіна.
І сэрца аб Віцебску песню спявае.
І ў сэрцы мне хваляю плешча Дзвіна...

## Я — ТВОЙ ЖАЎРУК

*Ігару Лучанку*

Калі вясны паводка залатая
Змяце з палёў зімовую тугу,
Я да цябе, Радзіма, прылятаю,
Бо пець не ў родным краі не магу.

І радасна ўзлятаю ў паднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

Твае сасонкі і твае бярозы
Душу раскалыхалі мне даўно.
Мае гняздо — там, дзе твае барозны,
Дзе матчына вячэрняе акно.

Я радасна ўзлятаю ў наднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

З дарог не збіцца мне і не стаміцца
І не схіліць бяссільна галавы,
Пакуль я п'ю ваду з тваёй крыніцы,
Пакуль я п'ю твой вецер баравы.

Я радасна ўзлятаю ў наднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

**ПЕСЕНЬКА**
**ПРА СОНЕЧНАГА ЗАЙЧЫКА**

Як з-за хмаркі сонца выйшла,
Ён уміг залез на вішню,
Між лістоў зусім не лішні,
Хітрым вокам падміргнуў.
І набег па тратуары,
Запаліў машынам фары,
На тваім задумным твары
Яснай зоркай прамільгнуў.
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной шчасліва скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей.

Ён не ведае спакою:
Мітусіцца па пакою,
З матылькамі і з ракою
Забаўляецца ў цішы.
Ён жыве ў цяністых парках,
Па старых мастах і арках,
У малых расінках яркіх
І яшчэ ў маёй душы.
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной гарэзна скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей.

І ярчэй палаюць стужкі,
І званчэй спяваюць птушкі,
І цвітуць твае вяснушкі,
І смяецца неба сінь.
Дык няхай на белым свеце
Вечна з ім гуляюць дзеці,
І няхай заўсёды свеціць
Залатога сонца сын!
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной гарэзна скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей...

## КАЛЫХАНКА

Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень,
Сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы.
Змоўклі птушак галасы.
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.
Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.
Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.
Пакрысе
На расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахаваны пад падушкі.
Сняць і мышкі, і стрыжы.
Спяць машыны ў гаражы.
Ты таксама
Каля мамы
Ціха-ціхенька ляжы.
Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай,
Баю-бай, баю-бай,
Разам з намі засыпай...

## КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

Там, дзе вечар на зямлю
Сыпле зор маністы,
Я злаўлю цябе, злаўлю,
Конь мой наравісты.

Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Азірнуся ля сяла,
Падлячу да ганка,
Дзе чаромха расцвіла,
Дзе жыве каханка.

Да расплеценай касы
І да губ румяных
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Капытом каля вакон
Сон разбіць дазволю
І пасля цябе, мой конь,
Адпушчу на волю.
Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты ляці, мой конь, ляці,
Конь незацугляны.

## СПАТКАННЕ З ДАЎНЯЙ ВЯСНОЙ

Там, дзе ўсё дыханнем памяці сагрэта,
Ты спатканне зноў прызначыла са мной
Можа, каб сустрэцца з невядомым летам
Можа, развітацца з даўняю вясной.
Зноў спыніўся час для нас.
Зноў шуміць над намі вяз.
Зноў гучыць забыты вальс,
Можа быць, апошні раз.

Мы з табой мінулі сотні паваротаў,
Нам з табой хапіла снегу і дажджу.
Толькі я з ранейшай ласкай і пяшчотай
З той вясны далёкай на цябе гляджу.
Зноў спыніўся час для нас.
Зноў шуміць над намі вяз.
Зноў гучыць забыты вальс,
Можа быць, апошні раз.

Я сабе не веру, што ты ўжо не тая.
Не відна ў тумане наша сівізна.
І ў душы з гадамі ўсё не адцвітае
Першае каханне, даўняя вясна.
Зноў спыніўся час для нас.
Зноў шуміць над намі вяз.
Зноў гучыць забыты вальс,
Можа, не апошні раз...

## БУДЗЬ СА МНОЙ НА «ТЫ»

Мне свае сакрэты шэпча
Нават вецер баравы...
Самы першы, самы лепшы,
Толькі ты са мной на «Вы».

У вячэрнім небе зоры
Ладзяць срэбныя масты.
Веру я, што вельмі скора
Будзеш ты са мной на «ты».

Па-над садам апусцелым
Пралятаюць журавы.
Ты ж са мною, мой нясмелы
Па-ранейшаму на «Вы».

Сарамлівы і няўклюдны,
Час марнуеш залаты.
Не падзенешся нікуды,
Будзеш ты са мной на «ты».

## ПРЫЗНАННЕ

Пад спакойнаю поўняй наш сад шапаткі заціхае,
І паўночная зорка заснула ў цябе на плячы.
Я шапчу табе ціхае-ціхае слова «кахаю».
Ты яму не пярэч і ў адказ мне яго прашапчы.

На сляды нашы ляжа блакітная ціша глухая,
Нам нясмела падорыць маўчанне адно на дваіх.
Я гляджу на цябе — і шчаслівае слова «кахаю»,
Нібы яснае сонца, ўзыходзіць на вуснах тваіх.

Нам не страшна цяпер ні бяда, ні часіна ліхая.
Мы ў разлуках цяпер не баімся ніякіх трывог.
Будзе з намі заўсёды пяшчотнае слова «кахаю».
Мы пачуем яго і за тысячы дальніх дарог...

## ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ

Я не магу
Стрымаць у сэрцы хваляванне.
І я бягу.
І я бягу
На наша першае спатканне.
І я бягу...
Я праміну агні, шляхі і перашкоды.
Я праміну гады
І прыбягу на ціхі голас твой.
Сам я прынёс
Усе былыя спадзяванні,
Свой светлы лес,
І летуценні, і прызнанні.
Сам я прынёс
Усё табе адной.

І мы спляцём
У добрай згодзе нашы рукі
Нашым жыццём.
Нашым жыццём
Закрэслім беды і разлукі.
Нашым жыццём.
Я прынясу
Табе здалёк крыло вясёлкі
І ў касу ўпляту,
Толькі каб ты была заўжды са мной.
Я аддаю
Табе альтанкі ўсе і скверы

І ўсю сваю
Любоў, даверлівасць і веру.
Я аддаю
Навек табе адной.

Хай на зямлі
Заціхнуць буры-навальніцы.
На ўсёй зямлі.
Каб мы змаглі
Удосталь радасці напіцца.
Каб мы змаглі.
Хай ні на міг
Не адцвітаюць нашы кветкі
І для ўсіх цвітуць,
І салаўі ляцяць на голас твой.
Сам я прынёс
Усе былыя спадзяванні,
Свой светлы лес,
І летуценні, і прызнанні.
Сам я прынёс
Усё табе адной...

**ЗАВУШНІЦА ВЕЧНАСЦІ**

На зямлі такое ўжо было —
Ахінула двух вясны крыло.
Пад сівой ракітаю
У трысці забытае
Паплыло блакітнае вясло.
Адкіпелі квеценню сады.
Кветкамі замецены сляды.
І над лесам свеціцца
Завушніца вечнасці —
Месяц малады.

Светлая, чароўная пара.
Поўны свет кахання і дабра.
Там, дзе клёны-ясені,
Нас чакае ясная
Шчасця непагасная зара.
Адкіпелі квеценню сады.
Кветкамі замецены сляды.
А над лесам свеціцца
Завушніца вечнасці —
Месяц малады.

Дзве дажджынкі ўпалі на чало.
Дзве сцяжынкі у адну звяло.
Хоць вясна не вернецца,
Не астыне ў верасе
Нашай ціхай вернасці цяпло.
Адкіпелі квеценню сады.

Кветкамі замецены сляды.
А пад лесам свецішца
Завушніца вечнасці —
Месяц малады...

## КАХАННЕ ПЕРШАЕ ПОМНІЦЦА

Адзвінела жаўранкам нам дзяцінства смешнае.
І рукой махнула мне ты, мая сваволыніца.
А каханне першае,
А каханне першае,
А каханне першае
Помніцца.

І лугі дакошаны, і стагі завершаны.
І гады праносяцца, як ліхая конніца.
А каханне першае,
А каханне першае,
А каханне першае
Помніцца.

Ад былога-даўняга застанецца лепшае.
І душа трывогаю і святлом напоўніцца.
І каханне першае,
І каханне першае
Помніцца,
Помніцца,
Помніцца...

**МАТЫЛІ**

Толькі першыя пралескі
На палянах узышлі —
Над разбуджаным узлескам
Закружылі матылі.
Закружылі, закружылі,
Закружылі матылі.

Сонца промні веснавыя
Раскідала па зямлі.
Над вятрамі б'юць крыламі
Маладыя матылі.
Маладыя матылі,
Маладыя матылі.

А дзяўчаты на вяселле
З васількоў вянок сплялі —
Быццам стомлена прыселі
Ім на рукі матылі.
Ім на рукі, ім на рукі,
Ім на рукі матылі.

Як дадому к маладому
Маладую павялі,
Навакол сваты віліся,
Як ля вішні матылі,
Маладыя матылі,
Маладыя матылі.

Вось і восень залатая.
Клёны сцежкі замялі.
Адлятаюць, адлятаюць
Жураўлі і матылі.
Адлятаюць, адлятаюць
Жураўлі і матылі.

Не навечна, не навечна
Дні юнацтва адплылі.
Зноў агеньчыкамі ўспыхнуць
Веснавыя матылі,
Непаседы-матылі,
Маладыя матылі...

# ПЕРАКЛАДЫ

## З РУСКАЙ

### М. А. Някрасаў

* * *

Што ні год — памяншаюцца сілы,
Стыне кроў разам з думкай жывой...
Край мой родны! Дайду да магілы,
Не пабачыўшы волі тваёй!

Ды хацеў бы памерці я з верай,
Што ты правільным шляхам ідзеш,
Што твой сейбіт, кідаючы зерне,
Бачыць будучы сонечны дзень:

Каб парывісты вецер вясенні
Гук адзіны з радзімы данёс,
Пад якім не пачуеш кіпення
Ні крыві чалавечай, ні слёз.

## СВАБОДА

Маці-Радзіма, прасторам тваім
Яшчэ не ездзіў з настроем такім!

Бачу дзіця на руках у матулі,
Сэрца хвалюецца, думай атулена:

Добрай нарой пачынаецца лёс,
Бог літасцівы! не зведаеш слёз,

Станеш з дзяцінства і смелы, і вольны,
Зоймешся тым, да чаго будзеш здольны;

Хочаш — свой век дажывеш мужыком,
Зможаш — сягнеш да аблокаў арлом!

Многа ў фантазіі гэтай пралікаў:
Розум людскі — вынаходца вялікі,

Знаю: заместа прыгоннай пакуты
Людзі прыдумалі іншыя путы,

Так!.. ды лягчэй іх разблытаць народу.
Муза! вітай спадзяваннем свабоду!

**Дзмітрый Кавалёў**

## СНЫ

Дажджы.
Сякуць
і ў будні
і ў нядзелі.
Як мокраю жарствою
засыпаюць.

Мантажнікі сухое ўсё надзелі.
І падаюць.
І ўмомант засынаюць.
А дождж
па кузаве ўсё шпарыць, шпарыць.
Нібыта ў спёку,
у машыне парыць.
А хлопцы спяць салодка
і стамлёна.

Ім сніцца акіян,
наскрозь зялёны,
і ў сінім небе —
снежныя разводы
па воблаках сівых.
І ўсё — ў парыве.
Гарачыня.
Вінтоўкі.

І — бароды.
І там яны —
на востраве Свабоды,
сярод байцоў, запыленых,
    шчаслівых...

А грузавік,
дзе там ім светла спіцца,—
як вартавы нядрэмны
на прывале.
А рэчцы ўспененай,
нібы валу, сапецца,
паблісквающь,
як антрацытам,
хвалі.

І чаравікамі бетоннымі
    у ночы,
як волаты,
апоры аблавухія
размашыста хадой нястрымнай
    крочаць.
Чакаюць мазанкі, прысеўшы,
    як кувактухі.
Пад столі іх, закопчаныя сонцам,
святло,
што хлопцы выняньчылі,
хлыне.
А ім далей — праз рэкі і праз
    сосны,
у багну лезці
і таптацца ў гліне...
Мне крыўдна будзе,
як пад сонцам гэтым
хаця б хто-небудзь
думкаю не светлай
заняты будзе —
і яму прысніцца
не спадарожнік,
а ў руцэ сініца,
не подзвіг яркі
і не свет шырокі,
а дабрабыту ўласніцкага крохі
разлік свой дробны
і барыш на сене,
схаваным
да бяскорміцы вясенняй.

Над хатай, што нырнула ў сад
    вялізны,
над сцежкаю, што ў лес
    бяжыць нясмела,
запахла кронам,
вымытай бялізнай
і гаркатою бульбы нрыгарэлай.
І чутна — як маўчыць дымок,
што ўрос
у лісце вішань
і ў галоўкі маку.
І помняць вусны —

цёпла як і мякка
кранацца мілых залацістых
кос.
Прывольна ў полі вікам і
лубінам.

І па расе —
не церпіцца касе.
І хочацца быць
добрым
і любімым,
і проста
быць звычайным —
як усе.

## Якаў Хелемскі

* * *
Жаўцеюць выразкі газетныя —
На злобу дзён мінулых вершы.
Іх у архіў здаюць паэты,
У кнігах месца не даверыўшы.

Напэўна,. устарэлі многія
І ў многіх з іх майстэрства мала.
Але і гэта Анталогія
Пра столькі б людзям расказала!

Хай не ва ўсіх яны у памяці,
Ды лабавыя тыя вершы
Сустрэлі першымі папанінцаў
І Чкалава апелі першымі.

Яны — ад дыму боек чорныя,
Яны — ад радасці іскрацца.
Адны ў руінах Брэста створаны,
Другія — на плацінах Брацка.

То па-будзённаму суровыя,
То гучна ўзнёслыя, нядзельныя,
Яны ў радках неадшліфованых
Свой час захоўваюць надзейна.

Для іх не раз былі асноваю
Рашэнні з'ездаў, словы ТАССа.

І на палосах нерапоўненых
Ім не хапала месца часта.

Іх, скарачаючы паспешліва,
Псаваў не раз начны рэдактар...
Ды ў баявой кагорце вершы
Стаяць самкнутымі радамі.

Радкі газетныя, гарачыя!
Жыццю ў іх суджана застацца.
Не для гурмана ўсе прызначаны
Яны, як чорны хлеб мастацтва.

Яны, узнёслыя, суровыя,
(І аўтар часам не названы)
Вядуць здалёку радаслоўную —
Ад Вокан РОСТА і Дзям'яна.

Яны не ходзяць па абочынах,
За крэпасцю інтурмуюць крэпасць.
На іх крутых плячах рабочых
Стаяць і Лірыка і Эпас.

## Роберт Раждзественскі

### РАВЕСНІКАМ

*Артуру Макараву*

Мы, сябрук,
з нараджэння, напэўна,
такія...
Сто разлук
нам з табой
рыхтавалі пагібель.
Сто разоў
смерць глядзела пустымі вачамі.
І чакалі
лістоў
нашы маці ад нас месяцамі...

Мы раслі —
і вучыліся
лётаць і плаваць,
мы прыйшлі
ў гэты свет,
каб смяяцца і плакаць,
каб спяваць,
а паклічуць паходныя трубы,—
жартаваць,
цалаваць
прыгажунь непрыступных
Мы прыйшлі быць —

дзе цяжка
        і ўсё-такі трэба...
Ад зямлі
        гарады узнімаюцца ў неба.
Век
суровы.
Пад сонцам
        дымяцца абшары...
Дым кастроў
застанецца загарам на твары...
Праз вякі
поўнач сочыць халодным паглядам.
Цягнікі
адпраўляюцца ў рэйс па раскладу.
Добрых сноў
мы жадаем
        і хату бацькоўскую хвалім...
Ды і зноў
ад'язджаем,
        ляцім,
        адплываем!
Нікнуць ночы.
Свой сцяг
        зоры ўзносяць над полем...
Мы аднойчы —
я знаю —
з дарогі не вернемся болей.
І ніхто
не паспее
        пра нас песню скласці...
Ну і што?
Гэта ўсё-такі —
        чуеш ты? —
шчасце: сеяць жыта
на гонях,
        вятрамі прадутых...
Прагна жыць! —
гэта здорава хтосьці прыдумаў!

**Глеб Гарбоўскі**

## ХАТЫНЬ

Кастрычнік...
Хлюпата і стынь.
І з дзецьмі —
          наш аўтобус.
...Граніца сэрца ты —
Хатынь.
І толькі сэрца — пропуск.
Званы,
          як птушак грай якраз...
Не тлум,
          а — сум метала.
Экскурсавод крычыць:
— Вылазь!
(Яна Варшаву брала...)
...Мкнуць каміны,
узняцца каб
з падворкаў спапялёных...
Я — пераможца,
я — не раб,
стаю, ад слёз
салёны.
Не ацалелі —
гэткі лес —
ні сад, ні кот, ні людзі.
І толькі
чарада бяроз
хістаецца ў прастудзе.
Стары
на бронзавых руках
нясе
праз дождж
малога.
Стаяць ім гэтак
у вяках
ля котлішча былога.
...Жальбу разгойдваюць званы.
І плачуць чужаземцы.
Мінула шмат пасля вайны.
Асфальт паўз лес віецца:
ужо сюды
ў Хатынь
праз гнеў
прыйшла шаша
скрозь далі...
...А дыбам тут
галіны ў дрэў,
як валасы,
стаялі...

**Уладзімір Тарапыгін**

* * *

Паклон вам, ленінградскія дамы!
Застыўшы караблямі на прычале,
вы мне ключы ўручалі, выручалі
і грэлі сярод лета і зімы.

Паклон вам, ленінградскія дамы!
Я помню дом насупраць каланчы,
высокі, ля Абводнага капала,—
тады было гадоў мне гэтак мала,

а ён мяне так многаму вучыў!
Я помню дом насупраць каланчы...
А дом, дзе ты, каханая, жыла?
Няхай дамоў святлейшых сёння многа,

але няма мне болей дарагога —
Гагарынская, першы ад вугла!
Ах, дом, дзе ты, каханая, жыла!..
Ёсць і другія добрыя дамы:

у гэтым верш я напісаў калісьці,
люляў дачку маленькую ў калысцы,
а ў тым з сябрамі балявалі мы.
Ёсць і другія добрыя дамы!

Дом, дзе жыву, і ты прымі паклон!
Хаця цябе я пакідаю часта,
але і ты мне даў часцінку шчасця,
ты прытуляў і клопат мой і сон.
Дом, дзе жыву, і ты прымі паклон!

Паклон вам, ленінградскія дамы!
Застыўшы караблямі на прычале,
вы мне ключы ўручалі, выручалі
і грэлі сярод лета і зімы.
Паклон вам, ленінградскія дамы!

* * *

Толькі гмахаў каменныя цені,
ды сюды з першым ветрам вясны
даляцела з нябёс шапаценне
і трымценне пявучай струны.

Аж паверыць было незвычайиа,
што над ранішняю сінявой
незнаёмае гэта гучанне —
проста майскі прылёт журавоў.

Уяўляеце? Недзе над дахам
над халодным гранітам Нявы,
над каменнай маўклівасцю гмахаў —
журавы,
журавы,
журавы.

## З УКРАІНСКАЙ

### Сцяпан Алейнік

#### БЕЛАРУСІ

Я твой сябра ў любую пару.
Мне даўно да душы і спадобы
І заводы твае, Беларусь,
І бары, і твае хлебаробы,

І раздолле, і веліч вясны,
І між сёстрамі мілы твой голас,
І твае ўсе музыкі-сыны,
Што бацькі іх
Купала і Колас!

Твае Ганна, Мікола, Пятрусь
Сталь гартуюць, гадуюць пшаніцу...
Палюбіў я цябе, Беларусь,
Як нястомную працаўніцу!

Знае свет, у ліхія часы
Ты ўручала сынам аўтаматы,
І палкі ты вадзіла ў лясы
Для расплаты! Святое расплаты!

Ты граміла фашысцкіх звяруг,
Самалёты крышыла і танкі...
Палюбіў я цябе, Беларусь,

Як бясстрашную партызанку!

А цяпер на руінах былых
Расквітнела ты радасцю новай.
Я люблю шчырасць песень тваіх,
Тваіх вершаў чароўную мову.

Кожным словам тваім даражу,
Беражліва пашу яго ў сэрцы.
І «дзень добры» таму не скажу,
Хто ад мовы тваёй адрачэцца.

Я сурова тады пра яго,
Пэўна, грымну сатыраю злоснай.
А сягоння ад сэрца ўсяго
Я пяю гіра твой росквіт дзівосны.

Па-братэрску ізноў гавару
Пра любоў да азёрнага краю.
Палюбіў я цябе, Беларусь,
І свой шчыры прывет пасылаю!

## Іван Драч

### ДЗВЕ СЯСТРЫ

Дзве сястры ссівелых і худзенькіх
Восень па-над сажалкаю ловяць.
З птушніка ляціць вясёлы дзвенькат
І палошчацца ў вадзе ліловай.
Воспа зрабаціліла аблiччы,
Дабраты ж у сэрцы не раз'ела.
Сыпле лісце жоўтае кастрычнік,
Гойсае па ніве задубелай.
Гусі, што забіты будуць хутка,
Тлустыя, галгочуць па выгодзе.
І каліна пад чырвонай хусткай
Па спякотных днях крывёй сыходзіць.
Дзве сястры глядзяць на птушак рупна,
Семкі гарбузовыя лузаюць.
І дрыжаць натруджаныя рукі,
Чорныя, абмытыя слязамі.
Куры, гусі — цэлы век у пер'і.
Ёсць гарод маленькі каля хаты.
Чарнабрыўцы за парканам спеюць.
Ёсць каза і малака тры кварты.
А вятры дваццатага стагоддзя
Мае сэрца ўзносяць так высока.
І сядзяць старэнькія лагодна
У агні асеннім верасовым.
Не пытаюць: «быць або не быць» ім.
А паўз іх ляцяць у свет дарогі.

Стань!
Падумай!
Кольта доль забытых
Нават не ўсхапілася на ногі.
Непрыкметна чалавек ступае.
Непрыкметна сыдзе у магілу.
Стань! Віна бязвінная цяжкая
Над табою распасцерла крылы.

**АБСКАРДЖАННЕ ІВАНА ГОНТЫ**

*...Яны ўсе яго перш - наперш хутка прывіталі,*
*А праз сем дзён з яго скуру па пояс здзіралі*
*І галаву аблупілі, соллю пасалілі,*
*Потым яму як Чэснаму назад палажылі...*
*Гістарычная песня*

Свету складанасць, цяжкая, бяздонная,
Свету звычайнасць, глухая, будзённая,
Свету нялюдскасць, тупая, шалёная,
Свету лагоднасць з боскага лона!

Кліч Святаславаў кінуў табе я,
Выйшаў на «вы», покуль дзень ружавее,
Выйшаў на «вы», покуль полымя бою
Спее ў змаганні самога з сабою.

Стала няўтольнасць пакорлівым мулам,
Ды прарастае дзень новы ў мінулым,
І вырываецца з ножнаў карэння —
З лона няпамяці ў цішу гарэння.

Дзень мой балесны,
дзень чарнавокі,
Быццам — праўдзівы,
ад праўды — далёкі,
Бурны, грымучы, пяўмольны, салодкі,
Задоўгі — для мар,

а для спраў — закароткі.

Нам бы з табою не знацца з журбою,
Славу прынесці з жорсткага бою
І раскрышыць, нібы прывід праклятый,
Царовы гарматы і ляшскія краты.

Ды толькі пчолка села па шаблю,
І шаблю ўзнесці я ўжо не патраплю...

## Віктар Корж

* * *

Як белых яблынь ветразі астылыя
нап'юцца ўночы сонца і расы,—
тады на трапяткіх і цёплых крылах
сяло ўзлятае ў веснавую сінь.

З асверамі, збанамі на парканах,
з палямі, дзе бяссмерце прарасло,
з прызнаннямі і снамі закаханых
ляціць у свеце ціхае сяло.

А ў небе сустракаецца з суседам,
чаломкаецца ў моры сінявы —
і ўжо яны над анямелым светам
курлычуць, нібы ў маі журавы.

І мірны свет тады такі вясёлы —
ні боляў, ні праклёнаў, ні трывог,
на белых крылах пралятаюць сёлы
над пахкімі рачулкамі дарог.
І ў смутку вокны недзе на Цэйлоне,
садоў вішнёвых дух п'ючы нагбом,
глытаюць горкіх слёз камяк салёны:
— Над намі Украіна б'е крылом...
І акіяны мараць, як аб шчасці,
суцішыўшы стыхій гарэзны грай,
губамі хваль узрушана прыпасці
да крыл тваіх, мой ясназоры край.

**МАЖОР ЗЯЛЁНЫХ КАМЕРТОНАЎ**

Зямля маўчыць. Наўсцяж зіма лягла.
Трымцяць сурмліва прарастання гукі
зярнят дрымотных стоеныя мукі
перад рыўком са змроку да святла.

Сінее неба блізкаю вясной,
вышэе і яснее немінуча,
ды сонца сімфанічнае сугучча,
як сімвал, сніць яшчэ ў глыбі зямной.

А людзям светлачолым, як багам,
здаецца, што няма для мар кардонаў,
хоць не відно зялёных камертонаў,
іх контуры чарнеюць тут і там.

Яшчэ завеі свішчуць у галлі
і каркае стары крумкач нядрэмна...
Якія камертоны! Гэта дрэвы —
аздоба празаічнае зямлі.

Ды, звязаныя з новаю парой
балючаю аголенасцю нерваў,
яны,
сабраўшы полымя энергій,
жывым даюць для барацьбы настрой.

Калі гудзе ўваскрэслы шум Дняпра
і гоман разліваецца лавінай,
тады канец пары дэкаратыўнай,
тады іх камертонная пара!

Ідзе вясна ўладарна па жыцці,
і камертоны вызваляюць з ценю
усё, што прагне полымя цвіцення,
усё, што можа ў свеце расцвісці.

## Барыс Алейнік

### БЕЛАРУСІ

Тры бярозы. Па месцы чацвёртай — агонь.
 О, даруй!
Ты даруй маю памяць.
 Даравацъ гэтак многа змагла ты...
Будзе пісьмы пісаць закаханым
 радкамі зялёнымі рунь.
Ды ніколі не дойдуць яны
 да чацвёртага адрасата.
Я сівы стаў, як лось.
 Стаў я белы, як атамны цень.
Свае вочы я выліў дажджамі ў зямельку
сырую.
Ты, як маці,
 Хатынь,
 даравала б балючую памяць дзяцей.
Але хто — калі спалена ты — гэту памяць
даруе?
Ты даруй. Я не смею кранацца абвугленых
ран.
Ды калі адпалае мой вечар усплёскам
апошнім,—
О, дазволь, Беларусь,
 перайшоўшы жалобны курган,
Стаць зажураным яварам
 ля бяроз тваіх ціхіх на пожні.
...Хаця б воддаль.

### ЗАКЛІНАННЕ АГНЮ

#### Паэма

#### I

Заходзіць восень у паўзмрок бароў.
Крадзецца холад хітра і ласкава.
Спадае ліст, як зманлівая слава,
Падкрэсліўшы нязменлівасць ствалоў.

І ціша вырастае між атаў,
Сыходзяцца сады на пяразовы.
Задумаўшыся, вецер верасовы
На палец павуціну наматаў.

Ачах памалу кіпень жніўных спраў.
Зняў камбайнер запыленую робу.
Прыходзіць час агледзець хлебаробу,
Што ў полі страціў ён і што прыдбаў.

Эгей, і нас склікае ўжо сурмач
У родны дом з усіх прасёлкаў свету:
У строгім фраку даўняга санету
Прыйшла пара сур'ёзных справаздач.

Прыціх налёт гуллівага пяра,
Асыпаліся дробныя фатыгі.
Пачаць старонкі нашай Белай кнігі
Прыйшла пара.

Спакойна адыдзі да той вярсты,
Адкуль сябе ацэньваць можна збоку,
Прыдзірліва прыжмурваючы вока,
Каб ведаць: хто ёсць хто. І хто ёсць ты.

Эгей, мой браце... Вішні адцвілі.
Для нашых спраў другі адлік пачаўся.
І на чале цяжкія меткі часу
Глыбокімі баразнамі ляглі.

Вось-вось мароз бязлітасна дыхне.
Прыбавілася ліній на далоні.
І першы снег нячутна лёг на скроні —
Ён не растане болей па вясне.

(Ах, сівізна — гадоў пражытых след!
Але хіба заўсёды, як і трэба,
У ёй блішчыць дасведчанасці срэбра?
А што, як попел марных зім і лет?

Нялёгка над сабою ладзіць суд?
А як жа ты хацеў?
Прасцей, вядома,
Судзіць кагосьці, апрануўшы дома
Уласнай бездакорнасці сурдут.)

Улёгся пыл, што ззаду вецер нёс,
Калі імчаў я ў маладой пагоні.
Стаіць мой конь на ціхім перагоне
І стомлена дажоўвае авёс.

І шлях, які наканаваў мне лёс,
Увесь відзён, нібыта на далоні!..
Стаіць мой конь на ціхім перагоне
І стомлена дажоўвае авёс.

Сутоньваецца. Ціша — быццам шкло.
І ці ўва мне, ці ў струнах павуціння
Мелодыя ўздымаецца паціху
І мякка на плячо кладзе крыло:
Патапталі лета коні,
Прытапталі
лета
коні,
Праляцелі коні ля ракіт

Чыстым полем
па-над жытам...
Адлупала срэбрам літым
Ранішняя музыка капыт,

Заляцелі ў жнівень ветрам —
Толькі цёрн ашэрхнуў вецем,
Толькі ўскрыкнуў болем жоўты ліст.

Праляцелі
ў перагоне...
Гэй, куды ж вы, мае коні,
Ды куды ж вы, конейкі мае?

Пачакайце: то ж не вечар
І ў палёт не кліча крэчат,
Салаўям узлескаў не стае!

Пратрубілі коні ў просінь:
«Ой, даўно, казача, восень.
Паглядзі на кучары свае».

Ды растала ў абалоні...
Я крануў знячэўку скроні:
Пальцы апяклі мне скразнякі.

То калі ж, з якіх пакосаў
Так нячутна выйшла восень?!
Адказала восень: «Напрасткі,

Ярам-долам, каля жыта,
Цераз лета, з-за ракіты —
Да цябе, хлапчына, напрасткі».

Сэрца востра забалела.
Конь бялее заінела.
«Што ж ты, конь мой? Дзе ж мае сядло?!

Ды хутчэй на перагоны,
Покуль чутны перазвоны,
Покуль снегам след не замяло!

Праляцім каля палетка,
Прамінём з разгону лета —
Папрасткі ў вясновае сяло!»

Паглядзела восень крыва...
Конь схіліў тужліва грыву,
Скінуў нерашуча павады:

«Што ж ты пырхаеш, казача?
Ты забыўся, не іначай,
Што даўно не тыя ўжо гады.

Як ні кідайся, нябога,
Толькі ўсё адно дарога
Крута павярнула ў халады.

Азірніся пільна ў поле:
За спіною значна болей,
Чым у нас наперадзе дарог.

Бачыш, вунь гара над пожняй.
Можа, будзе нам апошняй.
Так што не забудзь перасцярог.

Зброю зноў правер старую
Ды прыладзь мне лепей збрую —
Будзе ўзяць нялёгка той парог!

Парашыў у шлях збірацца —
Яшчэ раз надумай, браце,
Над усім, што ў нас было калісь.

Бо пусты запал хлапечы
Нам сягоння недарэчы,
Ды і час бяжыць, як хітры ліс.

Думай стала і спакойна,
Як узяць гару дастойна,
Каб ганебна не скаціцца ўніз».

**II**

...І сапраўды, пара не тая, брат.
Спынілася пяро, што па-над болем
Ляцела часам перакаціполем,
Не надта азіралася назад.

А варта б азірнуцца зноў і зноў,
Каб над іржышчам зашумела жыта
І каб паўстала ўсё, што пражыта,
Вытокамі — крыніцай, баразной.

Дык як я жыў?
Здаецца, не маліў.
За спінамі не краўся ў ваўкадавы
І з-за падачкі мімалётнай славы
Таварышаў ні разу не змяніў.

Па праву я пароўну з імі піў
Вясельны мёд і памінання чашу.
І разам спавядаць вучыўся «наша»
Законы неразмежаваных ніў.

Мы ў холадзе і голадзе раслі —
Браты мае, вайны Айчыннай дзеці.
Ні перад кім у цэлым белым свеце
Вачэй мы не апусцім да зямлі.

Бо верым цвёрда ў правіла сваё,
На ўсё жыццё душой яго прыняўшы:
Як радуецца свет, мы кажам: «Наша»,
Баліць яму — бяром сабе: «Маё».

Вось так і жыў.
Не ад'ядаў мурло.
І тым магу з сябрамі пахваліцца,
Што не пайшлі мы на рублі маліцца:
Не густа ў нашых матак іх было.

Матуля, дзякуй, што ў галодны час
Ты не ў палацы, а ў вясковай хаце
Перадала мне рэдкае багацце —
Народных песень залаты запас.

Яшчэ навуку: не затойваць зла,
Калі ў суседа, хоць які ўжо кляты,
Не дай ты, божа,— загарыцца хата,—
Каб мая хата з краю не была.

Так і жыву.
Не рвуся ўдаль наспех.
Плыву чаўном па хуткаплыннай рэчцы.
Высокіх слоў не трачу недарэчы,

Бо пакрывіць душой — вялікі грэх.

Здаецца, добра ўсё.
          Чаму ж, аднак,
Трывога глуха дыхае мне ў спіну,
Як быццам я за нейкую правіну
Павінен песці непазбыўны знак?

І, як мароз півоні на градзе,—
Душу маю ёй днём і ноччу паліць
І моўчкі кліча да бар'ера памяць
Абвінаваўчым сведкам на судзе.

І ў сорак першы, горкі ад нягод,
У полымя, у дым і папялішчы
Па здратаваным танкамі іржышчы
Мяне вяртае ўсё мой сёмы год.

### III

...З матуляй мы вяртаемся ў сяло.
Не вырваліся з чэпкіх лап тэўтона:
Паўтаратоыка з бежанскай калоны
Асела на падбітае крыло.

Ад Чутавога да Санжар маіх
Пад сотню вёрст. Хаду сцішае стома.
Даўно ўжо ўсіх нас пахавалі дома,
А мы ідзём ад смерці да жывых.

З тых пор мінула трыццаць сем гадоў.
У памяці ці мала пахавана.
Але адно відовішча, як рана,
Як кара, апякае зноў і зноў.

...Калі сплываў з начным туманам цень,
Якоясьці сяло прайшлі мы краем.
Было бязлюдна. Толькі шэрай зграяй
Чужы патруль хадзіў...
          Займаўся дзень.

Мы непрыкметна прыбаўлялі крок.
Наўсцяж дарогі ўсё шырэлі далі.
І нейкія пагоркі прараcталі
Наперадзе праз ранішні паўзмрок.

Яны бліжэй. І вось —
          кій выпаў з рук,
Свет пахіснуўся, горла сцяла жахам:
Скрозь конніца пабітая ляжала,
І чысціў дзюбу асмялелы крук.

Відаць па ўсім —
          быў неспадзеўны бой:
Хтось шаблю агаліў напалавіну,
Хтось не дастаў рукой да карабіна...
У коней у вачах не выстыў боль.

А ўсё жыло!
          У сілу браўся дзень.
Сляпіла неба чыстаю красою.

І толькі жах світальнаю расою
Па стрыжаных галовах халадзеў...

Мне тое поле не перарастуліць.
Чужы патруль па ім ступае тупа.
Заледзянела цягнуць рукі трупы,
І коні безгалоса просяць піць.

Мне тое поле, як віна, баліць.
О, свет, якія ў тым мае правіны?
Мне сем было... Што я рабіць павінны?
...А свет маўчыць. І коні просяць піць.

Не спішаш анічога на гады
Ні на зямлі, ні ў паднябеснай высі,
Бо з той хвіліны, як на свет радзіўся,
Ты ў ім за ўсё адказваеш заўжды.

За ўсё на свеце!
            ...Сумны дзень зімы.
О, як цынічна, несвоечасова
Смяюцца кветкі на вянках яловых!
Прыгаслы шэпт схаваўся між людзьмі.

— Прасіла, бач (казаў мне дзед Махцей),
Каб кветкі... Перад смерцю папрасіла.
Чакала сына... Што? Няма ўсё сына?
— Ды сціхні, баба: гора ж у людзей...

А я стаю... То я стаю ці не?
Рыдлёўкі... Снег... Бяздонне чорнай ямы.
І свеціцца, як сон, аблічча мамы
З-пад жоўтае хусцінкі... у труне.

Гасцінцы прыбірала са стала
Яна звычайна спехам: — Што ты,
            сынку?! —
А гэту паркалёвую хусцінку
З ахвотаю адразу прыняла.

Яна яе на людзі берагла.
І вочы загараліся дзяцінствам,
Калі яна разгладжвала хусцінку
І радасна туліла да чала.

Як май над хатай пачынаў шумець.
Люстэрка грэла ўсмешка дарагая.
— Бач, дагадзіў. На людзі зберагаю
І — ты, сынок, не бойся ўжо — на смерць.

А я смяяўся:
            — Хай... гадоў праз сто!
Хіба я знаў, што ад мяне зацята
Яна даўно хавала боль пракляты?!
Хіба я знаў пра боль пакутны той?!

А калі б знаў, дык што б тады ўчыніў
Супроць сляпой бязлітаснай хваробы,
Што генія грызе і хлебароба,
Не гледзячы на званні і чыны?

Я склікаў бы ўсе кветкі да сяла!
Але табе не трэба ўжо букеты.
І хто даруе мне на свеце гэтым,
Што ты на той дачасна адышла?!

Як хочацца, каб горкая віна
Была чужой.
Ды не адбыцца дзіву,
Бо з той хвіліны, як на свет радзіўся,
Я ў ім за ўсё адказваю спаўна!

За ўсё на свеце!..
За ваду і хлеб.
І за палёт Гагарына трагічны.
І за тры зоркі ў вышыні касмічнай,
Што ўпалі мёртва раніцою ў стэп.

Як ныюць косці на дажджы і град...
А можа, справа не ў дажджы і хмары,
А можа, то крычалі пальцы Хары,
Калі абцасам іх раструшчыў кат?

Ці думаў ты пра тое, як нізаў
Каралі сваіх вершыкаў ружовых,
Што пальцы, калі топчуць іх падковы,
Трашчаць, як голле?
Кажаш, што не знаў,
Бо то далёка. Бачыш, як!
...А друг —
Бліжэй, чым ён, ці будзе хто калі шчэ:
Раслі ж вы на агульным папялішчы
У холадзе пасляваенных скрух.

Хадзілі ў школу ў дзядзькавых «хэбэ»,
Абутыя ў нямецкія бахілы.
І ў свеце ўсё было наіўна-мільм,
І неба так маніла да сябе!

Сакрэты нашы ведала сяло:
І ўдачы хлапчукоўскія, і вершы,
І юны шэпт, і пацалунак першы —
Так проста, так сумленна ўсё было!

Які ў яго быў надзвычайны старт!
Ён чараваў нас на студэнцкай сцэне.
І мы шапталі ў шчырым захапленні:
«Ён — талент. Ён высокай долі варт».

Ён з намі быў і ў шчасці, і ў бядзе.
Дык скажаце: чаму ж не заўважалі,
Што прарастае ў ім душа чужая
Упарта, як макрыца па градзе?

Чаго там!
Да вясковых родных шат
Я без яго прывык ужо вяртацца
І па нямое запытанне маці
Хаваў пагляд: «Спраў, ведаеце... шмат».

Усё радзей ён з намі хлеб дзяліў.
Усё часцей нас абмінаў прывычна.
Ды як мяняў ён гордае аблічча,
Калі перад вышэйшымі юліў!

Ужо ён мог за фіміяму дым
Паладзіць нават з сілаю нячыстай,
І пас забыць, і лёгка адрачыся
Ад усяго, што зваў калісь святым.

А мы маўчалі? Не, мой дружа Дзе ж —
Мы так яго крытыкавалі люта
У калідоры... У глухіх закутках.
А потым абдымаліся: «Расцеш!»

І ўжо калі адчуў я: да бяды
Яму дарога праміком адкрыта,
Я і тады маўчаў ...таленавіта.
Як геніяльна я маўчаў тады!

Бо чысты сам, хоць прымярайце німб.
О, не ўратуюць дабрадзейства рысы,
Бо з той хвіліны, як на свет радзіўся,
Ты ўжо за ўсё адказваеш у ім.

І як лічыць, хто вінаваты больш:
Ці той, хто штось зрабіў несправядліва,
Ці той, хто бачыў гэта і маўкліва
Перацярпеў свайго сумлення боль?

...Здаецца, жыў па-людску.
Ды ці б змог
Засведчыць перад вечнасцю святою,
Што я ані няпраўды за сабою
Не адчуваю, пыл аббіўшы з ног?

Ці змог бы без ваганняў я прыйсці
Стаць перад Ім у цішы Маўзалея
І прысягнуць
пад сонцам ці залевай —
Сабе не здраджваў ён нідзе ў жыцці?

Ці змог бы?..
О, чаму, конь верны мой,
Раскатурхаў ты мой спакой прывычны,
Каб сто пытанняў жорстка і лагічна
Паўсталі, нібы сфінксы, нада мной?

А так было выгодна ўсё ў жыцці:
Абачліва. Няспешна. У калону.
Нідзе не запярэчыў я закону.
Нікому і вады не замуціў.

Ну, праўда, натыкаўся на асоб,
Якія прынцып спавядалі ўпотай:
«Калі мне трэба, дык давайце!
Потым...
Грамадству дайце.
І не руш мой сноп!»

Ды, божа мой, за свой кароткі век
Хіба звядзеш усю брыду пад корань?
Ну вось сусед.
            Быў подла абгаворан,
Хоць я казаў: сумленны чалавек.

Але праз год яго сустрэў я нейк.
Вярнуўся, бо не можа ж свет без праўды.
Я кінуўся яму насустрач, рады,
А ён... ударыў болем з-пад павек.

Як быццам вінаваты я.
            А ў чым?!
Не краў, не верыў чуткам закардонным.
Ва ўласным доме даражу законам.
І там, дзе трэба памаўчаць, маўчым.

Усім не дагадзіць...
            Ды, як асцё,
Так колецца суседаў боль пры гэтым...
Калі ўжо нарадзіўся ты паэтам,—
За ўсё адказвай, што нясе жыццё.

Не толькі за параграф.
            Час змяніў
Характар безразважлівы ягоны.
Ёсць людства ўсемагутныя законы —
«Законы неразмежаваных ніў»!

Законы тыя ўжо ўвайшлі мне ў кроў.
Яны глядзяць уважліва і строга.
І тым стражэй, чым карацей дарога.
Яны, мой конь, нам судзяць кожны крок.

...Адвечарэла. Ціша — быццам шкло.
І ці ўва мне, ці ў таямніцах ночы
Трывога нарастае, і ракоча,
І важна на плячо кладзе крыло:

«Азірніся пільна ў поле:
За спіною значна болей,
Чым у нас наперадзе, дарог.

Бачыш, вунь гара над пожняй.
Можа, будзе нам апошняй.
Так што не забудзь перасцярог.

Бо пусты запал хлапечы
Нам сягоння недарэчы.
Ды і час бяжыць, як хітры ліс.

Думай стала і спакойна,
Як узяць гару дастойна,
Каб ганебна не скаціцца ўніз».

**IV**

Дык хай замкнецца вечны круг, хаця
Нашэптвае парады засцярога.
А раптам за спіной маёй дарога —
Яшчэ прадмова толькі да жыцця?

Няхай мяжа апошняя — дарма!
Як і тады, калі ідзеш пад кулі,
Ідзі наперад чыстым — ад кашулі
Да думак, дзе ўжо марнасці няма.

Ачысціся да сутнасці.
Агонь —
Вось сутнасць і ядро светабудовы.
З яго катла гарачага аснову
Узяў сабе найпершы эмбрыён,

Што праз мільярды год, вякоў і эр,
Праз непаспешных эвалюцый фазы
Прадзёрся з прымітыву пратаплазмы
Да венцаносных шэрых дзвюх паўсфер.

...Ноч апранула марыва. Яна
Гукнула ў стэп мяне, дзе тайна дрэмле.
І прарасло ўва мне сусвету дрэва,
Старэйшае, чым бог і сатана.

Стаў я, высокі — чало маё хмары закрылі,
Нізка зямлі пакланіўся, як прадзед калісь,
Чорны трыножнік паставіў на даўняй магіле
І заклінанне пачаў, рукі ўскінуўшы ўвысь:

— Птушкам прарочым, карэнню, лістам
і разорам,
Землям і водам, і прадвызначэнням далонь,
Лічбам магічнага сэнсу і знакам сузор'яў —
Слухаць загадваю: я заклінаю агонь.

З магмы пякельнай і з тайны купалкі
закрытай,
З кручаў Тыбета, дзе скал недаступная
стынь,
З Мёртвага мора,
са скруткаў нятленных санскрыту,
З жоўтых туманаў нямых Аравійскіх
пустынь;

З нетраў лясных, дзе паганскія цені навіслі,
І з перуанскіх нагор'яў, дзе інкаў жытло,
Я заклінаю, наш Ойча, Агонь мой:
«З'явіся!»
І асвятлі ўсё, што будзе, і ўсё, што было.
Стань прада мной —
валадар грозных бур і самумаў,
Каб твой прамень асляпляльны
сусвет пранізаў.
Хай страпянуцца павекі ў егіпецкіх мумій
І стануць бачыць святыя на ўсіх абразах!

Пільна агледзь ачышчальным суровым
паглядам
Памяць і сэрца маёй шматпакутнай зямлі
І, асяніўшы мяне сваім знакам уладным,
Дробнае ўсё адмяці і брыду спапялі!

Хай я тваім незахмараным вокам прарока
Аж у вытоках крыпічных угледжу ваду
І да фатальнага подыху, крыку і крону
Чыстым на грэбень апошняй вяршыні
ўзыду!

...Цяжка хіснуліся рантам касмічныя высі,
Дзвынкнуў трыножнік,
 як быццам крануў яго смерч.
Тройчы яшчэ раз гукнуў я рашуча: «З'явіся!
Я выклікаю.
 Калі нават гэта на смерць».

І пракаціліся грознага грому раскаты.
Вырваўся слуп, што за сонца зырчэй утрая.
З цемры спрадвечнай,
 глыбейшай, чым царства Урарту,
Голас, нячуты дасюль, скалануў мяне:
 — Я!

Вырас агонь, як калона ў цяжкой пазалоце.
Голас праз камень прайшоў
 ад карэння да крон:
— Сын мой, нашчадак,
 з маёй ты народжаны плоці.
Клікаў мяне?
 Дык глядзі: прад табою — Агонь!
Бліжай ступі.
 Я не быў ні глухім, ні разбойным.
Страх твой сляпы —
 з неразбуджанай цемры прыйшоў.
Знакі, закляцці, трыногі накінь забабонам:
Іх напрыдумвалі людзі з нядобрай душой.

(Як яны рукі набожна ўзнімалі да неба,
Каб... не пабачылі іхніх нячыстых далонь.
Мною кляліся, прадаўшы даўно за патрэбу
Ласага шлунку
аддадзены сэрцу агонь.)
Марна варушыш папірусы царстваў
далёкіх,
Знак задыяка шукаеш дарэмна ў журбе,—
Быў я і ёсць я ва ўсім, што існуе навокал,
Быў я, і буду, і ёсць
 пры табе і ў табе.

Я ўвесь — навокал. У травах, і дровах, і
роках.
Прага ж высокага — сэнс мой і мота мая.
Я
 хоць зярняткам яе
 надзяліў чалавека.
І ні крупінкі не маюць ні крот, ні змяя.

Людзям пароўну я даў гэтай прагі уласнай
—
Вольна крыляць у трывожнай густой сіняве.
Покуль у сэрцы зярнятка агню не пагасне,
Духам высокім датуль чалавек і жыве.

Кожны з зярняткам
у свет гэты жорсткі прыходзіць.
Дзеці мае ўсіх гаворак, народаў і рас,
Я вас і ў радасны час, і пры сумнай нагодзе
Па непагаслых вачах пазнаю кожны раз.

Кмет і філосаф, пастух і салдат — вы
шторанку
Працу сваю прысвячаеце новаму дню.
Розныя тварамі, розныя ў спісах па рангу —
Роўныя прагай зачэрпнуць крылом
вышыню.

Кожны з зярняткам маім расставацца не
хоча.
Кожны яго беражэ, хто для іншага нёс.
Нават як зоркі згасаюць рабінавай ноччу,
Полымя душ асвятляе прасторы нябёс.

Людзі — як зоркі: жывуць,
покуль свецяць для іншых.
Роўныя ў самым пачатку,
нікога не засцяць ані.
Ды паміж роўных, над светам узняўшыся
вышай,
Ззяюць нам светачы першае велічыні.

Іх небагата, хто з формул майго першароду
Першы адкрыў трыадзіны галоўны закон —
Ісціну ў Ісціне:
«Роўнасць. Братэрства. Свабода» —
З гэтых пачатКаў імя маё выйшла:
«Агонь».

Тайну спазнаўшы майго трыадзінага коду,
З душ яны вытраслі дробязных клопатаў
хлуд
І прыпялі мой агонь у сябе назаўсёды —
Цемры адвечнай няўмольны і грозны
прысуд.

Выпала доля ім гордай, цяжкою і шчаснай:
Самазгараючы, свету свяціць.
І калі
Цела адыдзе — душа ні на міг не пагасне,
Бо яны з полымя ў полымя зноўку пайшлі.

Як бы імгла ні закрывала дзён,
Якім бы штормам ні хістала рэі,—
Ды на Чырвонай плошчы
ў Маўзалеі
Агонь высокі адусюль відзён.

Успыхнуў ад мяне ён — і гарыць,
Мой сын вялікі, поўны юнай сілы,
Узняўшы на сцягах чырванакрылых
Мой найважнейшы сэнс — святло дарыць.

Таварышы, паплечнікі яго —
Маёй неспапялёнай веры дзеці —

Нялёгкі лес сабе ўзялі: па свеце
Праносіць волі і дабра агонь.

Яны стрываюць дзеля мэты ўсё,
Праз церніі прарвуцца ўрэшце ў неба.
У гэтым іхні сэнс і іх патрэба,
Гармоніі вяршынны хлеб і соль!

Яны — што зоркі.
            Ды зірні як след:
Між імі па будзённым небасхіле
Прагаліны чарнеюць, як магілы.
То цемры знак — мой люты антысвет.

Там будзе той заўсёды ўладу мець,
Хто ў хітрасці падступнай больш увішны.
Там спіць на троне богам усявышнім
Шматок металу жоўтага, як смерць.

Заўжды для іх быў родным братам змрок,
А я для іх быў ворагам адвечным,
Бо мне відна іх сытых душ пустэча
І смерці іх фатальнае таўро.

Яны заўсёды помсцілі дабру
У страшнай пераемнасці звярынай
Ад лап Лаёлы да агентаў ДзІНА,
Ад спецкаманд «СС» да ЦРУ.

Для чорных спраў даўно абраўшы цэль,
Яны напэўна знал́і, што ім трэба:
Абы навек забіць агонь і неба —
Таму і бралі сэрцы на прыцэл!

Клеўрэты цемры,
            подлае кайло
Яны нямарна рыхтавалі рупна:
Раўнялі так з зямлёю ямы трупаў,
Каб нават следу мёртвых не было.

Ды ў міг, калі парушыць цішыню,
Здавалася, мог толькі цемры поступ,
Я ў галавах загінуўшых выроствнаў
Мячом двухвострым Вечнага агню.

З пагорка палыновага зірні:
Пры брацкіх
            і магілах адзінокіх
На ўсіх вятрах, нізінных і высокіх,
Паўсюль гараць, як маякі,—
            агні.

У іх свае суровыя пасты.
Яны на іх — як каравул нязменны.
І ў іх святле відаць, як пад рэнтгенам:
І хто ёсць хто. І нават — хто ёсць ты...

## V

Я ўвесь — ва ўсім.
          І калі ўрэшце сам
Адчуеш ты вышэйшую патрэбу
Служыць майму разбуджанаму небу,
На гербе ты павінен напісаць:

«За ўсё ў адказе — гэткі запавет:
За новы дзень,
          у завязі спавіты,
За дуб, знячэўку ў жолудзе забіты,
За ўсё на свеце.
          І — за цэлы свет!»

І прысягні па родным спарышы —
Ад прынцыпаў сваіх не адцурацца:
За скарбы залатыя і палацы
Не прамяняць святы агонь душы!

(Зірні:
          вакол таўкуцца табуны
Вогнепрадаўцаў.
Цягнуць грошы прагна.
Засмоктвае іх дабрабыту багна.
А ім здаецца, што... жывуць яны.

Ды ў іхніх сэрцах не гарыць святло.
І я даўно іх пахаваў за здраду,
Бо прагу неба прадалі і рады,
Што напіхалі золата ў жытло);

...і прысягні: на лоўкую хлусню
Заморскіх зазывал не паддавацца,
Не прамяняць з бацькоўскага багацця
Ані зярнятка роднага агню.

(Зірні:
          яны з працягнутай рукой
Паклоны нізка б'юць чужому блюду,
Прадаўшы дым Айчыны
          за валюту
З тугіх заакіянскіх кашалькоў.

Цяпер яны б спалілі ўсе лясы,
Каб абагрэцца неяк плоццю ўбогай.
Ды вечна будуць ля чужых парогаў
Калець, як з хаты выгнаныя псы);

...і прысягні:
          не астудзіць нідзе
Агонь ласкавы матчынага слова,
Бо ў ім адкрыў ты ўсіх асноў асновы
І кветкай сам адкрыўся для людзей.

(Зірні:
          яны ў чужыне ўсё адно
На новы лад не збудавалі хаты,
І хоць варушаць вуснамі заўзята,
Ды свет маўчыць: матулям не чутно);

...і прысягні:
за ўгодніцтва званы,
Якой бы ні прыкрыліся абновай,—
Не прамянянь жывую праўду слова
І сталь пяра — за золата маны.

(Зірні:
сваё бяздарнае сціло
Яны зрабілі флюгерам рухавым
І блыталіся паміж левым — правым,
Пакуль дабром прыкідвалася зло);

...і прысягні:
за залатыя сны,
За хлеб уцех, салодкі і нячэрствы,
Не прамяняць святы агонь братэрства.
Яму няма і не было цаны!

...і прысягні:
калі драпежны змрок —
З часоў адвечных вораг мой закляты —
Цябе прыцісне руляй аўтамата
І суха шчоўкне ўзведзены курок,

І прапануе цемры грозны смерч
Табе для ўцёкаў ціхія пакоі,
Кляніся, што ты з годнасцю людскою
Рашуча скажаш:
«Выбіраю смерць».

І зорцы пяцікутнай прысягні:
Рубінавай, што над Масквою ўзнята,
Фанернай — над магілаю салдата,—
Калі трывогай запульсуюць дні

І ўжо не на вучэбны палігон,—
Радзіма павядзе на бой зацяты,—
Ты чэсна назавеш каардынаты,
Каб на цябе абрынуўся агонь!

...Калі адчуеш, што ў тваёй душы
Мая навука круг свой завяршыла,
Тады ідзі: апошняя вяршыня
Табе паўстане першаю з вяршынь,

З якой агледзіш вышыню як след
І пры святле, што ззяе ў Маўзалеі,
Адкрыеш сэнс уласнай адысеі:
Навошта ты прыйшоў у гэты свет!

Ды добра ўзваж: не рвіся на бяду.
Калі ж прыняты ўсе мае законы,
Пакліч ударам вечавога звону —
І я — прыйду!

**VI**

Вы, чыё імя мы ў вечнай гісторыі пішам!
Любая маці з пялёсткамі родных далонь!

Род мой адвечны, што хлеб называе
ўсявышнім!
Сілы ўмацуйце мне:
        я выклікаю Агонь!

## З ЛІТОЎСКАЙ

## Альфонсас Малдоніс

### ЗЯЛЁНЫ ЧАС

Мора пералівы
Калыхалі хвалі.
Дзевяць рэк імклівых
У яго ўпадалі.

Адлівалі воскам
Яблыкі ля хатаў.
І хапала ў вёсках
Хлопцаў зухаватых.

Быў зялёны час той,
Як лісты на клёнах,
Над калыскай часта
Чуўся спеў натхнёны.

І пад морам вечным
Ветразі палалі,
І аж дзевяць рэчак
У яго ўпадалі.

Там усім надзіва
Ззялі сонцам далі.
Там жыты радзімы
Нашай кроўю сталі.

## ПРОСТЫЯ СЛОВЫ

Крычаць і згінацца нас панавучалі.
Прывыклі глядзець мы пустымі вачамі
На цемру і сонца, на гора і радасць,
На пыху дабра і няпраўды парадкасць.

Прывыклі, што страцілі столькі навекі.
І так нам баліць, што, здаецца, не чуем.
І жаху на нас не наводзяць калекі,
І памяць сівая ў душы не начуе.

Вось так і знікаем, марнеем, згасаем,
Адзін аднаго перамогшы, дагнаўшы,
І прагнасці нашай здзіўляемся самі,
І ўражваем свет рэдкай сціпласцю нашай...

## ДАЎНЯЯ МУЗЫКА

Гэтак было ўжо на нашай зямлі:
Слова ізноў з пачуццём не супала...
Рукі ускінуты. Сціхнула зала.
Гукі ў душу тваю ціха ўвайшлі.

Нібыта кветак асенніх святло —
Даўняя музыка, муза старая.
Смешны, наіўны ўспамін дагарае
Пра парыванні, якіх не было.

Вецер асмужаны плёс разгайдаў
І разагнаў аблачынкі нарэшце.
Сённяшні погляд, і чысты, і грэшны,
Лёгка намёкі твае разгадаў.

Даўняя музыка. Прысаку слой.
Толькі адкінеш зазімак свой ранні —
І перахопіць нясцерпна дыханне
Ад незабытых, нясказаных слоў.

Што калі так павялося здаўна:
Не супадаюць з пачуццямі словы...
Рукі ускінуты. Змоўклі размовы.
Зноў загучала старая струна...

## Юстынас Марцынкявічус

### ДЗВЕ ЖАНЧЫНЫ

Мне дзве жанчыны праўду гаварылі,
калі шапталі «мілы» і «адзіны».

Сварыліся ласкава дзве жанчыны.
І моўчкі папікалі дзве жанчыны.

Грахі мне дзве жанчыны даравалі.
Лічылі мяне богам дзве жанчыны.

Была маёй матуляю адна,
матуляю маіх дзяцей — другая.

### ЗЯМЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Хто з малых уседзіць або
ўлежыць —
бегаюць адзін перад адным.
Калі гэты свет каму належыць,
дык перш-наперш ён належыць
ім.
Мы, хто іх чакае год за годам,
лічым дні, разгадваючы сны.
Мы сталеем толькі з іх
прыходам,
а без іх мы дзеці, як яны.

## Антанас Дрылінга

### У ТУЮ НОЧ

Яны чакалі немаўлёнка.
Зняможаная ад пакут,
Кусала моўчкі вусны жонка,
А муж трымаў яе руку.

Ды раптам бразнулі затворы
І чорны цень на шыбы лёг.
І з аўтаматамі чацвёра
Штурхнулі мужа за парог.

Над цёмным лесам
Вецер шастаў,
Сучкі стралялі
Пад нагой...
— Імкнуўся першым
У калгас ты
І першы здохнеш за яго!

Агеньчык бліскаў
Дзесь на волі,
Каціўся квола
У палі
І нечакана згас —
І болей
Ніхто яго не запаліў.
Няўжо навек патухлі вочы

Твае, мой тата, ноччу той?

...Пад раніцу
Заплакаў хлопчык,
Што стаў на месца бацькі ў строй.

**РАЗМОВА З ГАГАРЫНЫМ**

Слаўлю твой казачны ўзлёт з Байканура,
Юра!

Радасці не аціхае віхура.

Ведаю —
Шмат будзе подзвігаў зорных,
Ды шчасце не выпускаю з грудзей
Не таму, што ты — нейкі цуд непаўторны,
А таму, што ты — першы з людзей.

І я цягну рукі да Байканура,
Да цябе, што забраў усе ўсмешкі навек.
Гэта не ты ўсміхаешся, а наш хмуры,
Наш касмічны дваццаты век.

Захапленнем і гонарам нечуваным
Нехаваная ўсмешка яснее ў вачах.
Нетаропка ў палёце ракет нечаканым
Мы намацваем заўтрашні шлях.

Чалавек сабе час падначаліць імкнецца.
Ну а што гэта значыць —
Бяссмерце?
Бяссмерце — нязгаснае полымя сцяга.
Бяссмерце — святога змагання адвага.
І першая траса.
І ўзлёту няўтольная прага.

Відно мне, як мужнасць і ісціна смела
Сягаюць да зораў.
І стала мне толькі цяпер зразумела,
Навошта прастора.

Мы нашым надзеям далі развінуцца,
І ява мяжуе са снамі.
Патрэбна прастора — для Рэвалюцыі.
Для чалавека — таксама.

І гэта не ты ўсміхаешся светла:
Гэта ўсміхаецца век наш сталы,
Які ў халодных прасторах Сусвету
Нам хату паставіў.

Не ведаю, дзе апошняя станцыя,
Узлятаю раніцай сіняю —
Вядзе да вышынь сапраўднай сталасці
Адна-адзіная лінія.

І няма для мяне той граніцы,
якая
Хавае таемнасць сляпую.
Я маўклівы сусвет плячом рассякаю,
Па часе і па прасторы вяслую.

І калі-небудзь з агністай імклівай ракеты
Сыдзем мы ля Бяссмерця на ўзмежку...
А ты раздавай здзіўлёнаму свету
Сваю рэвалюцыйную ўсмешку.

**РАССТАННЕ**

О, навошта адкрыла ты вочы ўначы,
Калі раптам спыніўся час
І цяпло валасоў тваіх абмывала мой твар.
О, навошта адкрыла ты вочы,
Калі
І толькі адзін я
Тваю бяссонніцу чуў.
О, навошта адкрыла ты вочы,
Калі тваё наструненае цела трымцела ў маіх
руках
І зблізку я чуў далёкія ўдары твайго сэрца.
О, навошта адкрыла ты вочы,
У срэбных люстэрках якіх
Я раптам убачыў, як падае мая зорка...

**3. «ЖАЛОБНАЯ КАСМІЧНАЙ АРАТОРЫІ»**

На вачах усяго чалавецтва
На зямлю чалавек нечакана вярнуўся
Вогненнаю стралой.
Быў звычайны палёт,
А вяртанне было незвычайным:
Вогненная страла працяла чэрава сваё —
зямлю.

Плачаце.
Хіба паэты каля абеліскаў славы
не пішуць больш вершаў?

Плачаце.
Хіба дваццаць мільёнаў
не стаяць разам з намі плячо да пляча?
Плачаце.

Няўжо
Гэты
Чалавек
Абяскрылеў раптоўна?
Плачаце.
Хіба вяртанне адтуль, дзе няма ўжо багоў,
Не наблізіла нас да разгадкі загадак?
Мне відно, як світае поўнач,
Нечакана прабітая вогненнаю стралой,
І за далягдядам адкрываецца далягляд
З той жа
Прагай пазнання,
І я пагарджаю смерцю,
Прызнаючы яе сілу і права.

Пасярод
Плошчы,
Якая Чырвонай завецца,
Пасярод
Жалобнага натоўпу
Стаіць
Урна —
Кропка, у якой сышліся час і прастора,
Урна —
Неабходнасць увайсці ў чырвоную цэглу —
у чырвоную атмасферу Юпітэра.

## З МАЛДАЎСКАЙ

**Грыгорэ Віеру**

### ВЕРШЫ ПРА МАЦІ

* * *

Калі я нарадзіўся, быў мой лоб,
Нібы каронай царскаю, атулены
Рукою роднаю матулінай,
Рукою роднаю матулінай.

Маёй каханай цёплая далонь
І матчына рука ў шчаслівы міг
Спаткаліся у валасах маіх,
Спаткаліся у валасах маіх.

Стаў бацькам я. Ды кожнай раніцой,
Ледзь сонца ўзыдзе поўняй перакуленай,
Я чую на ілбе руку матуліну,
Я чую на ілбе руку матуліну.

О гэтая рука, яе рука,
Як ластаўка па правадах густых,
Састарылася ў валасах маіх,
Састарылася ў валасах маіх.

### КАЛЫХАНКА — МАЦІ

Спі, матуля, без прынукі.
У калысках спяць унукі,
Спяць памытыя кашулі,
Міскі чыстыя паснулі,
Змоўк званок-двыркун нязменны
У маім гняздзе каменным.
Ціха спіць твой сад забыты,
Спіць вясковы дом забіты.
Спі! Сама сабе прысніся
Маладою, як калісьці,
Дзеўчанём з пяском на вейках,
З чарапком талеркі нейкай,
Той маленькаю і жвавай,
Што сама не помніш нават...
Спі, засні. Я даспяваю...
Матухна мая сівая.

### КАЛІ Я З ЁЮ

Калі я з ёю,
сон матулі ў полі ціхамірны.
І ў парэпаныя яе далоні
жаваранак
можа пакласці яечка.

Ай-ай,
цень жаваранка ў поўдзень ляжа,

далонь матуліну перавяжа!

Калі я з ёю,
матуліна галава
спачывае
на трапяткім вінаградным лістку.
Гарачае матуліна дыхание
рухае на небе зоркі, месяц...

Ай-ай,
прытуліўся да неба месяц,
як да мамы мая шчака!

**ПЕСНЯ МАЦІ**

Не купляй ты мне караляў.
Я для іх даўно старая.

Не дары ты мне хусцінку.
Я яе не ўбачу, сынку.

Не шукай мне сукні белай.
Галава мая ссівела.

Не прывозь мне чаравікаў.
Я да модных не прывыкла.

Хай усё нявестцы будзе,
Каб зайздросцілі ёй людзі.

Я ж, сыночак, не заплачу:
Хто ў зямлі мяне пабачыць?!.

## Павел Боцу

### ХЛЕБ

Начуем у вёсцы.
Крадзецца ў жытло
Сабакамі злым і абнюханы вечар.
Глядзім, як, прыносячы ў хату цяпло,
Выходзяць гарачыя боханы з печы.

Наш хлеб гарадскі помніць подых зярнят —
У дом ён прыходзіць са звонкай манеты.
А гэты заквашаны з будняў і свят,
Што праца змалола вясною і летам.

Але перш чым цеста ў дзяжы замясіць,
На млын трэба ехаць. Араты ў турбоце —
Пайшоў да суседзяў калёсы прасіць...
Дзе знойдзеш канец той сялянскай рабоце!

А потым вязі зноў са свірна мяшкі,
Ступай баразною, вясною сагрэтай,
І збожжам, як золатам чыстым, цяжкім,
У поўдзень засей узараны палетак.

І гэта не ўсё. Яшчэ трэба не раз
Зямлю напаіць сваім потам салёным...
Дзень вейкі заплюшчыў, за ўзгоркам пагас,
Кладзецца і спіць, як араты стамлёны.

### ПРОДКІ

Я шчыра ўдзячны вам, сівыя продкі,
За вашы запаветы і даброты,
За сіні лес і ластавак чародкі
І родных слоў напоўненыя соты.

Ці ўвечары лаўлю садоў напевы,
Ці слухаю палеткаў калыханне —
Прыходзіце усюды да мяне вы,
Чутны мне ўсюды смех ваш і дыханне.

І ваша мова вечная, жывая
Жыве ўва мне і песняю звініць.
Я ваш даўжнік, і па плячы ўздымаю
Бацькоўскі дом у сонечны зеніт.

### НУМІЗМАТ

Нядоўгая памяць у нашай планеты,
Сціраецца ўсё, што вяртае назад,—
Пачаў я збіраць сінякі, як манеты,
Як грошы старыя, дзівак-нумізмат.

Звіняць мае скарбы сярэбраным звонам,
Рыпяць сундукі, як драчы на зары.
Каб зоркі дастаць па сусветных законах,
Мне доўга зямлі яшчэ сплочваць дары.

На подступах дальніх да зорак таемных
У двух вартавых алебарды блішчаць.
І штось ад жыцця і ад смерці нядрэмнай
На грозны іх воблік наклала пячаць.

Ну што ж, заплачу сінякамі-манетай,
Што сочыць за мною дапытліва так,
Шукае пралікі мае і прасветы,
Як зрэнка бяссонная — звонкі пятак.

Краі яму сцёрла бязлітасна спешка —
З кішэні ў кішэню, заўжды нарасхват.
Што мне ён пакажа: «арол» або «рэшка»?
Хай будзе, што будзе, дзівак-нумізмат!

Мне дораць манеты суладнаю плоймай
І тайны мой вораг і друг без прыкмет.
А мой кашалёк і дагэтуль не поўны,
Бо ў ім не бывае фальшывых манет.

## РЭЧЫ, ЗРОБЛЕНЫЯ З ДРЭВА

Ля дрэва радаслоўнага стаю.
Яго карэнні — у стогадовай цішы,
А крону гаманлівую сваю
Яно спакойна нада мной калыша.

Гады пакут і радасці гады
Дзед бацьку перадаў, а бацька — сыну.
Іх жыццяў непрыкметныя сляды
Кругамі ціха кладліся ў драўніну.

Высокі ствол галінамі аброс,
Узняўся ў неба, ветрамі апеты.
І гэта дрэва перадаў мне лёс —
Нашчадку, марнатраўцу і паэту.

Я ўзяў сякеру вострую, як нож,
Кашулю скінуў, пляваў на рукі...
Ды продкі могуць запытацца ўсё ж,
А што зраблю я з іхнім падарункам.

Глядзіце — я не буду траціць слоў,
А асцярожна абдзяру кару я
Са старажытных дзедаўскіх слаёў
І скрыпачку вясковую змайструю.

Хай і тады, як лёд скуе зямлю,
Яна спявае, як вясной калісьці.
Ну, а пасля калыску я зраблю,

Каб сын салодка спаў у той калысцы.

А каб было мне ўсё вакол відно
І сонца ў дом мой зазірала рапа,
Я высеку вялізнае акно,
А для акна я выстругаю раму.

Прасторны стол змайструю,
каб сям'я
І ўсе сябры сядзелі грамадою,
А потым жураўля пастаўлю я
Над студняю з крынічнаю вадою.
З астатку дрэва дошак нараблю,

Саб'ю труну трывалую умела,
А трэскі? Пазбіраю і спалю,
Каб іх агнём усіх вакол сагрэла.

## Архіп Чыбатару

* * *

Лётчыкі з сабою не ўзялі мяне —
Кінулі пад яблыняю ціхаю.
Як крылом, махаю ім жалезнай
І нязграбнаю цяжкой матыкаю.

Маракі з сабою не ўзялі мяне —
На палетку веснавым пакінулі.
І пад плугам баразна ўздымаецца,
Нібы хваля пругкая пад кілем.

Касманаўты не ўзялі мяне з сабою
Кінулі на ўзмежку сну прыгожага,
На крайку маёй бяздоннай мары,
Прагі да бяскрайніх падарожжаў.

Я застаўся... Ціша ля ракі
У званочках лугавых пачуе...
Вернуцца яны ўсе праз вякі —
І зямной хадзе іх навучу я.

## ЯСНАСЦЬ

Хіба я не хацеў, каб на небе — пі хмарк
Ды загінулі б травы ад смагі пякучай,
І былі б на лугах толькі кветак агаркі,
Толькі цені ад ломкіх калючак.

Хіба я не хацеў, каб вясна цэлы год
Над садамі махала хусцінкаю белай?
Ды каб вечны быў квецені карагод,
Ані яблычка б не паспела!

Хіба я не хацеў, каб сцяжынка адна
Нам абодвум злучыла і сны і трывогі?
Ды без торнай дарогі
Сляпая яна,
Усе сцежкі
Бягуць да дарогі.

Хіба я не хацеў быць празрыстым, як шкло,
Каб разгледзела ты ўсе мае парыванні?
Толькі ж шкло надта роўным заўсёды было,
Надта ясным і сумным дазвання.

## НАДПІС НА КІСЛАЙ ЯБЛЫНІ

Скажыце мне, дзеці,
Вам яблыкі гэтыя даспадобы?
Цудоўна,
Я такое пачуць вельмі рад!
А вы ведаеце,
Каго ўспамінаць словам добрым
За тое, што ён на руках,
Як дзяўчынку,
Прынёс гэту яблыню ў сад?
Яшчэ хлапчуком, дзеці,
Пасадзіў я гэтае дрэва.
Вядома,
Адкуль вам ведаць,
Як, уцёкшы ад сяброў і забаў,
Я старанна яго даглядаў,
Як трэба,
Беражна абкопваў
І палівау...
З гадамі галіны
Напоўніліся чмяліным гудам,
І толькі потым па квецені
Зразумеў я тое, што было мне няўцям,—
Кіслымі яблыкі гэтыя будуць.
Але як жа я рад,
Што яны падабаюцца вам!
Дрэў нямала пасля
Пасадзіў я на роднай зямлі.
А ці ўсе прыжыліся?

Не змагу даць адказу...
А вось гэта жыве,
Ні пяскі, ні снягі яго не замялі,
І вясною гудуць у ягоных суквеццях чмялі.
Што ж тут дзіўнага:
Каменем вострым з яго
Вы ніводнага яблыка не збівалі ні разу.

## Лівіу Даміян

### АПОНШЯЯ НОЧ НІКАЛАЕ СТОЙКА

*Памяці камуніста*

Ля агарка начнога
ценю стомлены клін.
Нікалае Стойка
раскашуе адзін.

У сельсавеце нікога
гэтай позняй парой,
валяр'янку па кроплі
ён лье ў кварту з вадой.

Нікалае Стойка
уздыхае шчасліва,
а за вокнамі цемра,
і вецер, і лівень.

На стале сельсавецкім
найлепшай з акрас
ён расклаў стос заяў
аб прыёме ў калгас.

Нікалае Стойка,
акно зачыні —
стала ветранай ноч

і патухлі агні!

А ён раскашуе,
і сэрца грукае ў лад,
і калгас
з-пад далоняў яго
на стале вырастае, як сад.

Пад вятрамі бушуе
лістоў вадаспад...
Сад ля твару шапоча,
за ваколіцу кліча
і галінкаю квецені
падбародак казыча.

Нікалае Стойка,
акно зачыні —
стала ветранай ноч
і патухлі агні!

Ён вочы зажмурыў,
сцёр усмешку са шчок,
каб слязінка не ўпала
на сад незнарок.

Ад саду рукамі
адвядзі халады!
Да грудзей прытуліў ён
залатыя плады.

Нікалае Стойка,
акно зачыні —
стала ветранай ноч
і патухлі агні!

Асляпляльным святлом
акно шуганула ў імгле,
і Нікалае Стойка
ураніў галаву
на сад, што расцвіў на стале.

За акном
праз струхлелы паркан пералез
гладкі, прамаслены
чорны абрэз.

Свінец
ільняную кашулю прашыў
і спыніўся
ў сэрцы Стойкі,
дзе сад нарадзіўся.

Чорны абрэз
біў бязлітасна ў сад,
а не ў хворае сэрца,
што білася неўпапад;
біў бязлітасна ў сад,
поўны сілы жывой,
што сягоння цвіце
над тваёй галавой!

**БАЦЬКА**

Вечарам
Абдымаю
Бацьку майго.
Пахнуць
Полем і трактарам
Рукі ў яго.
Ведаю:
Дружыць ён
З хмарамі
І абшарамі.
Трактар ягоны
Барозны
Ўвесь час даганяюць —
Бацьку дапамагаюць.
Матор астудзіць
Прыйдзе пара —
Хмары лінуць
Дажджу як з вядра.
Для зайчанятак
Ноччу глухой
Святло фар
Здаецца
Малочнай ракой.
У матылькоў крылцы,
Як зоркі,
Мігцяць.
Матылькі
Ўслед за трактарам
Роем
Ляцяць.
...Як на пагорак,
Забраўся
Да бацькі я на калені.
Гэта найлепшыя
Шчасця імгненні.
За каўняром яго
Колас
Знайшоў.
Вось матылька
Адшукаў:
Ён у чупрыне бацькавай
Спаў.
Васількі
Знайшоў я ў кішэні адной,
Яблык цяжкі —
У другой!
А бацька
Вочы закрыў і — маўчок.
Паклаў
Галаву
На маё плячо.
Самых галоўных
Слоў
Не паспеў
Я сказаць яму
Зноў.
За акном
Спяць абшары,

Трактар ля гаю.
Ціхую песню
Я ім напяваю.

## З ГРУЗІНСКАЙ

### Атар Чалідзе

#### СТАРЫ РЭКВІЕМ

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Глухі залівісты званок,
Такі знаёмы ўсім здавён,
Склікае сёння не на ўрок,
А на апошні наш паклон.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Адчаю тонкую струну
Напяў званок глухой журбой,
Калі з настаўнікам труну
Узнеслі вучні над сабой.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Мне сэрца сціснула няўсцерп
Раней нязнанаю віной.
І ўсе мы звязаны цяпер
Вяроўкай роспачы адной.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Здаецца, расшчапіўся ўраз

Самой зямлі зялёны шар
І ў бездань пакаціўся час,
Як сэрца развітальны ўдар.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Мяне таксама панясуць
Аднойчы з дому дружбакі.
Што я аддам тады на суд —
Свае паспешныя радкі?

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Сярод суседзяў і сыноў
Ступаю за труной маўчком
І мару, каб у школу зноў
Прыйсці наіўным хлапчуком.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Я выбраў бы іначшы шлях,
Граніт навук упарта грыз —
І высеклі б на камянях
Маіх любімых вучняў спіс.
Ды мне здалося — даляцеў
Уздых настаўніка цяжкі,
Як подых ветру:
— Не працей
На камні высекчы радкі.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Каля настаўніка свайго
Акамянелы я стаю
І адчуваю:
не яго
Хаваю — маладосць сваю.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Той, хто нам быў за ўсіх радней,
Узносіў думкі аж да зор,
Ляжыць
і ў смерці для мяне —
Найлепшы, наймудрэйшы ўзор.

Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары.
Наблізіўся расстання міг —
І сэрца сціснула жудой.
Натоўп расцёр ля ног маіх
Акурак, кінуты на дол...
Жалобным звонам угары
Рыдае рэквіем стары...

## БАЛАДА ПРА ТЫГРА

Шумна ў бераг вал прыліва
Тыцнуўся са зморай.
Поўня белая лянiва
Выплыла з-за мора.

У трысцi размыла зверху
Шоры морак ночы.
I разбуджанаму зверу
Асляпiла вочы.

Тыгр падкраўся цiхай сапай,
Зарычаў раптоўна
I падняў цяжкую лапу,
Каб раструшчыць поўню.

Ды свяцiла ўжо далёка —
На скалу прысела
I ў раз'юшанае вока
Пазiрае смела.

Тыгр маланкай паласатай
Кiнуўся ў пагоню.
Нi пра страх,
нi пра засаду —
Нi пра што не помнiў.

Не бярог у лютай злосцi
Мала дую сiлу
I за поўняй следам несся
Па крутому схiлу.

За спiной сваёй пакiнуў
Рэкi i iмшары,
Край спякотны бедуiнаў,
Табуны, атары.

Прамiнуў i лес, i поле,
Вежы, замкi, скiты.
А злавiць гарэзу-поўню
Не хапiла спрыту.

I свiтальнаю парою
Ён спынiўся, злосны,
I пабачыў над сабою
Край, як сон, дзiвосны,

З вышынi
нязваным госцем
Пазiраў нясмела,
Ад нязнанай прыгажосцi
Як акамянелы.

Аглядаў сады, палацы
I Арагвы воды.
I надумаў заставацца
Тут ён назаўсёды.

Цiшыня i край нязвычны

Так душу кранулі,
Што не ўбачыў паляўнічых
І смяротнай кулі.

Лёг шчаслівым пілігрымам
Пасярод дарогі...
Чары Грузіі любімай
Пагубілі многіх.

**ПЯЦІКАПЕЕЧНЫ ДОЖДЖ**

Дождж прайшоў.
            Адно чутны
Ветру сцішаныя ўсхліпы.
Кроплі звонкай цішыні
Падаюць з намоклай ліпы,
Болю даўняга агонь
Заліваюць асцярожна.
Я працягваю далонь
Ім, як добрым спадарожным.

Закрываю вочы я,
Заціхаю з ветрам цёплым
І чакаю, што з галля
Упадзе цяжкая кропля,
Як людской спагады знак,
Як бальзам з гаючых лекаў.
А прахожы мне пятак
На далонь кладзе са здзекам.

Што ж, яму зусім няўцям
Скрухі ўсе мае і тайны...
Ды няўжо настолькі танны
Момант самазабыцця?..

## Джансуг Чарквіяні

### СОНЕЙКА МАЙГО ТБІЛІСІ

Ты хадзіла па пагорках,
Дзе сцяжынкі ўсе сышліся,
Макунія, Мака, Мака,
Сонейка майго Тбілісі.

Пагуляй між пнёў замшэлых,
Пашукай суніц даспелых,
Паглядзі на птушанятак,
Як і ты, зусім нясмелых.

Каля ног шапочуць кветкі.
Адганяе ветрык стому.
А буслы то ў небе кружаць,
То спускаюцца дадому...

### ТВАЯ ВЁСКА

Там, дзе вынесла крынічка
З-пад зямлі струмень вясёлы,
У цябе бацькі, і хата,
І сябры твае, і школа.
Праспявай жа роднай вёсцы
Славу, як зямному дзіву.
А не любіш сваю вёску,—
Не палюбіш і Радзіму.

## З КАЛМЫКСКАЙ

## Міхаіл Хонінаў

### СОНЦА

Мы сябруем з сонцам.
　　Разам з ложка ўстаём пасля ночы,
Па-сяброўску падміргваем адзін
　　другому здалі.
І ўвесь дзень,
　　як салдаты, суладна крочым:
Сонца — па небе халодным,
　　я — па цёплай зямлі.

Каб заўжды чалавекам звацца,
　　я працую, нібы мурашка,
Да засмужанага небасхіла
　　вяду сваю баразну.
А сонца?
　　А сонцу таксама цяжка —
Узнімаць да сябе над зямлёю
　　чалавека і збажыну.

Сонца ўсюды са мной —
　　неразлучным спагадным другам.
Дабраты яго цеплыня
　　ні на міг мяне не абміне.
Яно пот з майго твару ўцірае,
　　калі я стамлюся за плугам,

І, нібыта сайгачаня,
        вецер лашчыцца да мяне.

Прыйдзе вечар —
        сонца схаваецца за беларускім
борам,
Круглатварая, нібы калмычка,
        поўня на неба ўсплыве.
Я крынічнай вадой пыл змываю —
        і ўспыхваюць зоры,
Быццам водбліскі сонца,
        па прымятай мною траве.

Я саджуся за стол.
        Залатая джамба дыміцца.
Чысты аркуш паперы —
        у мяне пад рукой.
Я вершы пішу
        пра мір, пра хлеб,
        пра свой край калмыцкі.
І так хочацца мне,
        каб сонца жыло між радкоў.

**ТАНЕЦ ЧАБАНА**

Што за сцэна —
        лепшай не трэба! —
Стэп калмыцкі, як акіян.
Па ім скача пад сінім небам
Захмялелы ад шчасця чабан.

Не шкадуе ботаў запыленых,
Сыпле ўпрысядку раз і другі.
А над ім,
        распластаўшы крылле,
Цар пярнатых робіць кругі.

Рвуць авечкі жытняк мурожны,
Бык на цёплай траве прылёг...
Танцам радасным заварожаны,
Прыпадае кавыль да ног.

Нізка кланяецца пад ветрам,
На пагоркі ўзбягае ён...
А чабан —
        то ляціць ракетай,
То застыне —
        як стройны клён.

«Гэй, арол, ты ў мяне павучыся,
Як са шчасцем душу заручыць!» —
У зашклёныя сонцам высі
Па-калмыцку танцор крычыць.

І арол у прасторы высокім
Круг за кругам — шпарчэй гайда!
І за ім пусцілася ў скокі
Лёгкіх воблакаў чарада.

Закружыліся ў танцы светлым
Неба, стэн, як сям'я адна...
Весялосці вучыся, планета,
У шчаслівага чабана!

## З БАЛГАРСКАЙ

## Іван Давыдкаў

### БУРШТЫНАВЫЯ КАРА́ЛІ

На шыі тваёй — каралі з бурштыну.
Лясы ў іх спяваюць, і вёслы, і невады,
і след твой, поўны расы і сіні,
і мокрая прыстань каля самай вады.

Мы, згубленыя навекі, цяпер знайшліся —
дзве бурштынавыя слязы на пустых
берагах.
Мы, як старыя літоўскія сосны,
памерці разам сышліся,
і балтыйская бездань будзе наш саркафаг.

О растрачаныя пачуцці, вы ўваскрэслі
сягоння!
Мора пас абдымае, дзюны моўчкі ўбок
адышлі...
Ці засвецімся некалі мы ў рыбацкіх далонях
жменькай бурштыну? Ці станем проста
жменькай зямлі?

Ці ўспыхнем мы над плячамі, вылепленымі з
пены,
над пацалункам, што прысеў матыльком
па белых грудзях,

ці нам сокал вячэрні крылом сваім
вострым імгнення
перарэжа няпройдзены шлях?

Цячэ Вілія, бярозамі ўкрытая.
Ні голасу, ні дыхання на зямлі і ўгары.
У далонях тваіх, крылом жаўруковым
збітая,
ціха літоўская зорка гарыць.

**ЦЫГАНСКІ ПОЛАГ**

І яшчэ адно падарожжа да голаду і нястачы!
Хто верацёны купіць?
Хто выпрадзе імі радасць?
Маўчаць цыкады ў кустах.
На білах ліхтар матляецца.
І полаг прапалілі пагляды дзіцячыя.
І за калёсамі ўслед, як сабака, гоніцца
страх.

Яны не шукалі начлегу ў доме пасярод поля.
Прыдарожныя дрэвы для іх — і страха, і
сцяна.
Падкурчыўшы ногі, селі вячэраць паволі,
распраналі цыбулю — і смачна храбусцела
яна.

Потым улегліся.
Толькі цыганка, перагнуўшыся цераз білы,
кошык пляла — з цемры і з лазняку.
Украдзены певень
так закукарэкаў і залопаў крыллем,
што з берага жабы, як камні, плюхнуліся ў
раку.

Вераценшчык нож свой тачыў,
пагладжваючы
на далоні.
Фыркалі коні
на аплеценым цемрай і ажынай узмежку.
А сабакі над вогнішчам
калыхалі свае языкі — чырвоныя, як
галавешкі,—
каб агонь уваскрэс і надзея не згасла ніколі.

**ЛІСТАПАДАЎСКАЕ ЎЗБЯРЭЖЖА**

Я ўсё шукаю цёплы след твой босы
на дзюнах, дзе хадзіла ты адна.
Асенні дождж, хаця ніхто не просіць,
цярусіць ад відна і да відна.

На прыстані асірацелай — ціша.
Іржа. Вяроўкі. Лужыны. Нуда.
Нібы акурак кінуты, калыша
сівую чайку цёмная вада.

Стаю.
І на душы — туга цяжкая.
Усё ўва мне бунтуе і крычыць.
Балюча. І па твары мне сцякае
размыты горад, што плыве ўначы.

**АНТЫЛЬСКІЯ АСТРАВЫ**

*Ал. Муратаву*

Хіба гэта Антылы?
Хіба гэта атэль з верандаю белай,
дзе новыя сны і пачуцці прыходзяць да цябе
па пачах?
Над пальмамі дзень патухае нясмела,
сплывае па кашулі, што халаднее ў цябе на плячах.

Ты далягляд хапаеш, як нітку змея папяровага,
раскалыхваеш неба, каб апусціць ніжэй,
і твая зямля — далёкая і самая чароўная —
падступае бліжэй.

І ты бачыш — не так і далёка да дому,
і гэты светлы бераг для цябе не чужы,
дзе, нібыта неонавая, вымалачаная салома
свеціцца, растрэсеная на старажытнай шашы.

Калі ж ты нахілішся трохі з балкона —
пачуеш водар вясковага хлеба і плёскат
роднай ракі
і ўбачыш, як на начлег гоняць коней,
як парэпанымі пяткамі іх б'юць па баках хлапчукі.

Касцёр каля сажалкі абмацвае цемру
чырвонымі пальцамі.
Валюхаюцца качкі на кульгавых нагах сваіх,
піскявым сузор'ем па двары рассыпаюцца,
і лемех забытага плуга, як месяц, свеціцца
сярод іх.

Пачуўшы іх шум, брат-інвалід грукае мыліцай
і поўнымі ночы вачамі ўзіраецца ўдалячынь.
...Ты бачыш: пальма закрыць лістамі паўнеба
сіліцца,
але братавага твару не заслоніш нічым.
Цякуць трапічныя рэкі. Пульсуюць іх сінія вены
прывычна.
А табе сніцца снег далёкіх Балкан.
І боль і любоў растуць.
Павялічвае
іх лупа вялізарная — акіян.

## Найдан Вылчаў

### ПРАДЧУВАННЕ

Калі маё слабое сэрца
раптоўна прыйдзе смерць скасіць,
то перад тым,
як разарвецца,
яно збярэ астатак сіл,

апошнюю кардыяграму
накрэсліць і без чуйных пёр —
і ў ёй нават чужынец дальні
пазнае профіль нашых гор.
Там круглы горб уздыме Вежэн,
пік Боцева ўзляціць між скал,
вяршыня Шыпкі перарэжа
там Бузлуджанскі перавал,

а потым,
калі ўздых стрымаю
і выдыхну астатак сіл,
спакойна прапаўзе прамая,
пакуль не спыніцца зусім.

Заціхне вецер. Згаснуць зоры.
Расу асыпле з траў жуда.
На міг замоўкпо ў Чорпым моры,
як слёзы, горкая вада.

### СУТАР

Акно патухла. Далато замоўкла.
І скульптар адпачыць навек прылёг.
На вуліцы і на дзвярах дамоўкі
наклеены жалобны некралог.

Запанавала ціша ў сутарэнні,
аслепла шкло і мармур анямеў.
Ён жыў адзін, той скульптар састарэлы,
не меў ён жонкі і дзяцей не меў.

Ды толькі месяц прамінуў —
            і ранкам
(не вечная маркота на зямлі)
з гармідарам вясёлым кватаранты
у сутарэнне змрочнае прыйшлі.

Яны ў работу радасна ўпрагліся,
з грузавікоў цягалі дружна скарб
і жыхароў даўнейшых —
            з бронзы, з гіпсу
павытурылі ўміг на тратуар.

Ударыў гром. Як срэбныя праменні,
па дахах дождж лагодны зацурчэў —
і слёзы ўпалі на зямлю з каменных
самотных, незаплюшчаных вачэй.

А ў сутарэнні зноў святло гарэла.

З вакна ламіўся навасельны звон.
І плакалі скульптуры абмакрэлыя,
як дзеці, з хаты выгнаныя вон.

## З ДАНТАВАГА РАДКА

Жыццё сваё пражыўшы
 напалову,
калі цябе ўжо захад залаціць
і столькі мар наіўных паступова
у незваротны вырай адляціць;
калі асядзе серабром
 на скронях
пыл пуцявін, спазнаных
 у жыцці,
але на вуснах будзе,
 як рамонак,
усмешка хлапчукоўская цвісці;
калі ты знаеш, што ў душу
 не здолеў
пракрасціся ні д'ябал і ні бог,
і ўсё, што выпала табе
 на долю,
ты сам зрабіў так, як хацеў
 і мог;
калі ты помніш, як перад
 табою
маўчалі бюракраты і сталы
і вецер з вечароваю журбою
нёс халадок табе пад дах
 стары;
калі таварыш сэрцам
 схаладзелым
хацеў стрымаць тваіх задум
 палёт,
а ты садзіў лімоны і надзеі
штодзень яму ў яго
 настылы лёд,—
тады перад сваім сумленнем
строгім
сказаць ты можаш і сабе
 і ўсім:
і да канца жыццёвае дарогі
застанься вось такім,
 як ёсць, такім.

## БЭЗАВЫ ВЕЦЕР

Разгайдаўся бэз ліловы —
і плыве вясновы пах
па нізінах і дубровах,
па садах і гарадах,
разамлелаю дарогай,
падсініўшы небакрай,
малады і басаногі,
напрасткі спяшае май.

— Гу-гу-гууу! — гугукне голуб,

затрымаць захоча май:
— Не махай духмяным голлем,
прыпыніся, пачакай!
Рэчка кінецца насустрач,
забалбоча звонка плынь:
— Не спяшайся гэтак шустра,
лепей вудачку закінь...

Ды, спыняемы усімі
і не спынены нікім,
май бяжыць, нястрымны, сіпі,
залаты і трапяткі,
свішча весела ў антэнах,
на ляту ўхапіць гатоў,
нібы скакуноў стаенных,
грывы мяккія жытоў.

Свецяць срэбныя ракіты,
вечны гімн жыцця вядзе
хор дзяціны басавіты —
хто ў калысцы, хто ў гняздзе,
па нізінах і дубровах,
па садах і га радах
вецер бэзавы, ліловы
носіць хмельны майскі пах.

## ЯК РАНЕЙ

Пэўна, запознены грук электрычкі
ветрам вясновым твой сон не кране.
І не разбудзяць, згараючы, знічкі
так, як раней.

Дрэмле кавярня. Халодным пеонам
сумны ліхтар не сагрэе мяне.
Ты не чакаеш званка тэлефона
так, як раней.

Вецер сляды нашы л і с: нем засыпаў,
ціхі наш сквер ад дажджоў пачарнеў...
Толькі прыйдзі — расцвітуць яшчэ ліпы
так, як раней.

## АСЕННЯЕ ГНЯЗДО

*Івану Давыдкаву*

Сінь нябёс імжой замглёна.
Цішыня каля палян.
Апускаецца на клёны
лістападаўскі туман.

Спяць палеткі. І навокал —
задрамаў прасцяг пусты.
Усцілаюць шлях намоклы
пачарнелыя лісты.

Плача клён самотны, голы —
кроплі падаюць на дол.
Беражна трымае голле
апусцелае гняздо.

Птушка ўчора адляцела,
ветрам выдула цяпло.
Ды ў гняздо лісток зжаўдзелы
нечакана занясло.

І заціх адразу вецер,
сплыў туман.
Канец нудзе.
Клёну голаму здаецца,
што зноў івалга ў гняздзе.

## ЗЕРНЕ ДЛЯ СЯЎБЫ

Плыве туман. Звіняць трамваі.
Бяжыць за хмарай хмара ўслед.
А думка зноў мяне вяртае
У іншы дзень і ў іншы свет

Там, у маім куту абжытым,
і я,
як дбайны гаспадар,
ссыпаю ў цёмны свіран жыта —
маёй зямлі духмяны дар.

Накінуўшы кажух на плечы,
мне з ганку раіць дзед сівы:
— Ты ж адбяры там, чалавеча,
зярнят найлепшых для сяўбы.

Згружаюць вугаль. Шуфлі звоняць.
Злуецца гаспадыня зноў...
Чаму мне помняцца і сёння
і гэты крык,
і гэты звон?

Чаму аловак непрывычна
ў руцэ спакойнай затрымцеў?
Як гэта голас дзеда Вылчы
ў пакой мой ціхі заляцеў,
калі ўжо дзед мне і не сніцца,
не стукне ветрам у вакно,
калі на могілках брасніцкіх
ён спіць між продкамі даўно?

Плыве туман. Страсаюць скверы
лісты з асенняй жаўцізной.
Перада мною ліст паперы,
як ніва чыстая вясной,

і далятае голас вечны
праз звон трамваяў і сюды:
— Ты ж адбяры там, чалавеча,
зярнят найлепшых для сяўбы.

## Андрэй Германаў

### НЕЙТРОННАЯ БОМБА

Калі пачнецца страшная ванна,
нейтронны вал пракоціцца па свеце,
закрые сонца полымя сцяна,
загінем мы тады... А як жа дзеці?

Хто іх заслоніць у трагічны міг
і затрымае ў басаногім леце?
Няўжо святло пагасне і для іх?
Каму свае жыццё даверац дзеці?

Хоць разапніце на крыжы мяне,
але жыве ў душы трывожнай дзесьці
надзея, што вар'яцтва абміне
планету і на ёй не знікнуць дзеці.

Мы грэшныя смяротныя, на жаль,
ды ўсмак пілі мы вандраванняў вецер,
чаромхавай вясны юначы шал
і новых песень хмель... А як жа дзеці?

Гляджу наперад — цемра ў вочы б'е,
і ад тугі нікуды не падзецца...
І зноў і зноў пытаюся ў сябе:
А як жа дзеці будуць? Як жа дзеці?

### АДЗІН ГОД

Калі ў трызненні кляў я сорак бед
або ляжаў без стогну і без крыку,
размерана круціўся гэты свет
і перамолваў дні свае пакрыху.

Так, без мяне мінуў аж цэлы год!
Стаў іншым горад, іншыя навіны.
Сустрэў я сябра — ледзь пазнаў яго,
і замуж выйшлі дзве мае дзяўчыны.

Жніво адгрукатала без мяне,
і ружы новы куст ля ганка вырас,
і дуб пажоўк, што, помню, зелянеў,
і злёталі буслы ў далёкі вырай.

Пакуль з хваробай я змаганне вёў,
мой сын узняўся ўверх яшчэ па пядзю...
Я ведаю, што на зямлі сівой
я толькі госць, як весні цвет у садзе,

што, як усе, хто шлях свой завяршыў,
і я аднойчы назаўсёды знікну...
Дык ад чаго ж так горка на душы,
што свет і без мяне жыць будзе звыкла?

**Матэй Шопкін**

**МАЛІТВА НА ВЯРШЫНІ БОЦЕВА**

Старажытны мой край, ад чужацкіх касцей пабялелы,
гнеўны край з пачарнелым ад здзекаў чалом —
дай навек мне бунтоўны напеў гайдукоў тваіх
    смелых
і зялёнае полымя сцяга з балгарскім ільвом!

Дай мне стогны глухія Агосты, Марыцы і Віта
і ўвесь боль незабыты тваіх незагоеных ран!..
Да цябе ўзношу рукі свае, як паломнік знябыты,
на балканскай вяршыні, спавітай у сіні туман.

І прашу цябе, родны мой край, пазаві мяне сынам,
будзь са мной, як калыска, усе мае ночы і дні;
калышы мне душу на палянах сваіх і ў цяснінах
І сурова гартуй на высокім і чыстым агні!

Я шчаслівы нашчадак змаганцаў тваіх і паэтаў —
памажы мне да самага скону застацца такім:
жыць па светлых законах свяшчэнных
    тваіх запаветаў
і, калі будзе трэба, загінуць салдатам тваім!

Памажы мне знайсці словы песні яшчэ непрапетай,
тваім ветрам лясным і жытнёвым падыхацца дай;
песню ў славу тваю пранясу я праз рай
    і праз пекла,
песню ў славу тваю — бессмяротны балгарскі
    мой край!

## ДОЖДЖ

О, гэты спорны апаўночны дождж!

Раскінуў над прыціхлым светам грывы,
ляціць наўскач, імклівы і гуллівы,
на маладым задыханым кані.
Ты чуеш капытоў шалёны цокат,
яму няўцям твой хапатлівы клопат,
што ты з ім бегчы не гатоў ані.

О, гэты добры апаўночны дождж!

Мая душа яго так доўга прагла,
я спіў яго ў бясконцых снах асмяглых,
і вось на самай справе ён ідзе.
І я скідаю потную кашулю,
і стомленае цела раскашуе,
падстаўленае ветру і вадзе.

О, гэты цёплы апаўночны дождж!

Мая душа, нібыта кветка тая,
пад кроплямі буйнымі расцвітае
і кліча бегчы ў поле басанож.
І я спяваю, ад хлусні адмыты,
і я спяваю, чысты і адкрыты,
і я спяваю пра нястрымны дождж.

О, як патрэбен апаўночны дождж!

## ГАШЭННЕ ВАПНЫ

— Хлапчына, вочы зберагай!
Сачы, каб вочы не аслаблі...

Ах, дзе яшчэ той ванны край!
Ад стомы пацяжэлі граблі.
А вапне не відно мяжы.
Набрыньвае. У вочы лезе.
То лена, сцішана дрыжыць,
то ўскідваецца, быдцам гейзер.

— Хлапчына, вочы зберагай! —
стары вапняр мне зноў гукае.

Ах, дзе яшчэ той вапны край!
Дрыготка ў жылы б'е цяжкая.
З-пад ватных ног плыве зямля.
Святло — як сеецца праз сіта.
Але ўстаяць павінен я,
адчай знямогі перасіліць.

— Хлапчына, вочы зберагай! —
вапняр мне паўтарае зноўку.

Ах, дзе яшчэ той ванны край!
Я лезу ўглыб — нібы ў кладоўку
мне невядомага быцця.
Па твары пот сцякае дробны.
І мне здаецца ўжо, што я

на ванну сам цяпер падобны.

— Хлапчына, вочы зберагай! —
стары вапняр напамінае.
Ах, дзе яшчэ той ванны край!
Напакаваны ёй спаўна я.
Сабраўшы ўвесь астатак сіл,
яе
з мальбою і праклёнам
да змроку буду я гасіць.
А можа — да самога скону!

**ГРУЗІНСКІ РОГ**

Паверце, не забуду я, куды б ні звалі далі...
Быў перад намі поўны рог з шумлівым «Цынандалі».

Пад намі гордыя арлы крылом хісталі высі,
пад намі ўсмешкаю бялеў асмужаны Тбілісі.

І неба гасла на вачах і падала на скалы.
І сонца залатая кроў нам вены апякала.

Крывыя рогі зноў і зноў, як шаблі, ноч крамсалі,
за мёртвых мы да дна пілі і за жывых таксама.

А тостам не было канца, не зналі песні стомы,
як птушанят, люляла нас па-над цясьнінай стромай.

Але я вытрымаў... З грудзей прагнаў, як мог,
бяссілле.
І рог мне падарыў паэт Морыс Пацхішвілі...

Каваны рог грузінскі даў і так сказаў мне Морыс:
— Дружбак, калі табе душу нясцерпна сцісне горыч,

калі нязваная бяда табе параніць сэрца,
калі ад роспачы сусвет абрынецца, здаецца,

калі пакуты прыпыніць не будуць здольны лекі
і ты не зможаш уявіць, ці ты ў раі ці ў пекле,

калі ты страціш сэнс жыцця, прыпомні зноўку рысы
мае і нас, тваіх сяброў, і нашага Тбілісі

і выпі гэты рог да дна, як завяшчае горац,
і больш нічога...
І ў цішы тост за мяне ўзняў Морыс.

І я сказаў: — Мне хопіць сіл а ж да апошняй хвілі,
раз падарыў мне рог паэт Морыс Пацхішвілі!

## З ФРАНЦУЗСКАЙ

## Гайяр-сын

### НАРОД — КАМУНА — ВЕРСАЛЬ (1870—1871 — 1872)

Паэта нараджае абурэнне.
*Ювенал*

**I**

Ты, хто прывык на белы свет глядзець
праз краты,
Ты, працаўнік-герой, чыіх не бачна статуй,
Ты, што стварыў усё, а носіш на грудзях
Не бляск узнагарод, а сінякі зняваг,
Казёл ахвярны, вол маўклівы і нястомны,
Ты мог бы мець усё і ты — батрак наёмны,
Каго завуць Народ! Калі ж настане дзень,
Што крыўдам ты рахунак падвядзеш,—
І небываламу крываваму пагрому,
Разгулу катаў, рвенню іх тупому,
І прывідам, калі ў тваіх вачах
На катарзе пантоннай па начах
За пенным морам у туманнай далі
Твае любімыя раптоўна паўставалі,
Іх стогн стаяў тады ў вушах тваіх —
Каб не сказалі ворагу пра іх,
Каб не зняважыла іх, змучаных дазвання,
Камісіі вярсальцаў дараванне...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

II

Ішла асада! Горкі лес прызначыў
Нам перажыць і холад, і нястачу,
Ісці на смерць пад ворагавы кулі!
А багацеі ўсе цюкі згарнулі
І хуценька пакінулі Парыж.
Мой горад, ты на іх з пагардаю глядзіш,
Ты вольны стаў ад мішуры ліўрэйнай
І глоткай бронзавай, і меддзю батарэйнай
Германцу-пераможцу даў адказ!
А тыя скончылі — прыйшоў спакою час.
Падпісан гнюсны мір — а ім і гора мала,
Над сэрцам пуза перамогу атрымала.
Што ім да дзён цяжкіх, да смутку
ўсіх людзей?
Адно жаданне іх заўжды вядзе:
Ім толькі б пагуляць, наліць, набіць трыбух!
Радзіма іх — Машпа! Сумленне іх —
Гросбух!
А іншае ўсё ім даўно абрыдла:
Свабода — трын-трава, народ — сляпое
быдла!
І поўны зноў Парыж агіднай гэтай дрэні,
Яны вярнуліся, каб прадаваць сумленне,
Каб нас мяшаць з гразёй, каб доўгія гады
Глуміць цябе. За што? Што ты зрабіў тады?
Ты ганьбы не хацеў свайму святому краю,
Якую прыпяла маўкліва гэта зграя:
Цябе збаяўшыся, яны на ўсё пайшлі,
Трашу і Фаўры — здраднікі. зямлі!
Тады, на іх падпяўшы грозны гнеў,
Стварыць Рэспубліку другую ты сумеў,
Якая новы шлях магла б сабе азначыць,
Якая цэлы свет магла б пераіначыць
І ворагам адпор рашуча даць і проста,
Як у славутым годзе тым, у дзевяноста
Другім! І ўсё ж яны цябе, о мой народ,
Са здзекам аблілі смуродам нечыстот!
Зняважаны, галодны і пабіты,
Ты слухаў іх ману, іх нагавор адкрыты
І ведаў, што злачынец подлы нёс
Тваім сынам і дочкам гэткі ж лес!
І ты павален быў іх сілаю звярынай,
Злачыннай подласцю і здрадаю злачыннай,
Натоўпам шлюх і зайцаў біржавых...
Вон з памяці — падлюг! Мы помнім пра
сваіх!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

III

О Каледонія! О форты! О пантоны!
О царства катаргі, дзе моўкнуць смерці
стогны!
Ці ведаеш ты, што, ахоплены тугой,
Угледзеў вязень за вячэрняю смугой?
Пакінула жыццё яму адно дыханне!
Чакае цэлы свет хоць трохі спачування
Ад вас, ахоўнікі, ад вас, старыя суддзі!

Але няма сумлення ў вас і літасці не будзе!
Затое ў катаў ёсць — хай знаюць пакаленні
—
Свой катаўскі закон, сваё сумленне:
Забіць яны маглі б увесь няшчасны род.
А тут, бач, катарга... Удзячны будзь, парод!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**IV**

Не, грамадзянская ванна — не для забавы!
Гуляе па сталіцы шал крывавы —
І дваццаць тысяч душ на месцы без суда —
Дзяцей, старых, жанчын — версальская
арда
Сумела расстраляць! А колькі душ узята
У змрочную турму, у холад каземата?
Не менш! І вынік ёсць палітыкі такой:
У Францыі цяпер — парадак і спакой,
Нарэшце мы, сумесна і без звягі,
Сумеем, выплаціўшы ўсю цану знявагі,
Насыціць Прусію і ўлашчыць назаўжды
І ўсе вакол забудзем за гады
Боль растаптаных мар, зняслаўленую веру!
Дык дзякуй Арміі! Дык дзякуй пану Цьеру!
Дык дзякуй Арміі! О мой народ-бядак!
Цябе перамаглі твае ж сыны. Вось так.
Нікуды не ўцячы ад горкай праўды гэтай.
Ды хіба змірыцца з такім душа паэта?
Так, бедны мой народ, ты быў самім сабою
Зняважаны, разбіты ўшчэнт па полі бою.
Сляпая салдатня, спрадвечны лес каторай
Для катаў быць заўжды і зброяй, і апорай,
Таптала і закон, і волю, і любоў!
Падумаць толькі — жах, аж стыне ў жылах
кроў!
Вось гэты жорсткі звер, што біць жанчыну
можа,
Магчыма, ён твой сын, магчыма, брат...
О божа!
Ці не твая матуля ў доме мілым
Яго, як і цябе, люляла і карміла?
Як гэта ўсё ўявіць? Няўжо ўсё так было:
Вы снедалі з ім за адным сталом
І над адною коўдрай спалі нават!
Адкуль жа гэта жорсткасць і нянавісць?
Народ! Той, хто цябе знявечыў да астатку,
Апанаваны быў тупым шаленствам статку
—
Ні бацькам і ні братам быць не мог,
Калі табе ў спіну ўвагнаў клінок!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**V**

Цяпер вы можаце цвісці ў цішы законаў!
Гуляйце і ўслаўляйце салдафонаў,
Што зберaглі для вас жыццё і кашалькі!
Ды будзе помсты час! Настане дзень такі!
Зладзюгі ўсіх масцей, бандыты ў розных
масках,

Закончыцца тады ўся ваша свістапляска
Ля ватага дурнога бажаства,
Якому моліцеся вы сярод пітва,
Сярод раскошы і сярод распусты!
Так, у Рэспубліцы жывецца вам не пуста,
Хрып расстраляных весяліць вас, быццам
хмель.
Забіты ў Сатары — Ферэ, Буржуа, Расель
І ў колькі чэсных сэрцаў кулі цэляць!
А тут — танцуюць, п'юць, узнагароды
дзеляць,
Спяшаюцца набіць кішэні што ёсць сілы!
Ды толькі прыгажуня кіне погляд мілы —
Наш фанфарон увесь наструпіцца імгненна
І з франтаватай выпраўкай ваеннай
На прыступ кінецца... О певень («ко-ко-ко[»),
Капітуляцыяй праслаўлены хвалько!
Для Францыі цяпер ты хочаш долі светлай,
Гаворыш пра рэвагнш. Л дзе ты быў
дагэтуль?
Ты пасля бойкі дужы. Хопіць слоў пустых!
Народ цябе забыў — ён помніць пра сваіх!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**IV**

Ды калі можаш ты, ваяка, пыхі поўны,
Успомні хоць цяпер аб шпазе беспрацоўнай.
Бо немец, што цябе так лёгка змог
зняславіць,
Вядома, не дзіця і не жанчына нават.
Гарматы крупавы ўсім нам нясуць урон —
Аб гэтым не забыў і смелы фанфарон.
Няхай жа гальскі дух табе сумленне
ўзрушыць!
Забудзь пра свой закон, бяздумны і
бяздушны,
І пра Рэспубліку з правіцелем злачынным,
І пра твой суд, што можа без прычыны
Раптоўна «асудзіць» на змрок турмы
пантоннай
З Базенам заадно Луі Напалеона!
Хіба паможа гэты хлам мішурны?
Адчуй і зразумей, як вее вецер бурны,
Як блізіцца да вашых ложаў і палат
Дзень справаздач вялікіх і адплат,
Калі свяшчэннай кары гром глухі
Заглушыць вашы ўсе злачынствы і грахі!
Ну што ж, ідзі далей, як ты ішоў дасюль!
Не пашкадуеш ты для нас ні катаргі, ні
куль,
Паспееш падпісаць па смерць загад не раз.
На нашы ж скаргі — цішыня ў адказ!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**VII**

Ну што ж, працягвайце крывавы свой
паход.
Мы знішчылі жахлівы эшафот,

Вы зноў паставілі яго з адной турботай,
Каб не застаўся кат парыжскі без работы,
І ў рэшце рэшт для працы большага размаху
Вы праявілі спрыт і «разгрузілі» плаху —
З людзей зрабілі вы для салдатні мішэні.
Вось — вашых спраў вянец, вось — ваша
ўсё
сумленне!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**VIII**

Ну што ж, працягвайце! Я ненавіджу вас.
З вас не сатрэ кляйма праклёну час!
Народ, запомні ўсё! Калі настане дзень
І ты ўсяму рахунак падвядзеш,
То морам кінешся на іх, ды і тады
Не зможаш змыць іх плям крывавых ты!
А той, хто пашкадуе акаянных,
Прагнаны будзе прэч і намі абсмяяны!
Вось чаша помсты — слёзы ў ёй, і кроў,
І злосць, І грымнуць гром ужо гатоў,
Паліты хмары грознай навальніцай,
І прорва ўжо гатова расчыніцца,
Каб чорнай лаваю пракляты свет заліць!
Народ пакуль што вас не можа раздушыць,
Што ж, уладарце — покуль ён прыдушаны
бядою,
Пакуль яшчэ рыхтуецца да бою!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**IX**

Але няма сумлення ў іх. І гэтай цішынёй
Прыкрыты зверствы іх, як чорнай
прасцінай!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## З ІСПАНСКАЙ

## Пабла Нэруда

### ЗВАРОТ ДА ЕЎРОПЫ

Я, амерыканец бедных нагор'яў,
цяжарных жалезам,
дзе чалавек з чалавекам ваюе,
а людзі ваююць з зямлёй.
Я, амерыканец-вандроўнік,
сірата вулканаў і рэк,
што мяне парадзілі,—
вам, прастадушным еўрапейцам,
жыхарам халодных завулкаў,
сціплым уласнікам міру і масла,
мудрацам, спакойным, як дым,
вам кажу я: сюды я прыйшоў
павучыцца ў вас,
у адных і ў друг іх,
павучыцца ва ўсіх,
бо іначай навошта
я хадзіў па зямлі,
змераў столькі дарог,
калі не магу паглядзець і ва ўсіх
павучыцца,
у кожнага пакрысе.
Не зачыняйце я; дзверы
(як калісьці ў Іспаніі роднай,
дзе ў крыві былі чорныя дзверы).
Не паказвайце вострыя косы,
і браніраваныя эскадроны,
і старажытныя шыбеніцы для новых афінян
на шырокіх вуліцах, усыпаных
водбліскамі вінаграду.
Не хачу я глядзець на салдаціка мёртвага
з выкляванымі вачамі.
Пакажыце мне ў кожнай краіне
бясконцую нітку жыцця,
якой шыюць уборы вясне.
Пакажыце машыну,
блакітную сталь над слоем тавота,
што гатова ўзараць дзірваны.
Пакажыце мне каранямі абвіты
твар Леанарда —
твар геаграфіі вашай,
пакажыце на горных вяршынях,
так чароўна апетых паэтамі і мастакамі,
сцяг яднання,
які несціхана трапеча
над наэлектрызаваным ветрам.

Прынясіце вады пладаноснай Волгі
водам залатога Арно.
Прынясіце белую рунь
уваскрэсенай Польшчы
і з вінаграднікаў вашых падайце
чырвонае полымя соку
Поўначы снежнай!
Я, амерыканец, сын

самай бясконцай людской адзіноты,
прыйшоў навучыцца ў вас жыць,
жыць, а не паміраць!
Не для таго я пераплыў акіян
і прадзёрся праз Кардыльеры,
праз вар'яцтва і варварства
парагвайскіх турмаў,
каб знясілена ўбачыць
сярод густой зеляніны, што вядома мне
толькі па любімых кнігах,
вашы пустыя вачніцы і лужыны
вашай крыві
на дарогах.
Я сюды, да спрадвечнага мёду,
да новага шчасця прыйшоў,
да вашага міру і вашых дзвярэй,
да вашых запаленых лямпаў,
да вашых вяселляў прыйшоў.
Да вашых велічных бібліятэк
з далечы дальняй прыйшоў.
Да вашых магутных заводаў
прыйшоў, каб папрацаваць
і паснедаць з рабочымі вашымі разам.
Я заходжу ў вашы дамы
у Венецыі, Венгрыі, у Капенгагене,
у Ленінградзе я гутару з Пушкіным
юным,
у Празе — з Фучыкам мужным,
з усімі памерлымі і жывымі,
з холадам петраў Поўначы
і цяплом гваздзікаў Салерна.
Я той сведка, што прыходзіць
паведаць ваш дом.
Прапануйце мне мір і віно.

Я пайду на світанні.

Мяне ўсюды на свеце чакае
вясна.

**ЧЫЛІЙСКАЕ «КАЛІ»**

О Чылі, доўгі пялёстак
з мора, віна і снегу,
калі,
калі ж,
О калі
з табой я сустрэнуся зноў?
Ты абдымеш мяне
рукою ў белай і чорнай пене,
а я свае вершы выпушчу
крыляць над тваёю зямлёй.
Ёсць людзі —
ні рыба, пі вецер,
ёсць людзі —
з вады суцэльнай.
Я вылеплены з зямлі.
Па белым свеце праходжу
І радуюся міжвольна:

кожны горад мне новую долю дае.
Свет нараджаецца.
Але калі ў Лоці накрапвае дождж,
кроплі падаюць мне за каўнер,
а калі ў Ланкіма і снег
апускаецца ціха на дрэвы,
ён садзіцца мне на плячо.
Ува мне каласіцца збажына Кауціна.
У мяне свая араўкарыя ў Вільярыцы,
пясок па Вялікай Поўначы,
залатая ружа ў правінцыі,
і вецер, які разбівае
апошнюю хвалю ў Вальпараіса,
мне ў грудзі ўрываецца з шумам,
як быццам у маім сэрцы
разбіта акно.
Кастрычнік настаў, так нядаўна
быў госцем мінулы кастрычнік,
што раптам здалося мне, быццам
на год прыпыніўся час.
Тут восень. Перасякаю
сібірскія стэпы.
Як кінуць вокам, жоўтае ўсё вакол:
заводы і дрэвы,
зямля і тое, што стварыў на зямлі чалавек;
сёння тут — золата і агонь барвовы,
заўтра — прастора, снег, чысціня.
У маёй краіне вясна
з Поўначы квецень прыносіць па Поўдзень.
Яна, як дзяўчо,
што над чорнымі скаламі Кокімба,
над берагам, белым ад пены,
ляціць басанож
да параненых архіпелагаў.
Не толькі зямлёю, вясна,
перапаўняючы, вабіш мяне.
Я не бяздомны бадзяга.
Я нарадзіўся на Поўдні. Адтуль я
вынес самотную пыху
індзейскага правадыра,
што імчыцца галопам па дзікім кані.
Але Партыя загадала саскочыць з каня,
і я стаў чалавекам і пайшоў
па гарах і пясчаніках,
адкрываючы і сцвярджаючы жыццё.
Народ мой, ці праўда, што ты вясной
імя мае чуеш
і пазнаеш мяне,
як раку,
што плюскоча ў цябе ля парога?
Я — рака. Калі прыслухаешся,
пад салянымі капальнямі Антафагасты
ці паўднёвай Асорна,
ці ля гор Меліпіллі,
ці ў Тэмука, ноччу,
поўнай вільготных зорак і звонкага лаўра,
калі вухам сваім да зямлі прыпадзеш ты,
дык пачуеш тады, як бягу,
як пяю пад вадой я.
Кастрычнік, вясна,

О, вярні мяне майму народу!
Як жыць мне, не бачачы
тваіх мужчын і дзяўчат?
Як жыць мне, не ўзняўшы на плечы
долю надзеі?
Як жыць мне, не ступаючы пад тваім
сцягам,
які з рук у рукі, за шэрагам шэраг
у барацьбе нашай доўгай
прыйшоў да мяне?
О Радзіма, Радзіма,
о Радзіма, калі,
О калі ж,
кал і
з табой я сустрэнуся зноў?
У расстанні з табою
часцінкай зямлі і народа твайго
я застаўся,
І сягоння зноў надыходзіць вясна.
Але я ў тваіх кветках іду,
з перамогай тваёй нада мною,
і жывуць у табе, як раней, мае карані.
О каліж
зноў сустрэнуся я з тваёю суровай вясною,
І, як сотні сыноў тваіх верных,
зноў пакрочу па вуліцах і палетках
у маіх чаравіках стаптаных?
О калі я найду
з Эліасам Лафертэ
па памне тваёй залацістай?
О калі прыпаду я да вуснаў тваіх,
чылійка, ты ж чакаеш мяне,
пацалункам сваім перасмяглым?
О калі
на партыйны сход я прыйду
І сяду побач з Педра Качагарам?
Я не знаю яго, але ўсё-такі ён
мне раднейшы за брата.
О калі
мяне ўранні разбудзіць зялёны гром
тваёй лёгкай марской накідкі?
О калі я, Радзіма, на выбарах
зноў пайду з дома ў дом заклікаць
палахлівую волю,
каб крыкнула смела на вуліцы?
О калі мне, Радзіма,
ты жонкаю станеш
з вачамі, як хваля, у сукенцы, як снег,
І ўсе нашы дзеці — іх будуць мільёны —
галодным зямлю аддадуць?
О Радзіма без лахманоў,
О вясна мая,
калі ж, о калі, калі
я прачнуся ў тваіх абдымках,
прапахлы расою і морам?
Калі ж буду побач
І зноў цябе абдыму?
Нікому не дам да цябе дакрануцца,
засланю цябе
песняй!

Калі ж
я пайду з табою, калі
пойдзеш ты са мною, калі,
о калі?

## Ота Фернандэс

### МЫ ПАВІННЫ СКАЗАЦЬ

Мы павінны сказаць,
імкнучыся наперад, сказаць:
Першы клопат у нас — аб старых,
бо тупое падміргванне смерці,
твар драўляны не прыкмячаем
мы ў іхніх вачах.
Бо над іх галавамі смерць кружляе
і азбуку страху
мы чытаем у іхніх вачах.

Першы клопат у нас — аб старых,
бо жыццё ўжо даўно спарахнела
у іх дзяснах, у іхніх вачах,
што разгледзелі зблізку
бяздонную адзіноту,
якая рассыплецца пылам вось-вось.

Першы клопат у нас — аб старых,
аб іх венах ліловых, іх штучных зубах,
што на ноч апускаюць у шклянку,
аб супах перацёртых, аб касцях
ломкіх, як у дзяцей.

Першы клопат заўсёды ў нас — аб старых,
бо сваімі гадамі
яны змусілі змоўкнуць жыццё.

## КАБ УРАТАВАЦЬ МАРЫЮ

*Элісеа Дыега*

З зараслага цёмнага сада,
дзе гнуткіх галін калыханне,,
прыкульгвае ціха Марыя
увечары, на змярканні.

Нясмелыя крокі Марыі,
сукенкі белай мільганне,
бабуля ў старых акулярах
увечары, па змярканні.

Марыя з пахучым язмінам,
старая ў дрымотным маўчанні:
я, мяч і бейсбольная біта
увечары, на змярканні.

Марыя прыводзіць дзяўчынку,
запятую нудным вязаннем,
я толькі гляджу ў яе вочы
увечары, на змярканні.

Няма ў маёй біты нікога,
а ў мілай дзяўчынкі ёсць пані,
я толькі ёй вочы цалую
увечары, па змярканні.

Выходзіць нячутна Марыя,
чарнеюцца клумбы герані,
самотныя крокі і вецер
увечары, на змярканні.

Марыя кульгае і плача,
нічыім ужо мяч мой не стане,
сціхае ўсё і паміраe
увечары, на змярканні.

## НОЧЧУ

Вось зараз,
калі ноч распасцерлася
і заціхла
і калі па нябёсах абвялі
пялёсткі завей,
у калысцы сваёй
з запацелага крышталю
скурчылася ў камячок
далікатная цнота
шэрані.

## Давід Чэрысіян

* * *

Калі ты зразумееш жыццё
як справу,
дзе важнейшае самае
проста ўдзел,
дык па-свойму
ты вецер тады пазавеш,
будзеш сумны,
а можа,
вясёлы,
магчыма,
пражывеш непрыкметна
між пас
або ўладнай рукою
акрэсліш
новыя
рэчышчы рэк.

Не пакажа ніхто табе
сёння
дарогу,
па якой
да апошняй сваёй адзіноты
непазбежна ты пойдзеш,
нават калі
ты ў паветра сабе адабраў
далягляды,
нават калі
я імя тваё
ў сваіх словах
пакінуў.

* * *

Асвятлі свае вочы здзіўленнем,
утрапеннем
перад бурнаю дзеяй,
што віруе навокал
і напоўнена сілай,
якой ты не зведаў дагэтуль
і якая нясе табе тайны,
канцэнтрычныя лікі,
што кладуць свае доўгія цені
на твае краявіды,
вясёлыя і заманлівыя,
якія з вады вырастаюць і з зерня

* * *

Жыццё свой звычай пацвярджае зноўку:
як толькі рэч малая з моды выйшла,
яна ўступае моўчкі месца іншай.
А ў той свае сімпатыі. Ад шоўку,

што апранаў вясковае вяселле,
застаўся толькі дотык, толькі водар

і намяць — нібы галубкі, што воддаль
на посудзе фарфоравым паселі.

На сметніку знайшоў я мяч разбіты
і лялькі растрыбушанай галоўку,
веласіпед трохколавы забыты.

Няма ўжо тых, хто ўспомніў бы аб шоўку,
аб адзіноце з адышоўшым бытам:
жыццё свой звычай пацвярджае зноўку.



## ЗМЕСТ

**ТРЫ КАЗКІ ПРА ЗАЯ**



**ПЕСНІ**

**З ФРАНЦУЗСКАЙ**

*Гайяр-сын*
Народ — Камуна — Версаль

**З ІСПАНСКАЙ**

*Пабла Нэруда*
Зварот да Ёўропы
Чылійскае «калі»

*Ота Фернандэс*
Мы павінны сказаць
Каб уратаваць Марыю
Ноччу

*Цавід Чэрысіян*
*** Калі ты зразумееш жыццё
*** Асвятлі свае вочы здзіўленнем
*** Жыццё свой звычай пацвярджае зноўку

**Бураўкін Г.**

Выбраныя творы: У 2 т. Т. 2. Паэма, вершы, казкі, песні, пераклады.— Мн.: Маст, літ., 1986.— 287 с., 1 л. партр.

Другі том выбранага склалі: паэма «Ленін думае пра Беларусь» — хрэстаматыйная рэч беларускай Лeнініяны, вершы апошняга часу (1978—1985), тры казкі пра Зая, шматлікія песні, пераклады савецкай і замежнай паэзіі.